28 красавіка 2017 | № 16 (530)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Брутальнае падсяленне ў гістарычнай зоне Нясвіжа**

стар. 22

**5** «СТАКГОЛЬМСКІ СІНДРОМ» БЕЛАРУСКАГА БІЗНЕСУ

Сённяшнія паводзіны айчыннага бізнесу нагадваюць паводзіны ўзятага тэрарыстамі закладніка




**6** ВІНАВАТЫЯ ТОЛЬКІ Ў ТЫМ, ШТО ТАМ НАРАДЗІЛІСЯ

Хутка Наталлі зноўку ехаць на радыетэрпію. І невядома, колькі яшчэ радыетэрапій яна перажыве. «Але трэба працягваць жыць», — усміхаецца жанчына



**7–18** Літаратурная Беларусь

**23** ТУТ СЯДЗЕЛІ ОРДА І ТАРАШКЕВІЧ



# Шлях пад даждж ом

**Сёлетні «Чарнобыльскі шлях» быў адносна малалюдны**



Сяргей ПУЛЬША









Надзвычай кепскае надвор’е — гэта галоўнае, што не дазволіла сёлетняй акцыі ў гадавіну аварыі на ЧАЭС быць масавай.

Апроч кепскага надвор’я, арганізатарам акцыі перашкодзіла і пазіцыя Мінгарвыканкама. Менавіта ён перанёс акцыю на 14 гадзін у працоўны дзень. Пра гэта даведаліся ўсе. А вось пра тое, што арганізатары здолелі дабіцца правядзення збору на 18 гадзін, так шырока вядома не было. Не дзіва, бо дамоўленасць пра гэта была дасягнутая ўвечары 21 красавіка, перад вялікімі выхаднымі. І праінфармаваць шырокую грамадскасць пра дазвол акцыі, акрамя як праз інтэрнэт, амаль не было калі.

Між тым, нельга сказаць, што «народ спужаўся» пасля маштабнай «дэманстрацыі сілы» на Дзень Волі.

Некаторыя журналісты адзначалі, што на акцыю прыйшоў сталы «актыў» палітычных партый. Сапраўды, бачныя былі Віталь Рымашэўскі і Павел Севярынец з БХД, Марына Хоміч, Анатоль Лябедзька з паплечнікамі, назіраў за дэманстрантамі Аляксандр Ярашук з Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў, не абышлося, зразумела, без лідара Партыі БНФ Аляксея Янукевіча і намесніка старшыні партыі «Зялёныя» Дзмітрыя Кучука. У першых шэрагах ішоў Вячаслаў Сіўчык. Прыйшоў і няўдалы кандыдат у прэзідэнты ад дармаедаў Юры Шульган.

Але, калі і меркаваць, што «Чарнобыльскі шлях» сабраў актыў апазіцыі, то гэта быў прынцыпова іншы актыў. Таму што раней «асабліва актыўных» набіралася чалавек дзвесце, як гэта было, напрыклад, на «Дзяды» ў 2010-м. Зараз журналісты «па галовах» налічылі шэсцьсот.

Нягледзячы на ўсе рашэнні Мінгарвыканкаму, арганізатары ўсё ж вырашылі і рэалізавалі свой фармат правядзення акцыі. Міні-мітынг прайшоў адразу на месцы збору дэманстрантаў — ля кінатэатра «Кастрычнік». Потым людзі прайшлі міма плошчы Бангалор — адразу да Чарнобыльскай капліцы на Карастаянавай. Там запалілі знічкі і ўсклалі кветкі.

І вось тут Мінгарвыканкам маштабна памыліўся. Так заўсёды бывае, калі ўлада дэманструе, нібы адна рука не ведае, што робіць другая. Справа ў тым, што сталічныя ўлады далі дазвол на правядзенне «Чарнобыльскага шляху», і ў той жа час — Чарнобыльскага мітынгу Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ у Кіеўскім скверы. Тактыка зразумелая: «Падзяляй і ўладар» — актыў КХП не прыйдзе на Шлях, а дэманстранты не трапяць на мітынг прыхільнікаў Пазняка.

Аднак арганізатары шэсця адмовіліся ад мітынгу ля капліцы. Павал Севярынец запрасіў жадаючых прайсці да месца мерапрыемства КХП-БНФ, і сам падаў гэтаму прыклад.

За ім рушылі некаторыя ўдзельнікі «Чарнобыльскага шляху». Зразумела, пры гэтым не згортваючы сцягоў. Такім чынам замест аднаго шэсця імправізавана атрымалася два — ад Акадэміі навук да Чарнобыльскай капліцы і ад капліцы да Кіеўскага скверу.

**Арганізатары рэалізавалі свой фармат правядзення акцыі**

Падаецца, гэта менавіта тое, што Мікола Статкевіч называў «пашырэннем тэрыторыі свабоды»: калі людзі ходзяць са сцягамі, дзе захочуць і як захочуць. Прынамсі, міліцыянты ўдзельнікаў гэтай спантаннай акцыі (нягледзячы на разгорнутую сімволіку) не затрымлівалі.

Да мітынгу КХП-БНФ далучылася даволі невялікая частка людзей — чалавек семдзясят. «Далучэнцаў» віталі воплескамі, а Паўлу Севярынцу нават далі слова на трыбуне. Ніхто не чапаў і Вячаслава Сіўчыка, які падаецца, ужо даўно атрымаў ад КХП статус «правакатара».

Вось гэта і стала сенсацыяй — тое, што памяць пра Чарнобыль (і, імаверна, не толькі яна) здолела аб’яднаць, падавалася б, непрымірымых канкурэнтаў. Такога не чакаў ніхто — замест «падзяляй і ўладар» атрымалася адзінства.

Бадай, гэта самы цікавы вынік апазіцыйных акцый, прысвечаных Чарнобылю. Нават з’явілася надзея, што апазіцыя можа аб’яднацца.

Апазіцыйны актыў прадэманстраваў еднасць. А вось што прадэманстравала ўлада? Толькі ля месца дазволенага (!) мітынгу КХП-БНФ я налічыў 15 (!) міліцэйскіх аўтобусаў, не кажучы ўжо пра легкавікі і мікрааўтобусы. Калі падлічыць суадносіны першапачатковай колькасці мітынгоўцаў КХП і міліцыі, то на чатырох актывістаў прыходзілася па адным аўтобусе. І не выключаю, што па трое міліцыянтаў на мітынгоўца. Пры тым, што «Чарнобыльскі шлях» заўсёды быў мерапрыемствам жалобным, а не канфрантацыйным.

Калі ўлада не спалохалася, то страшэнна занепакоілася — дакладна. І, калі ўжо Севярынец прамаўляе на мітынгу КХП-БНФ, непакоіцца ёй ёсць пра што.

**Фота Паўла Аксіновіча**

# Першамай у Брэсце пад забаронай

**Брэсцкі гарвыканкам забараніў правядзенне першамайскай дэманстрацыі і мітынгу прадстаўнікам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), Аб'яднанай грамадзянскай партыі і партыі БНФ.**

Арганізатары мерапрыемстваў Ігар Маслоўскі, Уладзімір Вуек і Зміцер Шымански мелі намер правесці дэманстрацыю па цэнтральных вуліцах Брэста, а завяршыць масавую акцыю мітынгам на плошчы Свабоды.

Мэтамі масавага мерапрыемства прадугледжвалася абмеркаванне і выказванне грамадзянамі свайго стаўлення да бягучых праблем у эканамічным і палітычным жыцці Беларусі, данясенне да ўдзельнікаў мітынгу адказаў органаў дзяржаўнай улады на рэзалюцыі мітынгу 25 сакавіка 2017 года.

«Крок наперад, 2 крокі назад — гэта дзеянні ўладаў. Такая сітуацыя з правамі чалавека, такая сітуацыя ў палітыцы, у эканоміцы і сацыяльнай сферы. Пры такім падыходзе ніякія суботнікі і міжнародныя крэдыты не выратуюць нашу краіну ад беднасці і бяспраўя. Атрымліваецца, што праз 130 гадоў з дня абвяшчэння Дня салідарнасці працоўных, для нашай краіны нічога не змянілася», — каментуе адказ мясцовых уладаў старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі БСДП Ігар Маслоўскі.

«Прынятае рашэнне гарвыканкама не адпавядае духу імкнення да агульнага пошуку рашэння лакальных і агульнарэспубліканскіх праблем, ідэі канструктыўнага дыялогу, пра які заяўлялі прадстаўнікі мясцовых уладаў на мітынгу 25-га сакавіка ў Брэсце. Мы выказваем надзею на тое, што, нягледзячы на забарону дэманстрацыі і мітынгу 1 мая, дамоўленасці, дасягнутыя паміж прадстаўнікамі гарвыканкама і аргкамітэтам Дня Волі, будуць увасоблены ў рэальнасць», — выказвае сваю пазіцыю старшыня абласной структуры партыі БНФ Дзмітрый Шымански.

Па словах Маслоўскага, ніхто не можа забараніць жыхарам горада адсвяткаваць 1 Мая — Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных. «Краіна чакае пераменаў. Кожны жыхар Беларусі мае права на годны ўзровень жыцця і сацыяльную абарону. Мы будзем змагацца за справядлівасць і раўнапраўе ў нашай краіне. Мы верым, што нашы салідарныя дзеянні прывядуць да поспеху. Далучайцеся!» — заклікае Маслоўскі.

**Прэс-служба аргкамітэта**

# Адышоў у іншы свет Анатоль Мяльгуй

**Дэмакратычная, культурная Беларусь панесла вялікую страту. На 60-м годзе жыцця 22 красавіка пасля цяжкай працяглай хваробы памёр яе выдатны сын і гарачы патрыёт — Анатоль Мітрафанавіч Мяльгуй — выдатны музычны крытык, адзін з лепшых недзяржаўных майстроў пяра — журналіст высокага класа.**



Будучы ў нялепшым фізічным стане, ён да апошняга дня, да адыходу ў іншы свет, быў, як кажуць, на перадавой у змаганні за беларушчыну. Пастаянны і сталы аўтар «Новага Часу», «Нашага слова», «Краязнаўчай газеты», «Турызма и отдыха», «Беларуса» (Нью-Йорк) і іншых выданняў.

Анатоль Мітрафанавіч з дэмакратычных і патрыятычных пазіцый асвятляў самыя розныя грамадзянскія і культурніцкія падзеі, акцыі, імпрэзы, і рабіў гэта па вялікаму гарту і рахунку. Яму былі падуладны любыя тэмы жыцця яго любімай Беларусі. Ён быў шырока адукаванай асобай. Таму з-пад яго пяра заўсёды выходзілі бліскучыя матэрыялы (кнігі ў сааўтарстве з Вітаўтам Мартыненкам, інфармацыі, рэцэнзіі, паведамленні і інш., вядома, з яго фота) і прытым заўсёды аператыўна. Як чалавек Анатоль Мітрафанавіч быў вельмі дэмакратычны, таварыскі, добразычлівы, сціплы і спагадлівы. Як сябра клуба «Спадчына» (клуб у свой час стварыў светлай памяці незабыўны і незаменны Анатоль Белы) ён слугаваў яму з поўнай аддачай.

Цяжка хворы, Анатоль Мітрафанавіч ніколі не скардзіўся на здароўе. Самымі дзейснымі лекамі для яго, аптыміста, былі клопат, руплівасць і праца на карысць Бацькаўшчыны.

Смуткуем, падзяляем гора з роднымі і блізкімі дарагога нам Анатоля Мітрафанавіча Мяльгуя. Светлая аб ім памяць.

*Яўген Гучок, Ілля Копыл, Уладзімір Раманоўскі, Ала Белая, Леанід Лыч, Мікола Лавіцкі, Аляксей Будзянок, Мікола Савіцкі, Надзея Сармант, Сяргей Сармант, Пятро Русаў, Ян Антанюк, Алесь Цыркуноў, Ігар Курыцын, Мікола Несцярэўскі, Уладзімір Ліпскі*

# Курапаты: погляд польскіх і беларускіх архітэктараў

Марат ГАРАВЫ



**У сталічным Палацы мастацтваў 27 красавіка адбылася цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў і ўдзельнікаў адкрытага грамадскага творчага конкурсу «Курапаты — народны мемарыял» пад дэвізам «Праз Курапаты — да пакаяння».**

Яго арганізатараў — грамадскую ініцыятыву «Эксперты ў абарону Курапатаў» і суполку «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў — падтрымалі больш за 10 структураў грамадзянскай супольнасці краіны.

За перыяд з 10 сакавіка 2016-га па 22 лютага 2017-га ў аргкамітэт конкурсу паступілі 44 працы ў скульптуры, інсталяцыі, графіцы, жывапісе, архітэктурна-ландшафтным праектаванні і літаратуры. А паколькі больш 38 аўтараў з Беларусі і Польшчы з 22 па 28 лютага экспанаваліся ў Мінску на II дакументальна-мастацкай выставе «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні», хацелася б пазнаёміць нашых чытачоў з архітэктурна-ландшафтнымі праектамі, якія маюць найбольшую цікавасць у сувязі з тым, што дзяржава таксама аб'явіла правядзенне падобнага творчага спаборніцтва.

На грамадскі конкурс у галіне архітэктурна-ландшафтнага праектавання былі дасланыя прапановы з майстэрань «Danseras» (Лодзь, Польшча) і «Рэставіліс» (Мінск, Беларусь).

Маладыя польскія архітэктары Юлія Сабалеўская і Рафал Ёзвяк былі ўражаны вялікай колькасцю пахаванняў і бясконцым гулам аўтатранспарту, што рухаецца па МКАД і Заслаўскай шашы, якія з двух бакоў атачаюць лясное ўрочышча. Вось чаму аўтары найперш лічаць неабходным узвесці акустычныя экраны паміж Курапатамі і аўтатрасамі.

Прапанаваны дойлідамі архітэктурны ансамбль «Цэнтру нацыянальнай памяці» павінен задаволіць інфармацыйныя і духоўныя патрэбы людзей розных канфесій і веравызнанняў — наведнікаў гэтага месца масавай згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій эпохі сталінізму. Вось чаму ансамбль з бетону, які месціцца ў ахоўнай зоне каштоўнасці, складаецца з дзвюх частак — наземнай (экуменічная капліца — 222 м², h=12м) і падземнай (інфармацыйна-музейны цэнтр — 620 м²).

Панэлі бетоннага фасаду будынку мяркуецца ўпрыгожыць беларускім нацыянальным арнаментам. Прычым ва франтальнай частцы будынку мяркуецца ўжыць мабільныя панэлі, якія дазваляюць «разгарнуць» капліцу на вуліцу. Такі варыянт аўтары лічаць карысным, калі колькасць жадаючых паўдзельнічаць у набажэнстве перавышае магчымасці святыні.

Музейную частку ансамбля аўтары заглыбілі ў падзем'е на 2,5 метры (сярэднюю глыбіню пахаванняў). На думку архітэктараў, такі падыход дазваляе наведнікам «зблізіцца» з расстралянымі і адчуць змрочнасць трагедыі. І толькі адтуліна ў столі як бы злучае свет памерлых са светам жывых.

Верхняя частка будынку памерам 26х18 метраў прыстасавана для агляду навакольнага ландшафту.

Спадары Юлія і Рафал таксама прапанавалі маршрут агляду Курапатаў. Ён пачынаецца ад паркоўкі (на паўночны захад ад лесу каля «Бульбаш-холу», які неабходна разабраць і перанесці ў іншае месца), ідзе праз Галгофу да «Цэнтру нацыянальнай памяці», а затым праз тунэль пад МКАД — у паўднёва-заходнюю частку народнага мемарыялу.

У грунт сваёй прапановы беларускія архітэктары Вадзім Гліннік. Раман Забэла і Дар'я Мандзік паклалі планіровачную схему, якая аб'ядвае асобныя існуючыя элементы ўшанавання расстраляных ахвяраў у адзіную мемарыяльную структуру. Пры гэтым прадугледжана абмежаваць аб'ёмы новага будаўніцтва ўзвядзеннем у ахоўнай зоне каштоўнасці невялікага Музею народнай памяці з экуменічнай капліцай (на здымках паказаны абодва варыянты размяшчэння гэтага комплексу) і арганізацыяй камунальнай зоны.

Важным элементам мемарыялу аўтары лічаць жытнёвае поле і частку т.зв. «Дарогі смерці» — апошняга шляху ахвяраў на расстрэл.

Прапануецца арганізаваць два маршруты наведвання мемарыялу: «Крыжовы шлях» (горад — «Дарога смерці» — кампазіцыя «Брама» — кампазіцыя «Галгофа» — «Народны мемарыял» — Музей народнай памяці з капліцай — горад. А таксама: горад — Музей народнай памяці з капліцай — «Народны мемарыял» — горад.

Аўтары зазначаюць, што аб'ядналі шэраг размаітых ідэй, выказаных калегамі і аднадумцамі, а ў графічнай частцы свайго праекту скарысталі матэрыялы грамадскага конкурсу «Курапаты — народны мемарыял» з дазволу яго арганізатараў.

Апроч таго, у актавай залі Палаца мастацтва былі прадстаўлены прапановы аргкамітэту грамадскага конкурсу ўдзельнікам яго другога этапу (19 красавіка — 1 лістапада 2017-га).

# Праваабаронцу асудзілі на 20 базавых

**Разгляд адміністрацыйнай справы ў адносінах да праваабаронцы Тацццяны Равяка пасля перапынку працягнуўся 26 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска.**

Пасяджэнне двойчы пераносілася, аднак нарэшце суддзя Вікторыя Шабуня ўсё ж змагла давесці справу да канца.

У судзе 26 красавіка ў якасці сведкі затрымання выступіла юрыстка ПЦ «Вясна» Наста Лойка, а таксама да матэрыялаў справы была далучана маніторынгавая справаздача назіральнікаў за ходам мірнай акцыі пратэсту, што адбылася 26 сакавіка.

Па выніку пасяджэння суддзя Вікторыя Шабуня палічыла віну Таццяны Равяка даказанай і асудзіла праваабаронцу да штрафу ў 20 базавых велічынь.

Нагадаем, Таццяну Равяка затрымалі 26 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы Мінска і, разам з іншымі затрыманымі, адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна сталіцы, дзе доўгі час утрымлівалі ў жорсткіх умовах, у дворыку, тварам да сцяны, з паднятымі ўгару рукамі.

Пазней стала вядома, што супрацоўнікі міліцыі склалі на праваабаронцу адразу два пратаколы: па артыкуле 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і 23.4 КаАП РБ (непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы). Пратаколы праваабаронцы не прад'яўлялі, і яна іх не падпісвала.

Праваабаронца накіравала ў Пракуратуру горада Мінска скаргу ў сувязі са сваім адвольным затрыманнем на Кастрычніцкай плошчы 26 сакавіка і жорсткім абыходжаннем у Цэнтральным РУУС, куды яна была дастаўлена пасля затрымання. Адказу яна пакуль не атрымала.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як уладкаваць Беларусь

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як нам уладкаваць краіну? Усё вельмі проста: трэба спачатку запланаваць візіт Лукашэнкі ў нейкае мястэчка —а потым раптоўна адмяніць. Да адмены паспеюць давесці населены пункт да ладу.**

Так адбылося з Веткай. Здаецца, усе сачылі за тым, што там адбываецца. Спачатку з занепакоенасцю, бо там секлі дрэвы і планавалі знішчыць знакаміты музей. Потым з цікавасцю: у горадзе фарбавалі платы, перакладалі плітку і «асвяжалі» помнік Леніну, клалі асфальт. Адначасна ставілі бардзюры, фарбавалі фасады будынкаў, чынілі вулічныя ліхтары, ладзілі тэлефонную сувязь.

«Нам загадалі да 20 красавіка завяршыць усе вулічныя працы», — тлумачыў дарожны рабочы з Рэчыцы Аляксандр. Парадкавалі вуліцы рабочыя з Добруша, Буда-Кашалёва, Брагіна...

А Лукашэнка прамяняў Ветку на Украіну. Разам з калегам Пятром Парашэнкам ён наведаў атамную станцыю ў Чарнобылі і размешчаныя побач аб'екты. «Асноўная ўвага будзе нададзена працы па падтрыманні на належным узроўні радыяцыйнай бяспекі, што непасрэдным чынам закранае інтарэсы жыхароў абедзвюх краін», — паведамляла прэс-служба беларускага кіраўніка напярэдадні візіту. Кіраўнікі Беларусі і Украіны азнаёміліся з будаўніцтвам новага «Саркафагу-2» і захоўваннем адпрацаванага ядзернага паліва, ушанавалі памяць ліквідатараў і пацярпелых у выніку аварыі.

Не думаю, што толькі гэтым сустрэча Парашэнкі і Лукашэнкі абмяжавалася. Ім сапраўды ёсць пра што паразмаўляць. Апроч звычайнага «агульнага тавараабароту» тэмаў багата. Гэта і незразумелыя джыпы, якія матэрыялізуюцца разам з нейкімі злачынцамі-тэрарыстамі на ўкраінска-беларускай мяжы, а потым гэтак жа таямніча дэматэрыялізуюцца, папярэдне нарабіўшы вэрхалу. І нейкія «лагеры падрыхтоўкі беларускіх баевікоў», якія, як прывіды, узнікаюць у нейкіх кутках Украіны, і таксама дзіўным чынам знікаюць, не пакінуўшы пасля сабе нават смецця.

Відавочна, спадару Парашэнку не даспадобы, што беларускі бок выстаўляе яго краіну як рассаднік і экспарцёра тэрарызму. А пасля праверкі аказваецца, што гэтыя «тэрарысты» існуюць толькі ва ўяўленні беларускіх сілавікоў.

Сапраўды, навошта гнаць на джыпе праз мяжу, прарываць кардоны памежнікаў, калі ў Сінявокай, па-першае, пяцідзённы «бязвіз» з паловай свету, а з Украінай і ўвогуле «бязвіз» нелімітаваны.

Дарэчы, наконт «бязвізу». Прэм'ер Кабякоў нарэшце заўважыў тое, пра што гадамі кажуць нашы турыстычныя канторы. Ён прызнаў, што калькасць і якасць прапанаваных турысту паслуг пакуль далёкая ад узроўню суседніх краін.

Прэм'ер адзначыў, што ўвядзенне бязвізавага рэжыму павінна садзейнічаць росту патоку турыстаў у Беларусь. «Але турыст хоча добра паесці, нядорага адпачыць, каб усе санітарна-бытавыя ўмовы былі на належным узроўні. Мы да такога наплыву турыстаў гатовыя? Не думаю, — працытавала Кабякова БелТА. — Многія, вяртаючыся з турнэ па еўрапейскіх краінах, прыязджаюць да нас і кажуць: тут сэрвісу не хапае, там сэрвісу не хапае. Значыць, трэба стварыць яго».

На думку прэм'ера, развіццю бізнесу і сферы паслуг павінны садзейнічаць дакументы па разняволенні прадпрымальніцтва. Але...

Што значыць «разняволіць прадпрымальніцтва» па Кабякову? Стварыць спрыяльныя ўмовы для яго дзейнасці? Надаць падатковыя льготы? Даць крэдыты на развіццё бізнесу і сэрвісу? Урэшце, зменшыць кантроль над прадпрымальнікамі?

Паводле Кабякова, «развіццё прадпрымальніцтва» — гэта «аптымізацыя» кантрольна-наглядный дзейнасці дзяржавы. Пры гэтым, заўважым, ён зазначыў: аб скарачэнні кантрольна-наглядный дзейнасці размова не ідзе. Толькі «аптымізацыя»!

А гэта азначае, што, пакуль Кабякова не зменіць іншы прэм'ер, ніякага развіцця турыстычнай інфраструктуры за кошт прадпрымальніцкай дзейнасці не адбудзецца.



Дый не ў асобе Кабякова, урэшце, тут справа. Справа ў дзяржаўным падыходзе да гаспадаркі. І пакуль гэты «кантрольна-рэвізійны» падыход не зменіцца, нічога мы не дамажамся.

І так — ва ўсім. Вось напрыклад, днямі ў Расіі высветлілі, што трацiна згушчонага малака на яе рынку — падробка. Такая арганізацыя, як «Роскачество» праверыла 27 гандлёвых марак прадукцыі «згушчанае малако цэльнае» — падобная маркіроўка не дапускае выкарыстанне ні раслінных тлушчаў, ні штучных загушчальнікаў і дадаткаў пры яе вытворчасці тлустасцю 8,5% па ўсёй Расіі. У сапраўдным згушчаным малацэ можа быць толькі малако і цукар. Калі ж да малака дадаюцца крухмал і раслінныя тлушчы, то гэта ўжо не згушчанае малако, а малочны прадукт, які можа называцца «Варанка», «Згушчанка», але толькі не «згушчанае малако». Як паказала даследаванне, у 10 выпадках нібыта зробленае па дзяржстандартах згушчанае малако аказалася «малочным прадуктам» і не дацягвае да заяўленага стандарту, гаворыцца ў паведамленні «Роскачества».

Што б зрабілі вытворцы іншай краіны, маючы такую інфармацыю і эканамічны саюз з краінай-інфарматарам? Канешне б, завалілі б суседнюю дзяржаву якасным прадуктам. Але ў нас знакаміты Рагачоўскі малочнакансервны камбінат чамусьці дыхае на ладан. Не лепшая сітуацыя і ў Глыбокскага МКК. А гэтыя два прадпрыемствы якраз і ствараюць якаснае «малако згушчанае цэльнае».

Але павярушыцца, каб заваяваць расійскі рынак, — не могуць. Таму што для гэтага трэба рызыкнуць. А ў нас усё робіцца ў парадыгме выступу Лукашэнкі перад дэпутатамі: «На тое, каб пачынаць рэформы, рызыкаваць, у нас няма грошай». Дык так і сканаем бедныя і безграшовыя.

Праўда, дзе ўзяць грошы на рызыку? Ды знайсці іх лёгка. Днямі Аляксандр Рыгоравіч «засвяціў» сваё новае аўто — Audi Q7. На гэтым аўтамабілі ён прыехаў у храм Праабражэння Гасподняга ў горадзе Барань 16 красавіка.

Цэны на новыя Q7 пачынаюцца ад 53 тысяч еўра. Самыя дарагія камплектацыі каштуюць каля 120 тысяч еўра, піша kp.by.

Калі кіраўнік Беларусі перасеў на новую машыну, давайце прададзім яго старыя «мерсэдэсы» і «майбахі». І атрымаем грошы і для Рэчыцкага, і для Глыбокскага МКК. А там, калі пашукаць, можа і на рэформы рэзервы знойдуцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Зянон Пазняк



**Беларускаму археолагу, мастацтвазнаўцу, празаіку, паэту, палітыку і палітэмігранту споўнілася 73 гады, з чым яго і віншуем.**

Да свайго дня нараджэння Зянон Станіслававіч з паплечнікамі прэзентавалі праграму рэформаў Беларусі «Вольная Беларусь». Паводле задумы аўтараў, 76-старонкавы дакумент павінен выкарыстоўвацца «часовым або пераходным урадам» краіны пасля змены «антынароднага рэжыму».

Праграма «Вольная Беларусь» напісана калектывам з 9 аўтараў, якія з'яўляюцца прафесіяналамі ў сваіх галінах. Праект застаецца адкрытым, гаворыць адзін з распрацоўнікаў дакумента палітолаг Павел Усаў. Ён выкладзены ў публічны доступ, каб грамадства магло выказаць сваю крытыку, свае прапановы. І калі беларусы, грамадскія арганізацыі ўключацца ў далейшы працэс распрацоўкі ці дадатковых рэкамендацый, гэта будзе толькі плюс.

Дакумент прадугледжвае фармаванне «часовага ўраду», стварэнне прэзідэнцка-парламенцкай рэспублікі, пераход на талер і ваяводствы замест абласцей.

## Ганна Бонд



**Беларуская тэлевядучая прабегла ў Мадрыдзе паўмарафон і на фінішы ўзняла бел-чырвона-белы сцяг.**

«Быў ліміт — трэба было прабегчы за тры гадзіны, я прабегла за 2.40. Першыя пяць кіламетраў даваліся вельмі цяжка, потым проста прыходзіць разуменне таго, што адступаць няма куды. Апошнія два кіламетры цягнуліся вечнасць. На фінішы аж расплакалася», — падзялілася Ганна Бонд эмоцыямі з «Нашай Нівай»

Пра сцяг Бонд адказала проста: «БЧБ — годны сцяг з гісторыяй. Зрэшты, як і я. У мяне таксама вялікая гісторыя бясконцага пераадолення сябе».

Што тычыцца канкрэтна гэтага палотнішча, то з ім дыстанцыю прабег эстонскі грузін Сяргей Махашвілі. Ён — грамадзянін Расіі, які жыве і працуе ў Беларусі. Такім чынам ён хацеў выказаць сваё пачуццё да нашай краіны.

## Максім Рыжанкоў



**Віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага Алімпійскага камітэту пакідае пасаду.**

Гэта месца Максім Рыжанкоў заняў у канцы 2014 года. Паводле звестак «Прэсбола», яму на змену прыйдзе 45-гадовы Андрэй Асташэвіч — шматгадовы дырэктар РЦАП «Раўбічы», таксама вядомы па рэгулярных выступах за хакейную каманду Лукашэнкі.

Журналісты звязаліся з Андрэем Уладзіміравічам па тэлефоне, аднак каментаваць будучыя змены ў прафесійнай кар'еры ён адмовіўся, параіўшы дачакацца афіцыйных рашэнняў.

Нагадаем, Лукашэнка падчас штогадовага звароту раскрытыкаваў якасць падрыхтоўкі юных хакеістаў і назваў «агіднай» працу ў спорце высокіх дасягненняў, паабяцаў рэфармаваць спартыўныя федэрацыі і НАК, а таксама прыгразіў пакараць вінаватых за дрэнна выбудаваную падрыхтоўку ў дзіцячых школах, дзе, паводле яго інфармацыі, у некаторых гарадах з юнымі хакеістамі працуюць няпрофільныя спецыялісты — па плаванні і веславанні.

«Праца ў гэтым кірунку цалкам праваленая. Тут і віна майго былога памочніка, які спортам займаўся (цяпер першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Максім Рыжанкоў), усе мяне закалыхвалі: пачакайце, вось Алімпійскія гульні, вось зараз дамо чаду, вось пачакайце трошкі, чэмпіянат свету, вось мы зараз пакажам, не, не трэба нікога чапаць, усе добра ўладкаваліся», — казаў Лукашэнка.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чарговыя красавіцкія тэзісы

## Ноў-хаў Паслання–2017 — дзяржаўная служба павінна быць прыроўненая да службы ваеннай

21 красавіка адзіны палітык (АП) звярнуўся са штогадовым пасланнем да беларускага народа і парламента. Яго ўступны сказ («Усе мы з'яўляемся сведкамі таго, як сучасны свет імкліва мяняецца») згенераваў ва мне пачуццё, якое прынята называць прыгожым французскім словам «дэжавю».

Пошукавік майго кампутара пацвердзіў абгрунтаванасць пачуцця, якое ахапіла мяне: «Мы павінны вучыцца жыць у новым свеце, дзе ўсё змяняецца». Той жа аўтар. Той жа фармат выступу. Вось толькі з разбежкай у чатыры гады.

Натуральна, у мяне ўзнікла жаданне перачытаць тэкст Паслання–2013.




### Галоўная мэта

Тое, што я першапачаткова прыняў за падабенства, па факце аказалася адрозненнем. Свет, дзе ўсё змяняецца, узору 2013 года — гэта свет, у якім «кожнае дзесяцігоддзе месціць у сабе цэлую гістарычную эпоху». Гэта свет, які прад'яўляе тры галоўныя патрабаванні: хуткасць, гнуткасць і творчасць.

Кожнаму з пунктаў у пасланні былі дадзеныя дакладныя і адначасова ёмістыя характарыстыкі. Абмяжуюся часткай пра «творчасць»: «Той, хто ўвесь час капіюе, заўсёды асуджаны на адставанне. Таму любая маладая нацыя павінна, з аднаго боку, вучыцца ў навакольнага свету. Адкрыта скажам — і капіяваць, і паўтараць. А з другога — заўсёды памятаць пра тое, што на нейкім этапе трэба быць гатовым прыўнесці ў свет нешта сваё. Толькі творчасць можа забяспечыць прарыў у групу лідараў».

Імклівa змяняецца свет Паслання–2017 — гэта свет, які рухаецца «не ў бок стабільнасці і бяспекі». Гэта свет, у якім не толькі пагаршаюцца вядомыя выклікі і пагрозы, але ўвесь час узнікаюць якасна новыя. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што «сёння ніхто не можа адчуваць сябе ў бяспецы».

Вось такая дынаміка! Не паспелі добра разагнацца, авалодаць мастацтвам гнуткасці і здзейсніць пераход ад капіявання да прыўнясення ў свет чагосьці свайго, як на парадку дня аказалася ўменне ганіць «парадак і згоду».

Нам пашанцавала: ніхто і ніколі не зможа «падтачыць падмурак нашага дзяржаўнага будынка». Гарант таму — АП. Аднак адзін ён не справіцца, калі кожны з нас не зробіць пасільны ўнёсак у агульную справу. «Галоўнае цяпер — кансалідацыя ўсёй нацыі дзеля агульнай мэты: пабудовы моцнай і бяспечнай дзяржавы».

Гісторыя любіць хадзіць па кругу. Успомнім парадокс савецкай прапаганды: з аднаго боку, усё ў імя чалавека, усё дзеля чалавека, а з другога — гэты самы чалавек быў абавязаны найперш думаць пра Радзіму, а потым — пра сябе.

А цяпер звернемся да Паслання–2017. Наша агульная мэта — пабудова моцнай дзяржавы (гл. вышэй), галоўная мэта якой (зробім глыбокі ўдых і затрымаем дыханне) — «сацыяльная справядлівасць, якасць жыцця людзей, іх дабрабыт».

Такім чынам, мы маем дзве галоўныя мэты. Якая з іх больш галоўная? Адказ на гэта пытанне быў афармлены яшчэ ў савецкі час у выглядзе анекдота: «Усе ў імя чалавека, усё дзеля чалавека, і мы ведаем, як завуць гэтага чалавека».

Безумоўна, сучасная дзяржава не складаецца з аднаго чалавека. Тым не менш, у Беларусі яскрава праведзеная мяжа паміж народам і тымі, хто прафесійна клапоціцца пра павышэнне яго дабрабыту. Да апошніх належаць «людзі ў пагонах» і дзяржаўныя служачыя.

Праца ў дзяржустанове (настаўнікі, лекары і да т.п.) не робіць чалавека дзяржслужачым. Для наіўных і някемлівых у Пасланні–2017 АП асобна растлумачыў: «Трэба дакладна вызначыць, хто будзе дзяржслужачым, а хто будзе працаваць па найму ў тых ці іншых дзяржаўных структурах, не з'яўляючыся дзяржслужачым. І прыняць усе законы па дзяржаўнай службе. Дзяржаўная служба павінна быць роўная ваеннай службе (выдзелена. — С.Н.)».

### Бізун і пернік

Роля вайскоўцаў у свеце, у якім «ніхто не можа адчуваць сябе ў бяспецы», мяркую, не мае патрэбы ў дадатковых тлумачэннях. А якая роля дзяржслужачых?

Беларусь — не Паўночная Карэя, і таму пры ўсёй своеасаблівасці палітычнага ладу канкурэнтаздольнасць беларускай эканомікі «з'яўляецца асновай нашага суверэнітэту». Для разумення бягучага моманту нам давядзецца вярнуцца роўна на год назад. Тэкст Паслання–2016 быў апублікаваны пад загалоўкам «Ад упэўненага старту — да поспеху новай пяцігодкі». Першы год пятай пяцігодкі быў абвешчаны «пераломным у пераадоленні негатыўных тэндэнцый у эканамічнай сферы».

Для здзяйснення пералому, паводле словаў АП, усе эканамічныя рашэнні прынятыя. Ён пералічыў дзесяць фактараў росту, «здольных забяспечыць устойлівае развіццё». Нагадаю чытачам толькі два першыя: зніжэнне сабекошту не менш чым на 25% і стварэнне 50 тысяч новых працоўных месцаў.

Адказнай за ўвасабленне гэтай амбіцыйнай праграмы ў жыццё АП прызначыў «вертыкаль», г.зн. спецыялістаў па «закасцянелай сістэме кіравання», чыя неэфектыўная праца «тармозіць развіццё краіны». «Вертыкалі» ў чарговы раз было ўказана на неабходнасць навядзення элементарнага парадку (!), захавання дысцыпліны і тэхналагічных патрабаванняў. Выкананне гэтай трыадзінай задачы павінна забяспечыць «сур'ёзны штуршок для пераадолення адставання».

Прайшоў год. Які лёс дзесяці фактараў росту? Па традыцыі, якая даўно склалася, аналізу выканання задач, пастаўленых у папярэднім пасланні, не прагучала. АП абмежаваўся толькі канстатацыяй невыканання асноўных макраэканамічных паказчыкаў: «У нейкай меры з-за гэтага Беларусь па выніках 2016 года не змагла выйсці на прагнозныя паказчыкі па экспарту. Валавы ўнутраны прадукт зменшыўся на некалькі працэнтаў, знізіўся прыток інвестыцый, узмацнілася напружанасць на рынку працы, не ўдалося ўтрымаць на ранейшым узроўні рэальныя даходы насельніцтва».

Вось такім атрымаўся ўпэўнены старт. Ці прывядзе ён да поспеху новай пяцігодкі? Пытанне рытарычнае, але вырашаць яго, тым не менш, давядзецца. Вайскоўцы свой прафесіяналізм 25 сакавіка прадэманстравалі. Дзяржаўным служачым у гэтым сэнсе пахваліцца няма чым. Але Пасланне–2017 — гэта адначасова бізун і пернік для тых, хто адказвае за эканамічны складнік дзяржаўнага суверэнітэту.

### Каля небяспечнай рысы

«Сіла ў праўдзе». Пад такім загалоўкам быў апублікаваны тэкст Паслання–2017 у «Савецкай Беларусі». Галоўная праўда 21 красавіка прагучала: «...гэты год набывае асаблівую значнасць. Я ўжо казаў: іншага такога года не будзе, мы знаходзімся каля небяспечнай рысы, пераступіць праз якую не можам. Не зробім хоць бы паўкрокі наперад — баюся нават казаць, што можа адбыцца».

Гісторыя багатая прыкладамі, калі каля небяспечнай рысы аказваліся нават паспяховыя ў эканамічным плане дзяржавы. Пры гэтым ад іх лідараў патрабавалася не толькі прынясці апаратыўных і адэкватныя кіраўнічых рашэнняў, але і гатоўнасць падзяляць нягоды паўсядзённага жыцця разам з народам.

«Мне няма чаго прапанаваць, акрамя сваёй крыві, цяжкай працы, слёз і поту». Гэта цытата з прамовы Уінстана Чэрчыля, што прагучала 13 мая 1940 года — пасля ўступлення Вялікабрытаніі ў Другую сусветную вайну.

«Магу абяцаць толькі адно: з майго боку націск на выканаўчыя органы ўлады і ўсе галіны ўлады будзе толькі ўзмацняцца». Гэта АП. Гэта ўсё, што ён можа прапанаваць, каб не пераступіць праз небяспечную рысу.

100 гадоў таму будучы правадыр сусветнага пралетарыяту выступіў перад сваімі паплечнікамі з красавіцкімі тэзісамі. Ленінскія тэзісы — не пра пабудову светлай будучыні. Яны — пра захоп улады. «Інтэлігенты, як і працоўныя, як і сяляне, памыліліся, — тлумачыць гісторык Кірыл Кобрын, — яны думалі, што бальшавікі робяць рэвалюцыю, каб свет — нарэшце і назаўжды — стаў лепшым. А яны яе рабілі, каб рэалізаваць, выканаць на ўсе сто імі самімі (дакладней, Леніным) пастаўленую тэхналагічную задачу (задачу па захопу ўлады. — С.Н.)».

«Самы чалавечны чалавек», паводле вызначэння паэта Уладзіміра Маякоўскага, бясспрэчна, быў палітычным геніем, калі пад палітыкай разумець пытанне ўлады. Перамогу палітыкі ў ленінскім разуменні мы і назіраем у Беларусі ўжо трэці дзясятак гадоў. Важны складнік палітыкі — штогадовыя пасланні. Насуперак меркаванням асобных экспертаў, яны праводзяцца не дзеля галачкі, не дзеля фармальнага выканання 13-га пункта 84-га артыкула Канстытуцыі.

У цэнтры любога паслання — пытанне ўтрымання ўлады (захаванне стабільнасці). У залежнасці ад характару знешніх і ўнутраных пагроз — дакладней, уяўленняў АП і яго бліжэйшага атачэння пра пагрозы, — гэта можа быць мадэрнізацыя дзяржаўных прадпрыемстваў, наладжванне адносінаў з Захадам, супрацьдзеянне агрэсіўнай палітыцы Захаду і г.д.

У Пасланні–2013 слова «мадэрнізацыя» было згадана 59 разоў, у Пасланні–2017 — толькі 2 разы. Але як у першым, так і ў другім выпадку знешнія пагрозы ацэньваліся вышэй за ўнутраныя. Змянілася толькі іх прырода. Чатыры гады таму АП яшчэ спадзяваўся на эканамічны рост, і таму тэкст паслання быў апублікаваны пад загалоўкам «Абнаўленне краіны — шлях да поспеху і росквіту».

Сёння прыйшло ўсведамленне немагчымасці эканамічнай канкурэнцыі з Захадам. Адсюль зварот да праўды як крыніцы нашай сілы, і да дзяржслужачых — як дадатковай апоры ўлады (разам з вайскоўцамі).



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Чым відавочнейшая адсутнасць нейкай з'явы ў беларускай рэчаіснасці, тым больш экспертаў займаецца яе вывучэннем. Так атрымалася і з «дыялогам улады і бізнесу». Самога дыялогу няма, але вельмі шмат хто яго даследуе.**

# «Стакгольмскі сіндром» беларускага бізнесу



Сённяшнія паводзіны айчыннага бізнесу нагадваюць узятага тэрарыстамі закладніка, якога спасціг «стакгольмскі сіндром». Ён верыць, што калі будзе выконваць усе патрабаванні тэрарыстаў, то застанецца жывым і цэлым. Ён нават адчувае спагаду да тэрарыстаў. І нават калі злачынцы ўжо расстралялі некалькі іншых закладнікаў, а яшчэ аднаго катуюць — пад уздзеяннем «стакгольмскага сіндрому» чалавек усё роўна верыць, што з ім нічога не здарыцца, калі ён будзе «добра сябе паводзіць».

Гэтак жа робіць беларуская бізнес-супольнасць. Бізнесменаў арыштоўваюць аднаго за адным, але тыя, што застаюцца на волі, пацокаўшы языком, працягваюць разважаць пра неабходнасць дыялогу з уладай, сумесная працы над нарматыўнымі дакументамі і ўдасканаленнем заканадаўства.

З аднаго боку, улада дэкларуе стымуляванне дзелавой актыўнасці ў Беларусі — каб было каму плаціць падаткі. Са студзеня 2017 года група, створаная пры Адміністрацыі прэзідэнта, падрыхтавала сем дакументаў, якія павінны палепшыць умовы для вядзення бізнесу. Шмат якія з прапанаваных нормаў і на самай справе маглі б палепшыць бізнес-клімат.

З іншага боку, мы бачым рэгулярныя «пасадкі» нешматлікіх паспяховых бізнесменаў, часцяком па смяхотных, а тое і зусім надуманых падставах. І кожны арышт паспяховага прадпрымальніка, да таго ж добра вядомага за мяжой, абнуляе ўсялякі інвестыцыйны аўтарытэт Беларусі ў свеце. Прыкладаў — ад Віктара Пракапені, якога ўжо выпусцілі і які вярнуўся да сваіх IT-праектаў, і да нядаўна арыштаванага Віталя Арбузава, які, дарэчы, таксама актыўна інвеставаў у IT (праўда, у ЗША).

Але пакуль адных прадпрымальнікаў адпраўляюць у СІЗА, іншыя працягваюць разважаць пра дыялог з уладай. І чамусьці асабліва захапляльна — ад пачатку гэтага года. Часцей за іншых тое робіць Уладзімір Карагін, кіраўнік Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва. «Дыялогу бізнесу і ўлады пакуль бракуе. Але за апошні год градус узаемадзеяння істотна павысіўся, што адзначаюць самі прадпрымальнікі. Пачалі працаваць грамадска-кансультатыўныя саветы, якія, паводле пастановы Савета Міністраў, не менш чым на 50% павінны складацца з прадпрымальнікаў, — рэгулярна распавядае Карагін. — Пры тым неабходна актывізаваць дыялог на ўзроўні абласцей і раёнаў. Трэба ў кожным раёне стварыць мінімум тры саветы: па развіцці вытворчасці, гандлю і паслуг. Прадпрымальнікі з уладай могуць абгаварыць большасць мясцовых праблем».

**«Ну і што, што ВУП у доларавым выразе зваліўся на 40%? Ну і што, што пасыпаўся экспарт? Чыноўнікі ж напісалі і прынялі 6 дакументаў, 4 пастановы, 15 указанняў, 24 тлумачэнні, 146 рэкамендацый і гэтак далей. Яны працуюць!»**

«Нашы чыноўнікі не ўмеюць весці дыялог, а калі дакладней — робяць гэта фармальна. Як муж, якога жонка застукала ў ложку з іншай, пачынае апраўдвацца, які ён добры: учора бульбу пачысціў, а сёння кватэру прыбраў. Нашы службоўцы ў большасці не ўмеюць ні думаць, ні казаць, — упэўнены эканаміст, кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка. — Ну і што, што ВУП у доларавым выразе зваліўся на 40%? Ну і што, што пасыпаўся ўвесь экспарт? Чыноўнікі ж напісалі і прынялі 6 дакументаў, 4 пастановы, 15 указанняў, 24 тлумачэнні, 146 рэкамендацый і гэтак далей. Яны працуюць! А карысці з таго?»

Галоўнай падзеяй у дзіўным «дыялогу» з уладай самі прадпрымальнікі лічаць XVIII Асамблею дзелавых колаў. Яе наведалі міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі, міністр гандлю Уладзімір Калтовіч, намеснік міністра фінансаў Зміцер Кійко, таксама іншыя ўрадавыя чыноўнікі, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і прадстаўнікі райвыканкамаў. Як аказалася, шмат якія прапановы Нацыянальнай платформы бізнесу супалі з задахамі, якія плануе рэалізаваць урад і Нацыянальны банк. Натхненню прадпрымальнікаў не было мяжы... пакуль не пачаліся новыя арышты бізнесменаў.

«Ліберальны клуб» прадставіў уласнае даследаванне на тэму ўзаемадзеяння бізнесу і дзяржавы. Аўтары дакумента — эксперты Мікіта Бяляеў і Яўген Мардасевіч — наперш заявілі, што чыноўнікам на самай справе паставілі задачу па паляпшэнні дзелавога клімату.

«Вельмі важна, каб існаваў механізм зваротнай сувязі паміж бізнесам і ўладай. Менавіта механізм зваротнай сувязі, як паказвае досвед еўрапейскіх і паспяховых азіяцкіх дзяржаў, дазваляе ўтрымаць баланс паміж інтарэсамі ўлады і бізнесу, — адзначыў Бяляеў. — Мы папрасілі нашых рэспандэнтаў ацаніць узаемадзеянне ўлады і бізнесу ў Беларусі па 10-бальнай шкале, і атрымалі паказчык 5,6 бала. Што цікава, у Германіі бізнес эфектыўнасць свайго дыялогу з уладай ацэньвае прыкладна гэтак жа».

Як паказалі экспертныя інтэрв'ю, што правялі аўтары даследавання, у Беларусі прысутнічаюць механізмы для дыялогу ўлады і бізнесу, але іх эфектыўнасць абмежаваная.

Зрэшты, стрыманы аптымізм Мардасевіча і Бяляева разбіўся на кавалкі, калі пазней, падчас абмеркавання, аўтар гэтых радкоў прывёў прыклад: як Міністэрства інфармацыі падрыхтавала праект указу, які «забівае» прыватныя кабельныя тэлекампаніі. І пры гэтым цалкам праігнаравала патрабаванне Дырэктывы №4 — узгадняць падобныя дзеянні з зацікаўленымі бізнес-структурамі. «Як такога дыялогу ўлады і бізнесу ў Беларусі сапраўды няма, — сканфузіўся Мікіта Бяляеў. — Гэта прызналі практычна ўсе ўдзельнікі нашага апытання. Ёсць інфармаванне, калі органы ўлады паведамляюць бізнесменам свае рашэнні. А дыялогу пры гэтым няма».

**Свой погляд на гэтую праблему НЧ выказаў Павел Данейка, дырэктар бізнес-школы ІПМ:**

***— Дык ці ёсць сёння ў Беларусі дыялог паміж бізнесам і ўладай?***

— Ёсць. Але вельмі стрыманы і не па ўсіх пытаннях. Але вось у чым пазітыў таталітарнага рэжыму: вырашылі, што мы павінны ўвайсці ў Топ–30 краін па рэйтынгу Doing Business. Да чыноўнікаў гэта было данесена, распісана, і таму нешта рухалася. Таму што была каманда зверху. Іншая справа, што ёсць галіны, якія не пападалі пад дзеянне гэтых задач, у рамках ўваходжання ў Doing Business. Але і там «мяч», хутчэй, на баку бізнесу, а не ўлады.

Каб улада пачала нешта змяняць у гэтых галінах, павінны існаваць галіновыя бізнес-аб'яднанні, якія выпрацоўваюць прапановы па зменах і кудысьці іх накіроўваюць. Гэта значыць, павінен быць суб'ект перамоў. А пакуль галоўная праблема прыватнага бізнесу ў Беларусі ў тым, што няма галіновых бізнес-асацыяцый.

***— А як жа Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва са сваёй Нацыянальнай платформай развіцця бізнесу?***

— Гэта ўсё на вельмі абстрактным узроўні, і прынцыпова з гэтым усе згодныя. Але гэта агульныя размовы пра тое, як зрабіць жыццё лепш. А ў нас ёсць пэўныя праблемы — напрыклад, рэгуляванне паслуг таксі. Дзе аб'яднанне фірмаў таксі, якія разам выступаюць на перамовах? Або прыватных медыцынскіх паслугі. Зарэгуляванасць там страшэнная, шмат якія рэчы паўсталі ў мінулым, і ніхто ўжо не памятае, чаму. Дзе асацыяцыя прыватных медцэнтраў, якая б аб'ядняла высілкі, наняла юрыстаў і выставіла свае прапановы, вяла перамовы? Але такой ініцыятывы няма.




У нас жаліцца, што ў бізнесу з уладай няма дыялогу. Ну дык пачніце такі дыялог! Улада пакуль дэманструе гатоўнасць размаўляць.

***— І пры гэтым арыштоўвае бізнесменаў па смяхотных, а часта і надуманых падставах...***

— Так, гэта, безумоўна, развальвае тую велізарную працу, якая была праведзена за апошнія гады. Стварае атмасферу, якая гасіць інвестыцыйную актыўнасць. І мы бачым, як яскравыя, генераваўшыя мноства ідэй прадпрымальнікі проста пакідаюць краіну. А страта чалавечага капіталу — гэта тое, што немагчыма пакрыць.

# Вінаватыя толькі ў тым, што там нарадзіліся

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Наталля — прыгожая маладая жанчына. Яна, як і тысячы жанчын у нашай краіне, мае мужа і дзетак. Здавалася б, жыві ды радуйся. Але, на бяду, Наталля нарадзілася ў вёсцы пад Брагінам, якую ад Чарнобыльскай АЭС аддзялялі толькі 15 кіламетраў...**

## Я плакала, бо бабуля там засталася...

Ёй было ўсяго пяць гадоў, калі здарылася аварыя на ЧАЭС. Пасля яна даведалася, што іх сям'я, як і астатнія аднавяскоўцы, пасля аварыі спакойна жыла ў вёсцы амаль тыдзень — нікому не сказалі, што іх тэрыторыя моцна забруджаная радыяцыяй. Высяляць сям'ю прыехалі толькі 2 мая: «Я памятаю, як нас з маці і братам пасадзілі ў аўтобус, толькі бабуля мая не паехала. А я плакала, бо бабуля засталася ТАМ».



Наталля

Спачатку сям'ю вывезлі ў Мозыр, пасля — у Навапалацк. Але неўзабаве маці Наталлі прыехала ў Буда-Кашалёўскі раён, бо сюды перавезлі дзядулю. Тут сям'і далі дом, Наталля стала хадзіць у школу, а пасля заканчэння паступіла ў Педагагічны ўніверсітэт у Мінск на завочнае аддзяленне.

З працай у раёне было складана. Таму ўладкавацца ёй дапамаглі. І дзяўчына паехала туды, адкуль у свой час яе эвакуявалі, — на Брагіншчыну.

Прапрацавала яна ў вясковай школе толькі адзін год. На адным з чарговых абследаванняў у дзяўчыны знайшлі пухліну. Дактары тады ёй сказалі: «У свой час вы выехалі з гэтага пекла, а зараз вы вярнуліся туды наноў... З'язджайце адтуль».

У Гомелі ў той час пабудавалі радыелагічны цэнтр, дзе Наталля і стала на ўлік. У хуткім часе ёй прыйшоў ліст на пункцыю. Пухліна была дабраякасная, таму аперацыю рабіць не давялося. А ў 2004 годзе ў Наталлі нарадзілася дачка. І жанчына зажыла самым звычайным жыццём — расціла дзіцё і працавала сацыяльным работнікам.

## Жыццё з ракам

У 2012 годзе Наталля зацяжарала зноў. Падчас цяжарнасці ў яе знайшлі ўжо дзве пухліны.

«Раней у часы цяжарнасці я ездзіла на пункцыі, але пухліны былі незлаякасныя, — узгадвае Наталля. — У 2015 годзе я зацяжарала ў трэці раз. Як заўжды, паехала на абследаванне. Там мне сказалі, што ў мяне — рак».

Шматгадовыя пункцыі і жыццё ў чаканні «а раптам?» дапамаглі Наталлі выпрацаваць своеасаблівую рэакцыю: «Калі высветлілася, што гэта рак шчытападобнай залозы, я ведала: мяне чакае аперацыя. Ведала, што трэба будзе лекавацца. Я была засмучаная, але мяне стрымлівала тое, што я была цяжарная. Страшна мне не было. Бадай, страх заключаўся толькі ў тым, што я магла страціць голас, бо спявала на сцэне».

Наталлі зрабілі кесарава. І праз некалькі месяцаў яна паехала на аперацыю. Напамін пра той дзень застаўся ў выглядзе шнару — танюсенькай ніткай на шыі. Пасля аперацыі Наталля прайшла курс радыетэрапіі. Але рак застаўся.

## Трэба працягваць жыць

Наталля, як і многія, хто перажыў аперацыю на шчытападобнай залозе, жыве на ціраксіне. Маючы інваліднасць, працаваць і завіхацца шмат яна не можа — стомленасць і аслабленасць арганізму дае пра сябе ведаць. Валасы ў жанчыны выпадаюць ужо ў другі раз, таму яна прыкрывае галаву хусткай нават тады, калі знаходзіцца дома. «Муж здзірае з мяне гэтую хустку, а я не магу яе зняць».

У родную вёску ў Брагінскім раёне Наталля змагла прыехаць толькі праз трыццаць гадоў пасля таго, як у спешцы яе адтуль эвакуявалі: «Там усё настолькі зарасло, што праходзілі мы там, як па джунглях. Але муж, хоць ён і з Буда-Кашалёва, знайшоў маю хату. Я пабачыла яе — і заплакала».

Хутка Наталлі зноўку трэба ехаць на радыетэрапію. І невядома, колькі яшчэ курсаў радыетэрапіі яе чакаюць. «Але трэба працягваць жыць», — усміхнулася Наталля. Тым больш, дома яе чакае любімая сям'і і любімае хобі: пасля аперацыі спяваць Наталля стала яшчэ лепш. Пра гэта ёй кажуць слухачы.

## Мяне зацюкалі: «Ты — інвалід»

Яшчэ адна гісторыя хваробы і жыцця — гэта гісторыя Леаніда. Яна хутчэй не тыповая для ракавых хворых.

Гэты малады мужчыны не падобны на таго, хто перанёс рак. Пра сваю хваробу ён казаць не хоча, але не таму, што баліцца, а таму, што не лічыць сябе хворым. Менавіта змена думак забрала ў яго боль, які рабіў з яго інваліда на працягу гадоў.





**Ад інваліднасці Леанід адмовіўся, на медычныя абследаванні не ходзіць: «А што яны могуць мне сказаць? Толькі «ў вас усё добра» ці «ў вас усё кепска». Ні ад аднаго, ні ад другога варыянту нічога не зменіцца»**

У Леаніда выявілі рак шчытападобнай залозы, калі яму было дванаццаць гадоў. Месяцы да і пасля аперацыі — адна суцэльная лякарня: «Я доўга ляжаў у Мінску перад і пасля аперацыі. Пасля два месяцы праходзіў прамянёвую тэрапію. Пасля былі тры месяцы ў санаторыі. Я памятаю толькі лякарню і лекаванне. Гэта — назаўжды ў памяці».

Пасля Леанід, як і тыя, хто перажыў выдаленне шчытападобнай залозы, стаў прымаць ціраксін і атрымаў інваліднасць.

«Мяне з дзяцінства зацюкалі: «Ты — інвалід», — прызнаецца малады мужчына. — І я ім быў. Ад прэпарату, які я прымаў, у мяне былі пабочныя эфекты: я не мог нават проста прайсціся па вуліцы — хутка стамляўся. У мяне сталі балець сэрца і страўнік. Дайшло да таго, што мне, маладому яшчэ чалавеку, бегаць нельга, у футбол гуляць — нельга, есці нармальна — таксама нельга. А ў мяне была мара — лёгкая атлетыка».

Займацца лёгкай атлетыкай інваліду, які стамляецца ад любой нагрузкі, не так проста. Але Леанід прыняў рашэнне: перастаў прымаць ціраксін — прэпарат, які замяняў яму шчытападобную залозу. Замест гэтага папросту пачаў займацца спортам. Неўзабаве ён ужо быў, як сам пажартаваў, «прыгожым, накачаным хлопцам».

З цягам часу Леанід стаў лёгка прабягаць дыстанцыю ў дванаццаць кіламетраў: «За столькі кіламетраў знаходзіцца вёска, дзе жыве мая маці. Я проста браў заплечнік — і бег да яе».

У Буда-Кашалёўскім раёне Леанід стаў спартсменам — пераможцам спаборніцтваў, пры тым па розных відах спорту.

## Калі будзеш думаць, што ты інвалід, дык і будзеш інвалідам

Адмовіцца ад ціраксіну — гэта, бадай, апошняя кропля доўгага працэсу па змене светапогляду, які пачынаецца з кантролю ўласных думак: «Я лічу, што ўсё ідзе ад нашых думак. Калі будзеш думаць, што ты інвалід, — дык і будзеш інвалідам».



Леанід

Каб змяніць свае думкі, Леаніду спатрэбіўся не адзін год. Канешне, перaадолець наступствы адмаўлення ад лекаў было няпроста: «Калі я перастаў прымаць гармоны, то так, я стаў раздражняльным. Я мог зрывацца на іншых».

Але Леанід паставіў сабе мэту: навучыцца сябе кантраляваць. І ў яго гэта стала атрымлівацца. «Я навучыўся кіраваць сваімі пачуццямі і эмоцыямі. Канечне, я магу сарвацца і зараз, раз на год бывае. Толькі цяпер, калі мне нешта не падабаецца, я гэтае нешта магу пасунуць на другі план. І тады сэнс многіх рэчаў ты пачынаеш бачыць па-іншаму».

Сёння сэрца, ад болю якога хлопец пачкамі глытаў пігулкі, яго не турбуе. Дыету ён таксама закінуў. Кажа, што есць тое, што хоча, і тое, што патрабуе арганізм. Напрыклад, кожны дзень — грачаную кашу. І вельмі любіць грэцкія арэхі, якія вырошчвае на сваім агародзе. «У мінулым годзе я назбіраў два мяхі грэцкіх арэхаў!» — пахваліўся мужчына.

## «Прымаць прэпараты яны мяне не прымусяць»

Ад інваліднасці Леанід адмовіўся, бо адчувае сябе здаровым. На медычныя абследаванні Леанід не ходзіць. Яго аналізы не задавальняюць дактароў, але перадаваць іх мужчына не хоча: «А што яны могуць мне сказаць? Толькі «ў вас усё добра» ці «ў вас усё кепска». Ні ад аднаго, ні ад другога варыянту нічога не зменіцца».

Леанід не адчувае сябе хворым. Ён — шчаслівы муж і бацька двух дзяцей. Ён любіць сваю працу, а ў вольны час займаецца гаспадаркай і вырошчвае гародніну і садавіну.

Былая педыятарка Валянціна Смольнікава, каардынатарка Фонду «Дапаможам дзецям Чарнобыля», якая прайшла шлях Леаніда разам з ім, дагэтуль ім захапляецца: «Лёня проста не захацеў прызнаваць сваю інваліднасць. Я не ведаю, як гэта адбылося. Магчыма, у яго былі нейкія рэзервы. І, канешне, гэты цуд адбыўся дзякуючы яго асобе. Лёня — той чалавек, які не любіць хадзіць у шэрагу».

«Усе кажуць, што Чарнобыль — гэта кепска, — разважае Леанід. — Так, гэта кепска. Але я сябе пакутнікам не адчуваю. У мяне жыццё атрымалася. Чалавек створаны дзеля таго, каб ставіць мэты і дасягаць іх. А нечага недасягальнага папросту не існуе».

Колькі гадоў яму адмерана, Леанід, канечне ж, не ведае. Але той час, што застаўся, ён не хоча правесці, гледзячы ў вакно чарговай лякарні.

Новы Час 28 красавіка 2017 | № 16 (530) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (128)
(красавік)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# Сцяпан Лаўшук: «Літаратурную пацяруху садзьме вецер справядлівасці»

***— Паважаны Сцяпан Сцяпанавіч, у Вас за плячыма вялікая навуковая творчасць і грамадзянскае жыццё. Пасля БДУ Вы былі настаўнікам на Палессі. Потым сталі аспірантам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, сакратаром партыйнага камітэта КПБ гэтай установы (на правах райкама). Цяпер Вы аўтарытэтны вучоны, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук. У сваіх даследаваннях Вы найбольшую ўвагу надаяце беларускай драматургіі. Чаму?***

— Так, найбольшую ўвагу я і сапраўды ўдзяляю даследаванню драматургіі. Чаму? А Вы задайце пытанне каму-небудзь са сваіх знаёмых, чаму ён кахае сваю жонку. Адназначнага адказу не дачакаецеся... Адно магу сказаць пэўна: я з самага дзяцінства вельмі люблю тэатр. Радыётэатр. Бо мае Васілевічы прафесійныя тэатральныя трупы свaімі гастролямі не дужа песцілі. Затое я мог, зручна ўладкаваўшыся на канапе, самахоць далучацца да чароўнага свету сцэнічнага мастацтва.

Дзіва дзіўнае, але я і сёння помню некаторыя пастаноўкі! Вось чаму, калі мой навуковы кіраўнік прафесар Юльян Сямёнавіч Пшыркоў прапанаваў тэмай дысертацыі абраць праблемы канфлікту і характару ў сучаснай драматургіі, я вагаўся не дужа доўга. І ніколі не пашкадаваў аб гэтым.

Працаваць даследчыку драматургічных тэкстаў надзвычай складана, бо драматургія ў аднолькавай меры адносіцца да двух відаў мастацтва — літаратуры і тэатра. Затое і працаваць з ёю надзвычай цікава.

***— Сцяпан Сцяпанавіч, як вядома, Вас вылучылі на атрыманне прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі па выніках 2016 года ў галіне літаратуры і мастацтва. І вось вынік — Вы пераможца!.. Віншуем!***

***Сярод усіх намінантаў — а іх было пяць — Вы атрымалі найбольшую колькасць галасоў камісіі. А ў камісію ўваходзілі вельмі знакамітыя прадстаўнікі розных галін культуры. Як Вы ўспрынялі перамогу?***

— Ёсць у нас такая грамадская арганізацыя пад назвай «Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў». Якраз яна і вылучыла маю манаграфію «Праз церніі да брамы неўміручасці: Кандрат Крапіва і беларуская драматургія». Члены камісіі на атрыманне прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці прагаласавалі за маю кандыдатуру дружна: 25 чалавек з 29. Дзякуй ім! Дзякуй і вам за віншаванне.

Як я ўспрыняў перамогу? Адэкватна. Перамога — яна заўсёды прыемная. І вельмі мне было прыемна, што кіраўнікі ФПБ, якія арганізоўвалі конкурс, не фармальна аднесліся да яго правядзення. Даваравючы шаноўнай камісіі, яны і самі азнаёміліся з конкурснымі працамі: прачыталі кнігі, прагледзелі спектаклі і г.д.

***— Вы перажылі ў сваім жыцці перыяд, калі пісьменнікаў прымушалі выходзіць з Саюза беларускіх пісьменнікаў і ўступаць у новаствораны Саюз пісьменнікаў Беларусі. Некаторым нават ставілі ўмовы: або туды, або пасада. І вось Вы, прадстаўнік СБП, аб'яднання, якое некаторыя кіраўнікі «правільнага саюза» на ўсіх перакрыжаваннях аб'яўляюць апазіцыйным, нібыта яны — сябры СБП — выступаюць супраць дзяржаўнай палітыкі... што Вы, вядучы вучоны ў галіне літаратуразнаўства, гісторы нашай літаратуры, скажаце на гэты конт?***

— Ох, як бы мне хацелася з вышыні свайго ўзросту прыкрыкнуць на Вас, маўляў, не трэба блюзнерыць. Хіба ж магла быць такая сацыяльна-палітычная гнюснасць у Беларусі? У цэнтральна-еўрапейскай краіне з векавымі традыцыямі народнай духоўнасці? Але ж — усё было. Вы можаце падрыхтаваць серыю матэрыялаў пра скалечаныя лёсы некаторых таленавітых пісьменнікаў. Міф пра татальную апазіцыйнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў выгадны некаторым «дзеячам». На жаль, не толькі з асяродзя кіраўніцтва СПБ. Вядома ж, не ўсе ў СБП беленькія ды пухнаценькія. Ёсць тут добры тузін крыкуноў-праўдашукальнікаў. І гэта нармальна, бо творчы чалавек па прыродзе сваёй апазіцыйны. І яна — тая апазіцыйнасць — мусіць быць канструктыўнай. Я ўжо ў літаратурным цэху працую паўстагодзя. Ведаю становішча ў ім не па чутках. Дык вось, з поўнай адказнасцю сведчу: у СБП шчырых дзяржаўнікаў больш, чым у СПБ. А няшчырых? Не лічыў. Не хачу. Мяне радуе тое, што і ў шырокіх грамадскіх колах, і ў асяроддзі кіраўніцтва краіны (гэта я таксама ведаю не па чутках) няслушнасць абвінавачванняў у адрас СБП становіцца ўсё больш відавочнай.

***— Кіраўніцтва СПБ паўсюль заяўляе, што ў іх арганізацыю са старэйшага пісьменніцкага Саюза перайшла найбольшая колькасць самых знакамітых пісьменнікаў. Ці так гэта?***

— Цікавае пытанне. І трошкі правакацыйнае. Я мог бы дзеля куражу схавацца за выказванне на гэты конт народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Калі да яго завіталі агітатары з просьбай уступіць у неафітны саюз пісьменнікаў, ён папрасіў азнаёміць яго з навабранцамі. Прачытаўшы спіс, ён усклікнуў: «Хлопцы, дык тут усе творчыя імпатэнты!» Усе? Ды не, не ўсе. А вось тое, што найбольшая колькасць самых знакамітых пісьменнікаў не перайшла са старэйшага СБП у СПБ — гэта неаспрэчны факт. Вазьміце спісы, параўнайце. Хто ёсць хто — пра гэта сведчаць творы...

Я ж асабіста гляджу на саюзаўскія пламежныя «спрэчкі» з паляшуцкай насмешлівасцю. Ну чаго вы лямантуеце? Крычы, хоць лопні, што твор твой геніяльны, што яго трэба ўключаць у навучальныя праграмы. Дзівакі! І дзесяці гадоў не пройдзе, як літаратурную пацяруху садзьме вецер справядлівасці. І яшчэ. Калі я рыхтаваў заключныя тамы «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя», калі адбіраў кандыдатуры для манаграфічных раздзелаў, ніколі не зважаў, да якога Саюза належыць пісьменнік. Літаратура — яна адна! Гісторыя яе складаецца не з нахрапістых акцый кіраўнікоў пэўных літарганізацый (узгадаем «Маладняк», БелАПП), а таленавітых твораў.

Каб завяршыць гаворку пра «нашых» і «нянашых», зазначу: раскол былога пісьменніцкага згуртавання Беларусі быў несусветнай лухтой і правакацыяй. Прызнаюся, да мяне ў ліку першых будучы кіраўнік СПБ звярнуўся з прапановай прымкнуць да яго праекта, тлумачачы, што «той Саюз» варожа настроены да нашай дзяржавы. Дазволю самацытату: «Так, ёсць у нас з дзясятак непрымірымых. Але іх можна ўкруціць у адну посцілку і пацягнуць у бок Свіслачы. Не ўтапіць, бо няма за што, а трохі астудзіць іх запал. І з-за іх расколваць Саюз пісьменнікаў? Пладзіць варажнечу? Ставіць крыж на нармальным творчым працэсе?» На жаль, не пачуты быў я.

***— Мой лепшы сябар — з Васілевіч, месца Вашага дзяцінства. Ці бываеце на сваёй радзіме?***

— Усе палешукі любяць свой родны кут. Для мяне Васілевічы заўсёды заставаліся святым месцам. З чароўнымі краявідамі і вельмі разумнымі землякамі. На жаль, часта бываць там не дазваляе загружанасць працай. Але я вырашыў абхітрыць лёс. Атрымаўшы «надзел» зямлі на славутай Лысай гары, я перавёз з родных мясцін добрую хату. Цэгла на грубку — таксама адтуль. Як я быў усцешаны, калі на адной з цаглін прачытаў: «Васілевіцкі цагельны завод №2». Золкім асеннім часам я прыхінаюся да цёплай бакавіны грубкі і... Антэем сябе не адчуваю, але мне робіцца вельмі камфортна, бо адчуваю злітнасць з Радзімай, успамінаю сцежкі дзяцінства...

**Гутарыў Алесь Новікаў**



**Сцяпан Лаўшук:**
**«Тое, што найбольшая колькасць самых знакамітых пісьменнікаў не перайшла са старэйшага СБП у СПБ — гэта неаспрэчны факт»**



**Я ўжо ў літаратурным цэху працую паўстагодзя. Ведаю становішча ў ім не па чутках. Дык вось, з поўнай адказнасцю сведчу: у СБП шчырых дзяржаўнікаў больш, чым у СПБ**

# Вешчуны прыйшлі на Беларусь

**Зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў «Вешчуны ідуць на Беларусь» прэзентавалі ў мінскім Літаратурным музеі Петруся Броўкі.**

Пяць гадоў таму ў Мінску пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў пачала працаваць адмысловая Школа маладога пісьменніка, аналаг студый creative writing, даўно распаўсюджаных у Еўропе і Амерыцы, аднак дагэтуль нязвыклых і новых для Беларусі. Нібыта ж і немагчыма навучыцца пісаць, нібыта ж, як той казаў, «становяцца», а не «нараджаюцца». Але ўсё гэта фразеалагізмы і стэрэатыпы. Нягледзячы на ўсю імпульсіўнасць маладосці, ледзь не ўсе выпускнікі ШМП застаюцца ўдзячнымі Школе, каардынатарам і выкладчыцам, бо атрымалі нешта бясспрэчна карыснае для сябе, навучыліся бачыць свой тэкст збоку, аналізаваць, як зроблены тэксты іншых.

Вечарына ў музеі Броўкі была хутчэй для «сваіх», і запоўненая зала ніяк гэтага не адмяняла. Папросту сама кніга «Вешчуны ідуць на Беларусь» аб'ядноўвае некалькі тузінаў маладых літаратараў, розных паводле ўзросту і мовы, падыходаў і доследу. Шмат хто пабачыў кніжку менавіта на вечарыне, бо і выдадзеная яна была зусім нядаўна. Таму для многіх гэта быў пэўнага кшталту сакральны вечар, бо творы кнігі большай часткай упершыню выходзілі на паперы, а для кагосьці гэта і наогул была першая папяровая і кніжная публікацыя.

У вечарыне, акрамя аўтараў зборніка, узялі ўдзел выкладчыцы Школы Ганна Бутырчык і Наталля Паваляева. Мадэравала сустрэчу адна з каардынатарак Школы Юля Цімафеева, якая нямала распавяла пра навучанне ў Школе, будучы Дзень расчыненай брамы і асаблівасці навучання на другім годзе Школы.

Выкладчыца і рэдактарка зборніка Ганна Бутырчык, якая рыхтавала яго з маладзейшымі навучэнцамі Марыяй Маляўкай і Сяргеем Шаматульскім, адзначыла: «Мне прыемна, што сярод навучэнцаў школы ўжо ёсць амаль прафесійныя пісьменнікі і прафесійныя чытачы. Хто ведае, можа, у гэтай аўдыторыі сядзіць будучы лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Ужо і цяпер «школьнікі» атрымліваюць літаратурныя прэміі. Крысціна Бандурына атрымала «Залаты апостраф», Зараслава Камінская намінавалася на «Залаты апостраф» у дарослай намінацыі і сёлета паедзе ў рэзідэнцыю маладога літаратара ў Вільню. Нехта ўжо прэзентаваў свае кнігі. У наступныя гады зборнік будзе складацца з новага курса і з новых твораў былых выпускнікоў».

З увагі на тое, што аўтараў у зборніку сабралася вельмі шмат, арганізатары прыдумалі латарэю: кінулі ў чорны капялюш паўтара дзясятка паперак з прозвішчамі, і яны пакрысе адтуль выцягваліся. Старт оскараўскай цырымоніі з называннем прозвішча дала Юля Цімафеева, а потым ужо яе падхапілі ўласна навучэнцы, якія агучвалі імёны з відавочным задавальненнем, бо за час вучобы шмат з кім пасябравалі. Часу на прэзентацыю сябе ў іх было няшмат, фактычна на ўзроўні слэмавага выступу — адна старонка. Тым не менш, і з адной старонкі ўсё станавілася ясна. Хтосьці пісаў пра коцікаў, хтосьці заглыбляўся ў экзістэнцыйныя эмпірэі, шмат што — хоць і пісалася некалькі гадоў таму — заставалася сугучным сённяшняй сітуацыі. Так, у творы Ніны Лістоты ў нейкай краіне ўжо год было забаронена размаўляць па-беларуску, Зараслава Камінская згадала НКВД, а проза Юліі Арцёмавай распавядала пра Плошчу, пастарункі, збіццё і разбіванне дзіцячых успамінаў.

Ніхто не сыйшоў з вечарыны пакрыўджаным і самотным, бо меў кнігу — а нават і дзве, бо аўтары і аўтаркі атрымалі аўтарскія асобнікі. Думаецца, што ў ваколіцах Карла Маркса, праспекта і Нямігі ў гэты вечар гудзела літаратурнае жыццё. Прынамсі, старыя літаратакія пакаленні дакладна б гудзенне і дудзенне тое зладзілі б. Зрэшты, у дзень Дабравешчання анталагічным аўтарам «Вешчуною...» магло б хапіць і чыстых эмоцый і легальных стымулятараў.

**Ціхан Чарнякевіч**

# «Брама» ў Магілёве

**У магілёўскім грамадскім цэнтры «Кола» прэзентавалі літаратурны альманах «Брама».**

Чацвёрты год запар сябры абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў збіраюць і ўкладаюць уласны гадавік, яднаючы на старонках выдання лепшыя творы сяброў пісьменніцкай арганізацыі, а таксама спробы пяра іншых землякоў-літаратараў.

Імпрэзу вёў старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Мікола Яцкоў. На сустрэчу завіталі аўтары выдання і прыхільнікі іх творчасці. Выступілі паэтка і кіраўніца літаратурнага гуртка «Святліца» Тамара Аўсяннікава, мастак і аўтар альманаха Базыль Камароў, наменснік старшыні філіі Міхась Булавацкі, празаік Таццяна Барысік, літаратар і бард Васіль Аўраменка і іншыя.

Да імпрэзы далучыліся наменснік старшыні СБП Усевалад Сцебурака і бард Яўген Барышнікаў з Мінску.



# Простыя літары Сабіны Брыло

**У Сусветны дзень рок-н-рола адбылася прэзентацыя зборніка вершаў Сабіны Брыло «Это буквы». Зборнік выйшаў у серыі СБП «Кнігарня пісьменніка» выдавецтва «Кнігазбор».**

«Хацела паразмаўляць пра Боба Дылана, але вырашыла, што трэба крыху пагаварыць пра Ісуса Хрыста, таму што ён не горш за Дылана, і, калі б жыў у сярэдзіне 90-х, мог быць Бобам Дыланам, а Боб Дылан 2000 гадоў таму мог быць Ісусам Хрыстом, чаму не, — так пачала Сабіна Брыло прэзентацыю, узгадаўшы пра дзве знакавыя асобы. — Боба Дылана — бо Нобелеўскі лаўрэат, і яму цяпер добра, а Хрыстос — як яго не ўзгадаць...», — пасля ўжо патлумачыла аўтарка свой выбар.

Пасля прачытала верш Барыса Пастэрнака «Гул затих. Я вышел на подмостки», адзначыўшы, што фарысеяў шкада і што часцей атрымліваецца пісаць, бо самотны ў долі, і што сумна. «Але бываюць і радасныя падзеі, і ўвогуле ўсім трэба шкадаваць адно аднаго і даравацъ», — заўважыла Сабіна. Так і распачалася асноўная частка сустрэчы.

Сабіна крыху распавяла пра з'яўленне кнігі. Увогуле, вершы яна пачала пісаць яшчэ ў юнацтве. Неяк не ставала грошай, і яна, вырашыўшы падзарабіць, аднесла іх у рэдакцыю. Вершы сталі друкаваць, а Сабіна пачала хадзіць на літаратурны гуртое «Светотень».

«Хадзіла некалькі гадоў. Там былі дастаткова сур'ёзныя штуды, аўтары, мы вучыліся адно ў аднаго. Падабалася, я пішу нядрэнныя вершы, нават адчувала сябе паэтам», — заўважыла аўтарка.

Пасля ў Сабіны нарадзіўся сын, было шмат працы, і яна амаль 14 гадоў пісала журналісцкія матэрыялы.

«У 2011 годзе я напісала эсэ «У Генри Ченаски не женское лицо», дзе тлумачылася, чаму я не магу ствараць мастацкія тэксты, — распавяла Сабіна. — Бо я жанчына і баюся сказаць нейкія рэчы, якія мяне па-сапраўднаму палохаюць. А пасля — бац! — і пачала зноў пісаць вершы».

Гэта быў другі «віток» паэтычнай творчасці. У 2012 годзе Сабіна завяла Фэйсбук, там і пачала размяшчаць свае вершы. Напісала каля двухсот, палова з іх і ўвайшлі ў зборнік «Это буквы». Выдаць зборнік Сабіне прапанаваў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

«Выходзіць, у Саюзе былі людзі, якія мяне заўважылі і чыталі. Знайшла добрага дызайнера Лену Дзянісаву, — расказала Сабіна. — Спачатку я была супраць вокладкі, бо гэта маё неапрацаванае фота, нейкі культ асобы атрымліваецца. А сябры сказалі — нармалёвы такі культ. Так і атрымалася кніга. А назву я доўга шукала, хацела назваць «Тир «Biblio»» (па назве аднайменнага верша), але так будзе называцца мая кніга, якая выйдзе па-літоўску ў Літве. Таму я выбрала іншы верш — «Это буквы». Ён насамрэч пра адсутнасць страху».

Крыху пачытаўшы вершаў, аўтарка таксама заўважыла, што, калі выйшла кніга (а выйшла яна напрыканцы 2016 года), яна не рабіла прэзентацыю, проста прыйшла ў кафэ.

«Узяла кніжкі, людзі прыходзілі, мы размаўлялі, пілі гарбату. Пасля адна жанчына зладзіла ў Фэйсбуку варажбу па маёй кнізе, — распавяла Сабіна. — Усе задавалі старонку і радок. Часам выпадалі жорсткія рэчы, бо тут далёка не ўсе радочкі пра вяселле ці грошы. Адной дзяўчынцы патрапіўся такі радок: «например, седьмая палата, у выхода койка». Я прачытала гэта на Фэйсбуку, і так мне страшна стала! І я хуценька напісала ёй, што верш харошы насамрэч, ён проста пра выбар. Лічыце, што калі-небудзь вы, магчыма, апынецеся ў такой сітуацыі, з якой нічога не трэба рабіць. Нават калі у 7-ую палату трапляеш — гэта нават і добра. Паляжаў, адпачыў, страўнік праверылі. А так бы ні ў жыцці яго (страўнік) не праверыў».

Так распачалася варажба па зборніку вершаў «Это буквы». Адразу ж першын выпаў радок «Еще одна свадьба, где все дети полезли под стол», пасля «Столкнул с седьмого, когда ты мыла окно, и попросили придержать».

«Нічога, усё будзе добра, бачыце, колькі ўсяго з гераіняй наадбывалася, а яна — жывая», — супакоіла Сабіна дзяўчыну, якой патрапіўся радок. Як далей развіваліся падзеі, даведацца нескладана — дастаткова ўзяць зборнік вершаў «Это буквы» і загадаць старонку і радок.

Напрыканцы прэзентацыі публіка канчаткова разняволілася, пачаліся размовы, прыкладам, пра розныя варыянты вершаў.

«Я не ведаю, правільна вось цяпер я па памяць радок прачытала ці не, бо часам хочацца іншых варыянтаў. Чаму не? Ты ж ніколі не ведаеш, якая рэдактура добрая, — заўважыла Сабіна. І таксама распавяла пра працэс напісання вершаў: — Я проста падбіраю словы. Калі адчуваю, што слова не тое, доўга яго шукаю. У рыфме працей. Калі ж адмаўляешся ад рыфмы, ты меней пачынаеш залежаць ад мовы, наадварот, больш кіраваць ёй. Як чалавек, які піша паэтычныя і не паэтычныя тэксты, я магу сказаць, што гэта два абсалютна розныя станы.

Тэкст паэтычны атрымліваецца ў выніку напружання, якое ў табе ўзнікла. Я б нават сказала, можна яго вызначыць як прыцягненне да тэкста. У адзін цудоўны момант ты адчуваеш пэўнае прыцягненне, і ў цябе ёсць спосаб з ім справіцца. Ты садзішся і арганізуеш тэкст. Таму я лічу, што калі мне пашэнціла, што я магу гэта часам рабіць, то мне пашэнціла нашмат больш, чым некаторым людзям, у якіх няма такога спосабу. Магчыма, у іх ёсць нейкі іншы, свой. Які свой — можаце падзяліцца са мной. З залі падказваюць, што «сэкс, наркотыкі і рок-н-рол». Так, згодна. Мне пашанцавала, што ў мяне багаты слоўнікавы запас і слых, і я вельмі смелая для таго, каб сказаць нейкія рэчы. А вось мая сяброўка ходзіць на балет. Мяне застрэль, я на балет не пайду. Я проста пампу там, калі буду ведаць, што мне трэба нагу падняць, а на мяне ўсе дзяўчаты глядзяць».

«А ўвогуле, кніжка, вядома, атрымалася», — заўважыла напрыканцы прэзентацыі Сабіна. І з гэтым дакладна складана не пагадзіцца. Таму лепш паспяшацца і пашукаць зборнік у кнігарнях — наклад амаль цалкам раскуплены.

**Аляксандра Дварэцкая**

# Палёт матылька ў зачыненай прасторы

## (Да 80-годдзя Міколы Купрэева)

**Мікола Купрэеў яшчэ мог бы жыць. 25 траўня яму было б восемдзесят. А яго ўжо няма трынаццаць гадоў.**

Не зважаючы на ўсе жыццёвыя акалічнасці, бытавыя мітрэнгі, своеасаблівую натуру і няпросты характар Міколы Сямёнавіча, успамінаецца ён ярка і хораша. Асаблiва запомнілася першая сустрэча. Вясна 1992 года. Белавежская пушча. Знаёмства на мансардзе яго жытла ў Папялёве. Мы прыехалі з тэлекамерай, і калі пачалі рабіць здымкі, аднекуль з-пад столі прасторнай спаруды з адзіным вялізным акном, груваcткім сталом, рыпучай табурэткай і шырокім жалезным ложкам выпырхнуў белы матыль, які ўпарта садзіўся на залысіну Міколы, які намагаўся звыкнуцца з накіраваным на яго тэлевізійным вокам... Як ні адганялі мы таго матыля, ён праз пэўны момант усё роўна да яго вяртаўся. Рэжысёр Валодзя Таміла, ужо таксама даўно нябожчык, у рэшце рэшт, не стрымаўся і, скруціўшы газету, збіў нечаканага госця ў палёце. Лёткае, абяскрыленае Божае стварэнне бездыханна ўпала на даўно не мытую падлогу... Які ж гнеў і невыказная ярасць маланкава ўспыхнулі ў вачах Купрэева! Аднак намаганнем волі ён стрымаўся. Хоць здымкі ўсё ж давялося адкласці на пазнейшы час... Адзінокі паэт меў шчасце жыць з матылём, адзінай жывой душой, якая падтрымлівала агмень яго сэрца і творчы дух. Белы — пазабыццёвы — матылёк натхнення...

На тым прыпынюся, бо я ўжо так шмат пісаў пра Міколу Купрэева, што дазволю сабе падумаць і памаўчаць. Замест новых слоў са старым зместам прапаную вашай увазе некалькі тэкстаў самога выклятага пісьменніка: яго арыгінальны допіс пра свае знікненні, вытрымкі з якога ўжо выкарыстоўваліся мной у розных артыкулах, аднак цалкам у арыгінале яшчэ не друкаваліся, а таксама апошнія перадсмяротныя лісты Мікалая Сямёнавіча, якія я атрымаў за тры месяцы да яго скanання. Гэта былі апошнія лісты, напісаныя дарэшты зболеным чалавекам з праблiскамі апошняга светлага пачуцця (закаханасці і ўдзячнасці) да высакароднай жанчыны, якая дапамагала яму. Адным словам, Мікола паміраў, як і жыў, адзінока і годна.

Давайце чытаць і памятаць сваіх паэтаў. Таленавітых і сапраўдных — іх так нямнога.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

### З лістоў М. Купрэева да Л. Галубовіча

Абдымаю, Лёня!

Атрымаў апошні ліст твой у чацвер. Ані (Ганна Хадаровіч, машыністка Пружанскай райгазеты, — Л. Г.) паказаў (была). Можа, я і напісаў бы табе адразу, хацеў, але пошта за метраў 200, а я хаджу толькі па хаце. І толькі Аняй апошнім часам дасылаю табе канверты. Во-во яна павінна прыйсці (мой дом у баку ад яе дарогі — якраз там, дзе шаша)...

Наконт дома для састарэлых у Ждановічах — баюся нечага. Адчуваю: там культурна, утульна, дагледжана. Але, мабыць, не для мяне... Мне лепей будзе наш раённы Дом інвалідаў. Там усякія... Можа, прасцей, хаця і дурней. Во Аня сядзіць ля мяне. Пішу табе. Нешта недзе думаюць. Хай думаюць. Толькі каб не Таіса Бондар. Я чытаў яе артыкул у «ЛіМе». Ці не пахне чымсьці мінулым?.. Надта, бачу, мяняюць там у вас месцамі людзей, пасады, здымаюць тэксты і г. д. Цяжка там у вас. У Шарашоўскім Доме інвалідаў, можа, лягчэй. Хачу пісаць больш, каб Аня сядзела даўжэй побач. Але зрок здраджвае. Толькі бачу яе вочы насупраць.

Абдымаю на развітанне.

Мікола.

**9.02.2004**

Здароў, Лёня!

Сёння 7 красавіка — Дабравешчанне. І я атрымаў твой ліст, як заўсёды, па-галубовічаўску, добры ліст, бо — з добрым словам...



**М. Купрэеў з Ганнай Хадаровіч, 2004 г.**

Аня мяне не толькі па-добраму ўшчувала, але і плакала — зусім па-дзіцячы і па-жаноцку. Помню яе вочы, яе слёзы, якія не йшлі з вачэй маіх жонак. І калі душой я яшчэ мацуюся, то нагамі — усё горш і горш. А за целам, бывае, падае і душа. І ў такой сітуацыі, бачу, чалавек можа засіліцца. Я ўжо глядзеў у сваёй кватэры, за што можна зачапіць прасціновую вяроўку. Становіцца крыху лепш, калі вып'ю віна. Чытаў твой ліст да Ані. У ім ты адносішся да мяне горш, чым у сваіх лістах, — маю на ўвеце твой фактаж з маёй біяграфіі... Але во твой ліст сёння да мяне — дабравешчанскі! Цудоўна! Ёсць на зямлі добрыя людзі — і можна жыць. Ты для мяне ў Менску шмат зрабіў — усё! Зрабіў Гадульку ўсё, лічы, — гісторыя бел. літаратуры не забудзе. А да тваго ліста завіталі да мяне муж Ані, потым Папека, Антаноўскі — вось табе і дзень дабравешчання! І я ажыў, мне стала лепш, хаця ногі не валакуць. Аня другі дзень не прыходзіць — і мне лягчэй. Хай бы не прыходзіла. І хачу яе бачыць, хаця глядзець мне ёй у вочы цяжка. Ведаю, і ёй са мной цяжка. Я гэтую цяжкасць скора, напэўна, зліквідую, — бываю надта рашучы. Лёня! Дзякуй табе за дабравест з «Маладосці». А вершы новыя ў мяне ёсць — ніяк не магу перанесці іх з галавы на паперу. Але гэта, вово, здарыцца. Я ж апошнюю сваю нізку ў «ЛіМе» (летась, «Вершы да Яе») напісаў (выліў) за адной паўночы. Пакуль рашуча не ліецца — хай, затое мне, аўтару, будзе цікавей, калі стане ўжо нязносна... Вясну й лета тут шчэ неяк працягну. А там... А там ужо й на высялкі... (Мікола сканаў у інтэрнаце Лясное пад Баранавічамі 19 верасня 2004, — Л. Г.) Што каму. А ты павінен дыхаць — мацавацца, ты й стаіш на гэтым. Толькі здароўе сваё не гняці, не сілкуй яго празмернай працай. А прозу новую я (па-новаму!) задумаў: два аўтары — пісьменнік і журналіст — пра адно і тое ж. Не магу сказаць пакуль што: пра гэта! Я і Яна! Хто яна — ты здагадаешся. Гадуйся, Лёня. Здароўя — тваім...

Мікола.

**7 красавіка 2004**

# Крыху пра мае знікненні

Любіў і люблю знікаць. Найбольш адметныя знікненні помняцца ўсё жыццё. Таму помняцца і вяртанні з іх.

Вось адно з першых знікненняў. З дому, на дзень, у 44-м годзе, зімой. Мне было 9 гадоў. (Бацька жаніўся другі раз. Маці маю знішчылі немцы (ці «нашы») летам 43-га). У стобіц, у вядры, я знайшоў маленькі наган і патроны. Узяў наган, адзін патрон і пайшоў у лес. Прывязаў наган да ствала дулам уверх, зарадзіў, узяў канец шнура, зайшоў за другое дрэва, метраў за 7-8 і стаў тузаць за шнурок. Наган не выстраліў чамусьці. Да вечара тузаў — нічога. І дамоў ужо баяўся ісці. А лес побач з хатай, і я чуў, мяне звалі: «Коля! Коля!» Па слядах ішлі мяне шукаць. А я даў кругаля на двор. Палажыў наган на месца. Бацькі не было дома. Праз дзень-два «арсенал» прапаў са стобкі і вінтоўка з гары хаты. Мне было загадана сядзець у хаце, схавалі штаны мае, сядзеў без штаноў на печы. А мне хацелася хоць раз стрэліць. Бо вайна ж тут была нядаўна.

...Потым я знік на некалькі дзён з дому. Гэта ўжо калі мы пераехалі ў Заходнюю (дзе цяпер Бярозаўская ДРЭС). Здаецца, у 49-м, таксама зімой. Мне купілі новае байкавае паліто. А я ў першы ж дзень падраў яго аб цвік у плоце. Была прычына знікнуць. (Бацька працаваў дырэктарам сямігодкі.) Я пакінуў кнігі ў школе і 15 км ішоў на бліжэйшую станцыю Бронная Гара. Убіўся ў цягнік. Злазіў у Баранавічах, а на пероне мяне чакаў міліцыянер (бацька ўзняў трывогу). У спецдзетпрыёмніку мяне (нас там такіх было з паўсотні) апранулі ў картовы касцюмчык (першы ў маім жыцці касцюм), добра кармілі. Праз дні два «экспедытар» даставіў мяне пад акно настаўніцкай у школе. Быў вечар. Я паказаў пальцам праз шыбу на бацьку, мой экспедытар пайшоў у школу, а я зноў знік. На гэты раз — пад акно сваёй хаты. «Яны» прыйшлі з школы, я чуў, як «экспедытар» казаў: «Во толькі што я яго пакінуў пад акном...» Я заплакаў, мяне пачулі, пазвалі ў хату. Помню, «яны» пілі гарэлку, а я еў яешню...

...Пасля 9-ці класаў, летам, мы з сябрам укралі кілаграмы тры старога сала, друг прадаў украдзеную ім дома муку (каб былі грошы), у мяне быў нямецкі, з цялячай скуры, поўсцю ўверх, ранец, і мы селі на паяздок вузкакалейкі з Івацэвіч да Целяхан. Потым — пеша да Пінска. Там забраліся, вечарам, на пасажырскі вагон. У Лунінцы нас убачыла на вагоне міліцыя, загадала, з перона, злезці.

...Пасля першага семестра ў Брэсцкім педінстытуце я прадаў гадзіннік, перадаў праз друга-аднакурсніка коўдру бацькам у Івацэвічы і кінуў інстытут — паехаў да цёткі ў Растоўскую вобласць, на Дон. Даўно туды цягнулі стэпы і казачкі. Бліжэй да Кубані, куды я даўно ўжо мерыўся знікнуць, вар'ята, «няроўнаўважанага», імпрэсіўнага, мяне даўно туды цягнулі «Кубанскія казакі» і «Кавалер Золотой Звезды». Во які магутны быў сацрэалізм. Прычынаю кінуць інстытут была яшчэ і тая, што тады, восенню 56-га, мяне і яшчэ аднаго такога ж камсамольца ў Брэсцкім ваенкамаце не ўзялі, як мы ні прасіліся, дабравольцамі ў Венгрыю — гэтак хацелася абараняць заваёвы сацыялізма ў братняй краіне ад «происков империализма». Былі і яшчэ важныя прычыны...

Праз год вярнуўся ў інстытут. Пасля таго, як летам там, на Доне, папрацаваў каменячосам <...> Вярнуўся на новы першы курс, дзе сустрэў студэнтку з Сіняўкі, з якой на 3-м курсе ажаніўся і ад якой потым 5 гадоў узапар хранічна знікаў і якой у апошнія гады прысвячаю самотныя вершы. Ад яе знікаў і вяртаўся, але перад тым, як зайсці ў хату, сустрэцца з ёй, мыўся чыстай сцюдзёнай вадой з былой рэчкі Начы (цяпер гэта канава ля Сіняўкі) і з іншых рэчак. Знікаў потым і ад другой, юнай, жанчыны...

...З 67-га па 86-ы год (пасля зборніка «Непазбежнасць») знік — не з паэзіі, не са старонак прэсы — з самога сябе. Знік у нетрах Палесся. І толькі калі зразумеў, што знікаць ужо некуды, што ўсе ногі і дакументы згублены, і Палессе згублена ўшчэнт, і калі пачуў, адчуў, што недзе там, наверсе, нешта цікавае і чалавечнае вяртаецца на зямлю — і я стаў вяртацца. Але ўсюды вярнуцца ўжо немагчыма. Хоць некуды, здаецца, вярнуўся.

І яшчэ пра два свае знікненні ў маленстве. Успамін пра адно з іх — балюча-пакутлівы, пра другое — найсветлы.

Першы. Мне гадоў дванаццаць. Мы ўсім класам ідзем з суседняй вёскі ля Чорнага возера — паказвалі сваю мастацкую самадзейнасць. Я знікаю з цямрыва ля дарогі, бягу па лесе далёка наперад ад сваіх аднакласнікаў, прыбягаю ў сваю вёску, там грукаю ў сенцах запаветнага дома, мне адчыняе дзверы жанчына, і я, заікаючыся, кажу ёй, што Ларыса, яе дачка, мая аднакласніца, ужо блізка, ідзе па дарозе, хутка будзе дома. А жанчына, маці той чарнавокай незабыўнай дзяўчынкі, кажа: «Дык чаго ж ты ўцёк ад усіх, ад Ларыскі? Памог бы ёй ісці, памог бы ёй што несці. Такая ж гразь, такая цемра...»

Другі. Мне дзевяць гадоў. Мы сям'ёй пераязджаем з Гомельшчыны ў Заходнюю. У Мінску на чыгуначным вакзале, сярод людскога тлуму, снежнай гразі ў кутку залы, я пачуў: дзесьці ўгары — цудоўная, ніколі мною не чутая (апроч вясковага гармоніка) прыгожая музыка. І я пайшоў (ніхто з маіх, а сярод іх быў і дзядзька-міліцыянер, бацькаў брат, які служыў у Мінску, — ніхто не заўважыў), пацюху пайшоў па прыступках лесвіцы ўверх — там у залацістай зале, перад распранутымі людзьмі за сталамі, ля блакітных вялізных фікусаў рабілася тая музыка. Дзядзька-міліцыянер там знайшоў мяне, ён узяў мяне за руку, усміхнуўся, крыху так пастаяў са мной ля аркестра, потым павёў зноў уніз, у той тлум... Але тая музыка прыгожая яшчэ й цяпер стаіць у маіх вушах, я гляджу ўверх. Раблю крок — і музыка знікае.

**1994**

# Дзядзька
## Словы пра Антона Кісяля



Адам ГЛОБУС

### Эпапеі

Дзядзька Антон зачытваўся тоўстымі кнігамі. Дзюма, Купер, Шышкоў пісалі прыгодніцкія эпапеі для такіх чытачоў, як наш Антон. Ён браў важкі двухраманны том Фенімора Купера, клаў на стол, а побач ставіў высокі кубак з моцнай і духмянай гарбатай. Антон чытаў пра прыгоды непераможнага індзейца Чынгачгука — Вялікага Змея, еў батон з яблычным павідлам і запіваў гарбатай. Захапленне раманамі прыйшло да Антона ад старэйшай сястры — Ніны. Праўда, яна зачытвалася зусім іншымі пісьменнікамі, такімі, як Дыкенс, Бальзак і Заля.



Дзядзька Антак

### Кош

«Валодзя, вазьмі кош і занясі ў палатку да салдатаў. Я сабрала паесці: сыр, хлеб, сала. Наш Антачак служыць. Можа, і ён у якой палатцы сядзіць. Хай бы нехта і яму прынёс паесці. І ў Карэліі павінны быць добрыя людзі. Яны паўсюль павінны быць... Ідзі!» — баба Ядзя дала мне кошык з харчамі. Вельмі апетытна выглядалі ў ім свежыя гуркі. Пёры цыбулі, сабраныя ў пук, глядзеліся шыкоўна побач з мармурова-белымі варанымі яйкамі. Ісці да чужых салдатаў мне зусім не хацелася. Трэці дзень за горадам, на скрыжаванні, каля шашы Мінск-Брэст стаяла вялікая брызентавая палатка. У ёй жылі чацвёра вайскоўцаў. Ішлі вучэнні. Аднаго разу па нашай вуліцы ўночы праехалі танкі. Зямля дрыжэла. У бабіным буфеце пазвоньваў шкляны посуд. Выйсці на вуліцу і паглядзець на танкі зблізку ніхто з нашых не рызыкнуў...

«Пакажы-пакажы... Што ў кошыку? — салдат паперакладаў сабранае бабай Ядзяй і сказаў нечакана: — Не вазьму. Нам тут дзеўкі столькі ўсяго панапрыносілі, мы і за месяц не з'ямо. Нясі ўсё дадому. Скажаш бацькам «дзякуй»».

Сыходзіць я не спяшаўся, было крыўдна за бабу Ядзю, якая сабрала гэткі прыгожы кошык для салдатаў, збірала, як для нашага Антона, а яны не ўзялі. «Пачакай! — салдат схаваўся ў палатцы, а праз хвіліну вынёс з поўнымі жменямі дарагіх шакаладных цукерак. — Вось табе шакалад, за добрую службу!» Салдат высыпаў цукеркі ў мой кош.

Калі Антон вярнуўся з Карэліі, я папытаўся, ці прыносіў хто з карэлаў салдатам паесці. «Ніхто ніколі нічога не прыносіў», — адказаў былы памежнік.

### Войска

Антон збіраўся паступаць ва ўніверсітэт, а потым перадумаў і вырашыў ісці служыць у войска. У той час былі паўсюдныя недаборы, бо хлопцаў, якія нарадзіліся ў час вайны, было зусім мала, а таму забіралі служыць на тры, на пяць, а то і на ўсе сем гадоў. Антона ў ваенкамаце сустрэлі з радасцю. Сказалі, што ён самы здаровы прызыўнік у Койданаве. Здаровага і вясёлага прызыўніка закінулі служыць памежнікам на карэла-фінскай мяжы. Антон служыў у Запаляр'і. Там нават гарэлка замярзала так, што ў бутэльцы з лёдам заставалася вадкім адно яечка спірту. Антон расказваў, што на мяжы лавілі перабежчыкаў. Усіх іх называлі бандытамі і расстрэльвалі без суда і следства. Маладыя салдаты не хацелі страляць у людзей. Тады гэтых непаслухмяных салдатаў прымушалі закапаць бандыта жыўцом. «Закапаеш жывога чалавека ў зямлю, і наступным разам страляеш так, каб забіць, бо гэта больш гуманна і не так страшна, як жывога пад зямлёй пакідаць». Ахова мяжы на далёкай і чужой Поўначы праходзіла для Антона складана. Там ён і цяжкае раненне атрымаў. З напарнікам і аўчаркай Антон бег за бандытамі. Лейца, якой напарнік стрымліваў сабаку, заслізнула ў расколіну і захрасла ў ёй. Пакуль напарнік вырываў з расколіны лейцу, Антон бег за бандытамі адзін. Бег і наляцеў на нож. Бандыт схаваўся за дрэвам, прапусціў Антона наперад і напаў на яго са спіны. Вялікім нажом ён парэзаў Антону бок. Бандытаў не выратаваў той крывавы напад. Іх упалявалі і пазабівалі. Антона ўзнагародзілі гадзіннікам і адпусцілі ў адпачынак ажно на цэлых дзесяць дзён.

### Казытка

У дзяцінстве мяне, пэўна, як і ўсіх нас, прымушалі спаць пасярод дня. Былі спакойныя дні, калі я клаўся і хутка засынаў, а здараліся выпадкі, калі не спалася. Прыйшоў дзядзька Антон з войска ў адпачынак. Усе з ім гавораць не нагаворацца, усе яго слухаюць не наслухаюцца, а мне трэба ісці і класціся ў ложак. Сям'я сядзіць за сталом, а мяне праганяюць. Упáручся, злуюся,ваўком пазіраю... Баба Ядзя кажа Антону, каб завёў мяне ў спачывальню і паклаў спаць. Антон вядзе мяне і гаворыць, што можа навучыць не баяцца казыткі. Усе дзеці яе баяцца. Усе адзін аднаму расказваюць, як бандзюкі і кітайцы заказытваюць сваіх ахвяраў да смерці. Не веру я Антону. Хацеў бы паверыць, але не верыцца. Ён прапаноўвае паказытаць яго. Казычу — не смяецца. Антон кажа, што трэба навучыцца трываць казытку. Ён казыча мае падэшвы, я трываю. Казыча па рэбрах — трэваю. Нават казытку пад пахамі я перацярпеў. Стаміўся ад напружвання і заснуў. Прачнуўся і адразу згадаў, што навучыўся трываць казытку. Сапраўды навучыўся на ўсё жыццё.

### Паравоз

Я з маці чакаў Антона на пероне. Ён вяртаўся з Карэліі, дзе адслужыў бясконцыя тры гады. Зіма. Чорна-сіні вечар. Блакітны рыпучы снег. Залатое святло вакзальных ліхтароў. Я страшэнна змерз. Маці прапаноўвала чакаць у вакзальным будынку, але мне хацелася стаяць на пероне. Здавалася, што так хутчэй дачакаюся сустрэчы з Антонам. Нарэшце чорна-чырвоны паравоз прыцягнуў ланцуг зялёных вагонаў. З вагонаў неяк вельмі хутка насыпалася на перон процьма пасажыраў. У таўкатнечы і мітусні мы баяліся размінуцца з Антонам. Дарэмна баяліся, бо гурт салдатаў у жоўта-зялёных бушлатах нельга было не заўважыць. Маці закрычала на ўвесь вакзал: «Анто-о-он!» Адзін з салдатаў спыніўся і азірнуўся. Ён! Антон! Вярнуўся! Жывы!!! Маці абдымала свайго брата і нават плакала. Я стаяў на снезе і чакаў. Я чакаў, пакуль дзядзька Антон скажа: «Які ты вялікі! Мужчына!» З паравоза на перон ляцела белая пáра. Антон развітаўся з салдатамі, і мы ўтрох пайшлі праз марозны вечар на трамвайны прыпынак.

### Значкі

Калі Антон вярнуўся з войска, у яго на гімнасцёрцы было шмат розных значкоў. «Гэх! Каб жа мне такіх значкоў на грудзі паначапляць, я быў бы самым шчаслівым хлопцам!» — так я думаў, але сказаць пра тое Антону не наважыўся. Пра значкі сказаў Толік Кісель. Ён быў на два гады старэйшы за мяне, і рашучасці меў больш. Толік ужо ў школу хадзіў, а я яшчэ ў сад. «Барыс Ладаўшчук, калі прыйшоў з войска, дык параздаваў сваім хлопцам усе значкі з гімнасцёркі! Яны лёталі па вуліцы і выхваляліся, што ў іх ёсць вайсковыя значкі, а ў нас такіх няма і не будзе. Мы сказалі, што Антон вернецца з войска — і падорыць нам свае значкі!» — такую гісторыю Толік распавёў Антону. Той зняў з гімнасцёркі значкі і паначапляў нам на грудзі. Я быў такі шчаслівы, што ўсміхаўся, адкрыўшы рот. Так мяне і сфатаграфаваў Славік Александровіч. На здымку я атрымаўся з шырокай усмешкай, са значкамі на курткі, але без пярэдніх верхніх зубоў. Дзед Бронік паглядзеў на маю зялёную куртку, абчапляную вайсковымі значкамі, і сказаў: «Табе можна ў войска не хадзіць, усе ўзнагароды ты цяпер маеш».



Радзіна Адамчыкаў, 1962 г.

### Папяросы

Толік Кісель скраў у свайго бацькі папяросу «Север», а я вытрас з татавай пачкі папяросу «Беломор-канал». З папяросамі і запалкамі мы схаваліся за хлеў. Пакуль дарослыя за накрытымі сталамі балявалі, мы пускалі дым у сіняе верасьнёвае неба. За пакураннем нас злавіў дзядзька Антон. Ён сварыўся не столькі за крадзёж папярос, колькі за тое, што курылі мы каля складзенай за хлявом саломы, якую яшчэ не закінулі на гарышча. Каб, не дай ты Бог, салома ўспыхнула, дык мог згарэць і ўвесь наш хлеў з кабанамі ды матацыкламі. Кабаноў было шкада па-сапраўднаму.

### Дараванне

Вэнджаны кумпяк смачнейшы за кумпяк засолены. Таму і сабраліся нашы койданаўскія мужчыны і паставілі ў казікавым садзе вежу вяндлярні. Вырашылі шэсць кумпякоў вэндзіць. Два кумпякі прынёс Іван Мілько, два кумпякі прыцягнуў Казік Кісель, і два даў наш дзед Бронік Кісель. Вэндзіць трэба доўга — некалькі дзён узапар, таму мужчыны напісалі расклад на тры змены. Антону дасталася начная змена. Ён цэлу ноч падкідаў на вуголле ядлаўцовыя лапкі, падкідаў, падкідаў, а пад раніцу заснуў. Антон заснуў, а вяндлярня загарэлася. Шэсць кумпякоў пападалі ў вуголле і моцна абгарэлі. Што не згарэла, тое спяклося. Тры сям'і засталіся без вэнджаных кумпякоў. Антон страшэнна перажываў. Абяцаў Івану і Казіку адкупіць кумпякі. «Антачак, ды не еш ты сам сябе! Згарэла сала? Чорт яго бяры! Выкармім мы новых кабаноў...» — так мая баба Ядзя суцяшала сына. «Мама, паслухайце, што скажу... Віця Мілько не заснуў! Шурык Мілько не заснуў! А я, дурань слабавольны, заснуў у апошнюю ноч. Дзе справядлівасць? Каб п'яны быў. Кабператомлены чым. Цвярозы заснуў. Крыўдна!» — Антон ледзь стрымліваўся, каб не заплакаць. Каб чаго кепскага з ім не здарылася, усе гаспадары абгарэлых кумпякоў сабраліся і вырашылі Антону даравадь за сапсаваныя харчы. Каму іншаму — можа, і не даравалі б. Іншаму давялося б адкупляць кумпякі.

### Свінтус

Койданаўскіх кабаноў мы называлі па-рознаму. Дзюдзькі, дзюдзі, кабаны, кабанчыкі, свінні... Дзядзька Антон казаў на самага вялікага Свінтус-грандыёзус. Усё дзяцінства я быў упэўнены, што наш Антон сам прыдумаў для кабана такую манументальную мянушку. Нават пагледзеўшы камедыю нашага земляка Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошні», у якой той Свінтус-грандаёзус і нарадзіўся, я ўсё адно не паверыў, што сатырык Кандрат Кандратавіч вынайшаў грандыёзнага свінтуса сам. Нешта ў гэтай мянушцы ёсць праўдзіва-народнае, надаўтарскае і не зусім каб тэатральнае. Пра Свінтуса-грандыёзуса добра казаць і жартаваць у хляве, дзе пахне свежым гноем, варанай бульбай і смалістым пілавіннем.

### Дошка гонару

Твары на дошках гонару такія афіцыйныя, што знаёмых людзей у іх цяжка пазнаць. У рэальным жыцці ў людзей твары зусім і не геройскія. Раней дошак гонару было шмат. На кожным прадпрыемстве, каля кожнай фабрыкі і кожнага завода стаялі стэнды з фотапартрэтамі герояў працы. Я асабліва не ўглядаўся ў перадавікоў вытворчасці, бо нікога са знаёмых тамака не было. Нікога, акрамя майго дзядзькі Антона. Ён працаваў токарам на маторарамонтным заводзе. Яго геройчны фотапартрэт быў выстаўлены на вулічнай дошцы гонару. Калі я ішоў з чыгуначнага вакзала ў дзедаў дом ці з дому бег на вакзал, дык абавязкова вітаўся з дзядзькавым фотапартрэтам. «Добры дзень, Антон!» — «Антон, добры вечар!» Не стану нешта-нейкае казаць пра астатніх на дошцы маторарамонтнага, а дзядзькам маім можна было ганарыцца па-сапраўднаму. Токар ён быў адметны. Каля станка і ногі згубіў. Ад штодзённага сямігадзіннага стаяння ў Антона пачаўся трамбафлібіт, а пазней зрабілася кепска з сэрцам. З завода давялося сыходзіць. Фотапартрэт яшчэ нейкі час пакрасаваўся на дошцы, але потым яго замянілі іншым ганаровым тварам.

### Праца

Антон неяк хутка стаміўся ад жыцця. Хваробы напалі на яго з розных бакоў: ногі, сэрца, вочы... Давялося аформіць інваліднасць.

Працяг на стар. 11 (5) »

# Рэцэпт шчасця



Фелікс БАТОРЫН

* * *

*Часы старэюць. Час не мае ўзросту.*
*І вусцішна з таго, што ўсё так проста.*

* * *

*Ты пэвен, што душы не існуе,*
*Пакуль табе не плюнулі ў яе.*

* * *

*Сусвету будоваю простаю*
*Уражвае сэрца штораз:*
*Прастора складаецца з ростаняў,*
*Са стратаў складаецца час.*

* * *

*Ёсць шмат таго, чаго не перайначыць*
*І не схаваць у найшчыльнейшай ночы:*
*Сумлення ні памацаць, ані ўбачыць,*
*А пляма на сумленні лезе ў вочы.*

## Скажы, дубе

*Колькі кольцаў, скажы, у ствале тваім, дубе?*
*— Столькі іх там, браток,*
*колькі год маёй думе.*
*Ну, а дума — пра ўсё, што я чую, што бачу:*
*Плач, што нібыта смех, смех,*
*падобны да плачу,*
*І сталенне дзяцей, і малойцаў старэнне,*
*Духу злы занепад і святое гарэнне,*
*Зеляніну вясны, кроў на травах і снезе,*
*Мову вашых дзядоў, што падзелася недзе.*
*Сню віхуру падзей, што, як дрэвы,*
*вас склычыць*
*І пілой вастразуба вам кольцы падлічыць.*

## Перачытваючы лаціністаў

*Стамлёныя дрэвы зімоўку сваю*
*аплацілі авансам.*
*Зямля астывае, вада астывае,*
*а кроў не астыла,*
*Бунтуе ў артэрыях, перацякае па венах,*
*Цягліцы сілкуе, і думкі сілкуе, і цяжка*
*Праз гэтыя важкія думкі ссівелай галоўцы.*
*Мо выкінуць з думак якую?*
*Дык новая ж прыйдзе,*
*Цяжкая, як молат кавальскі,*
*як глыж ледніковы.*
*Чаму не дасі мне, Цар Свету, крылатае думкі,*
*Якая ўзняла б мяне аж да дзвярэй*
*Твайго дома,*
*Каб вокам адным зазірнуць і праз шчыліну ўбачыць*
*Святло, што не гасне, і веліч,*
*якая не блякне?*

## Франсуа Віньён

*Жыў ды быў на свеце белым*
*Песняпеўца-рыфмакрут.*
*У яго ў душы свярбела,*
*Быццам быў там пер'я жмут.*

*І каб сверб спатоліць гэты*
*І душы вярнуць спакой,*
*Ён спяваў вясной і летам,*
*Што ні восень і зімой.*

*Быў кароль, як цмок бязбожны*
*І без слыху да таго ж,*
*І яму матыўчык кожны*
*Быў нібы ў пячонцы нож.*

*І кароль змрачнеў зацята*
*З кожным новым тра-ля-ля.*
*У астрог пясняр узяты*
*Па загадзе караля.*

*Дык астрог той зведаў свята*
*І пазбавіўся тугі:*
*Зазвінелі струнна краты,*
*Заспявалі ланцугі.*

*Стаў іграць кароль валоссе,*
*Бегаць злосна ў кут з кута.*
*«Калі гэткае ўсчалося,*
*Дык — на вісельню чмута!»*

*Не змаглі павесіць зуха*
*Па загадзе караля:*
*Слуп стаў танчыць весялуху,*
*Закружылася пятля!*

## Пераклаўшы печ на дачы

*Гліністы пах свежаскладзенай печы.*
*Спробнага палу цяпло.*
*Хочацца сесці і думаць аб нечым,*
*Нават чаго й не было.*

*Хочацца ўспомніць вясёлыя хвілі,*
*Хай і было іх няшмат:*
*Быццам бы вернецца ўсё, што згубілі, —*
*Як не было гэтых страт.*

*Хочацца рукі стамлёныя ўкласці*
*Ў добрыя рукі твае.*
*Хіба ж не вось яно — ціхае шчасце,*
*Тое, чаго нестае?*

## Бацькаў рэцэпт шчасця

*Не журыся, не тужы*
*І не поўзай, як смаўжы,*
*Не тачыся, як чарвяк,*
*Не студзіся, як мярцвяк.*
*А пяшчоты не душы,*
*Марнай злосцю не грашы,*
*Як хто лепшы, не зайздросць,*
*А за ім цягніся ў рост.*
*Слухай татку,*
*Шануй матку,*
*Вучы сына,*
*Не гні спіны,*
*А ўгінай плечы, —*
*І будзеш жыць па-чалавечы.*

## Лютаўская завіруха

*Падкідаючы пелерыну,*
*Сцюжай лютаўскай разагрэта,*
*Звар'яваная балерына*
*Круціць дзікія піруэты.*

*Ні партэра ёй, ані ложы.*
*І, матляючы, быццам цацкі,*
*Увіроўвае прахожых,*
*Што з цяпла пайшлі па-вар'яцку.*

*Але томіцца й звар'яцелы,*
*Гасіць яву ўваччу дрымота.*
*Наталіўшы душу і цела,*
*Яна ўляжацца на сумёты.*

* * *

*Навісае неба шэрай глыбай.*
*Галубы дранцвеюць на карнізе.*
*Расчыню вакно ці выб'ю шыбу,*
*Каб сябе разгледзець дзесьці ўнізе.*

*І, калі ў бязмежную завею*
*Паляціць украдзенае шчасце,*
*Можа быць, нарэшце зразумею,*
*Як жа я ўхітрыўся нізка ўпасці.*

*Бо дарэмна выбраў для палёту*
*Неба я з нягеглую аўчынку.*
*І мяне заваляць, як сумёты,*
*Тысячы не ўчыненых учынкаў.*

## Дуб вячысты

*Узнёсся дуб вячысты —*
*Аж шапка з галавы —*
*На ўзвышшы травяністым*
*Да самай сінявы.*

*У зыркай зеляніны*
*Быў залаты адліў,*
*Бо дуб сабе вяршыню*
*Аб сонца прыпаліў.*

*Дарыла ранне дубу*
*Зіхценне чыстых рос.*
*Пра вечнасць дуб не думаў —*
*У вечнасць ён урос.*

* * *

*Багаты на неба птушынае,*
*На далі ў блакітнай смузе,*
*Зноў травень напіўся шыпшынаю —*
*Стаіць на буслінай назе.*

*За кніжкай, забытай у зацені,*
*Сарока цікуе крадком,*
*А ў кніжцы старонка закладзена*
*Пажоўклым асеннім лістком...*

## Санет напрысмерку

*На раздарожжах колішніх растанняў*
*Павырастаюць травы і лаза.*
*У попел палымяных парыванняў*
*Запозненая скоціцца сляза.*

*Задышкаю заменіцца дыханне.*
*Спустошаны, зачыніцца сезам.*
*У супраць перакінуцца ўсе за,*
*І звычкаю абернецца каханне.*

*І зношаныя зáбаўкі свае*
*Бязлітасна шпурне на сметнік доля.*
*Іх жорсткі вецер часу адпяе,*
*Хаця яны пакуль яшчэ не ў доле...*
*«Не папусці, — я Госпада прашу, —*
*Каб дажываў я, страціўшы душу».*

* * *

*Снамі ўглядаюся ў яву начы.*
*Мараю ў дзённую яву ўглядаюся.*
*Зношаным целам душу зберагчы*
*Ўсё намагаюся я, намагаюся.*

*Цяжанька ў свеце, што повен спакус,*
*Сцежку намацаць адзіную верную*
*І на вяршыні ўсіх прац і пакут*
*З чыстаю зоркай сустрэцца вячэрняю.*

*Увышыні — супраць цягі зямной —*
*Плыні жыццёвыя ў шчасце сцякаюцца.*
*А з-пад прасціны апошняй сваёй*
*Позна ў граху пустамарнасці каяцца.*

* * *

*Як хочацца хаваць ад іншых раны,*
*З усмешкаю трываць абразаў боль,*
*Пражыць жыццё ціхмяна ды рахмана,*
*Суседу не ступнуўшы на мазоль.*

*Ды прыйдзе час адчайнае адвагі,*
*Каб шапку — прэч і расхрыстаць крыссё*
*І за мяжой разумненькай развагі*
*Дзвярыма грымнуць, выказаўшы ўсё.*

« Пачатак на стар. 10 (4)

Войска і завод высмакталі з нашага волата ўсе сокі. Ён занудзіўся. Пачаў выпіваць. Аднойчы раніцай Антон пазваніў у дзверы маёй мінскай кватэры. Ад Антона моцна пахла віном. Мы пагаварылі, стоячы ў пад'ездзе, бо зайсці ў кватэру ён адмовіўся. Дзядзька папрасіў знайсці яму працу ў Мінску. Хацеў змяніць лад жыцця. Збіраўся кінуць выпіўку. Я правёў Антона на чыгуначны вакзал і даў яму грошы. Ён спрабаваў адмовіцца, але ўсё ж забраў дваццаць даляраў «на дарогу да станцыі Койданава». Працу ў Мінску для былога токара з інваліднасцю я не знайшоў. Шукаў, размаўляў са знаёмымі, прасіў. Ніхто не захацеў дапамагчы хвораму чалавеку, якому было за пяцьдзясят.

## Чаравікі

Доўга выбіраў. Доўга прымерваўся. Доўга разлічваў, як бы атрымаць максімальную скідку на чаравікі швейцарскай фірмы «Бэйлі». Нарэшце намераў. Выбраў з трох пар зручнейшую. Праўда, зручнасць чаравікаў лепей называць зножнасцю. У зножных абновах іду я па мінскай вуліцы Багдановіча, а побач са мной крочыць мой дзядзька — Антон Кісель. Я іду па ходніку, а ён — па траве. Яна пад ягонымі ступакамі не змінаецца. Трава нават не варушыцца. Разумею — Антон мёртвы. Ён даўно пакінуў наш мала ўтульны свет. Чаму ён вярнуўся? Каб пераадолець няёмкасць гнятлівага маўчання, кажу: «Бачыш? Я сабе ў Барселоне набыў швейцарскія чаравікі. Гады тры буду насіць. У мяне такія і раней былі. За тры гады падэшва ўсё ж сцерлася. Выдатныя чаравікі...» Антон на мяне зірнуў праз тоўстыя лінзы акуляраў і кажа: «Я свае пантофлі гадоў дзесяць нашу, не здымаючы, а яны ўсё як новыя. Як надзелі мне іх... Ну ты ж разумееш... Так і хаджу. Падэшва не сціраецца зусім». Прачнуўся я — яшчэ сонца не ўставала з-за гары. Ад начной сустрэчы з дзядзькам у мяне ўзняўся настрой. Прыемна сустрэць, хай сабе і ў сне, чалавека, які цябе любіць.

## Надзейнасць

У мяне было тры дзядзькі: Антон, Сава і Ян. Сава і Ян — бацькавы родныя браты, Антон — зводны брат маці. Усіх сваіх дзядзькоў я паважаў. У Саве бачыў разумнасць і практычнасць, Ян быў рамантыкам і вандроўнікам, Антон — сама надзейнасць. Антон быў і самы блізкі мне, бо шмат чытаў, збіраў бацькавы і мае кнігі. Калі здаралася якая непрыемнасць ці трэба было перахавацца, я ехаў на станцыю Койданава, у Дзяржынск, да Антона. Аднойчы пракурорскія пагражалі мне арыштам, я перачакаў мітусню і тузаніну ў Антона. Было і такое, што маскоўскія і тульскія бандыты сачылі за мной, «забівалі стрэлкі» і вялі суворыя перамовы, тады ўсё заробленае я хаваў у Антона. Яму можна было верыць, як вершы маці і бацьку. Антон браў з маіх рук пакунак і хаваў яго. Дзядзька нават не пытаўся... Што ў пакунку? Грошы? Колькі іх там? Браў моўчкі, а калі разборкі з тульскімі і маскоўскімі бандытамі скончаліся, ён вяртаў мне той пакунак. Не так і шмат людзей на свеце, каму ты можаш даверыць пакунак з грашыма, сабранымі на чорны дзень. У мяне быў такі чалавек — Антон з Койданава, надзейны родны дзядзька.

## Віншаванні

Дзядзька Антон заўсёды тэлефанаваў мне на дзень нараджэння. Здаралася так, што мы чулі адзін аднаго толькі раз у год. Я, каюся, ніколі не віншаваў дзядзьку з ягоным днём народзінаў. Ягоную сястру — цётку Рэню — віншаваў і віншую, бо так у нас склалася. Цяпер сяджу і сам сабе пытанне задаю... Чаму я ніколі не віншаваў Антона? Было ж прасцей простага пазваніць і сказаць некалькі добрых слоў. Сказаць, што я яго паважаю і люблю. Не званіў і не казаў. Паважаў і любіў, але ні разу яму пра гэта не сказаў. Сорамна. Асабліва цяпер, калі ў сацыяльных сетках я штодня віншую шмат самых розных сяброў, знаёмых і фрэндаў. Віншую людзей, якіх нават у рэальнасці ніколі не бачыў. Новы час — новыя павевы ў этыкеце. Добра, што чалавек можа атрымліваць процьму віншаванняў на свой дзень нараджэння... Трэба будзе Антону кветкі на магілу занесці. Скончыцца зіма, вясною ці летам паеду ў Койданава і занясу Антону кветкі, васількі. Антон заўсёды любіў васільковы колер, Рэня любіла чырвоны, а ён — васільковы.

# Таямніцы Ціхова
## (Урывак з аповесці)



Альжбета КЕДА

**Мяне завуць Альжбета. Скажаце: імя даўняе, несучаснае. Пагаджуся: даўняе, несучаснае. Але не ў нашым краі і не ў тым часе, калі я з'явілася на свет. Бо хіба з дзясятак дзяўчынак з наднёманскіх ваколіцаў пайшлі тады ў жыццё Альжбетамі. Імя стала першай ніткай, пацягнуўшы якую, разматала клубок вялікай таямніцы. Таямніцы Ціхова. Спатрэбілася мне на тое больш за сорак гадоў. Каб давесці, што прыгожы граф Генрых Пырскі (мая дзявочая мроя, з кім размінулася ў часе) — не забойца. У каго ні пыталася, усе казалі амаль аднолькава: «Ён не мог забіць. Але забіў…»**

Не збіралася пра гэта пісаць. Ды апошнім часам яны не даюць мне спакою. Ходзяць, размаўляюць, праносяцца ў сваіх лёгкіх брычках па шашы ці вершнікамі па лясных сцежках, кахаюць, пакутуюць… І ўсё пішуць, пішуць. У прыгожых сшытках са скуранымі вокладкамі. У кожнага рознага колеру. Яны — гэта графы Пырскія, апошнія гаспадары Ціхова, маёнтка ў глыбіні Налібоцкае пушчы. Днём яны крыху адступаюць, іх засланяюць мае клопаты, клопаты… Якія яны нікчэмныя, гэтыя нашы штодзённыя справы. А бяссоннаю ноччу графы Пырскія вяртаюцца. І ўсё пачынаецца спачатку. Ужо і службу ў нашай грэка-каталіцкай царкве за іх замовіла. Не дапамагло.

Зрэшты, цяпер апісаць тую гісторыю мне зусім няцяжка. Больш за дзесяць гадоў мінула, як атрымала тыя прыгожыя сшыткі. Чытала кожны нат не па некалькі разоў. Дзясяткі разоў. Вырашыла, што проста перапішу іх. Нічога не змяняючы. Праўда, перапісваць буду не запар, а выбіраючы з розных дзённікаў, у сюжэт складаючы. Але перш раскажу, што даведалася да таго, пакуль займела тыя сшыткі.

Вось жа, пра слова, што было адпачатку, — імя. Такое ў нашым Наднямонні было неадночы: у многіх сем'ях з'яўляліся дзеці з аднолькавым імем. Як сведчанне вялікага шанавання пэўнае асобы. У трыццатыя гады было ў нас многа хлопчыкаў з імем Віталь. Адзіны брат маёй мамы таксама меў гэтае імя. У гонар ярэміцкага святара айца Віталя Жалезняковіча, які сапраўды быў вартым павагі. Як лепей тутэйшы люд мог яе засведчыць?

Кім была была тая Альжбета, што выклікала хвалю любові нашых родных, якая стала знакам кожнае з яе тутэйшых аднаіменніцаў? З дзяцінства цікаўная да ўсяго, дапытвала бабулю, маму. З іх аповедаў склаўся ў маім уяўленні вобраз незвычайна прыгожай дзяўчынкі. Незвычайна, бо ні адна з нашых красунь не мела залатых валасоў і чорных вачэй. Чорныя вочы бываюць? І бабуля, і мама сцвярджалі, што ў Альжбеты былі. І свяціліся яны дзівоснаю дабрынёю. Валасы залатыя, густыя, хвалістыя, тварык, як пялёстак язміну, а на ім ззяюць дзве чорныя зоркі. Так бабуля казала. Яна часам гаварыла квяціста. Адкуль гэта ў вясковай кабеты? Не заўсёды яна жыла ў Антанёве, вёсцы ў глыбіні Налібоцкае пушчы. Дзяцінства прайшло ў Санкт-Пецярбурзе. Там і навуку першую, якая і апошняю стала, засвоіла. Любіла ўсё іскрыстае параўноўваць з зоркамі, а далікатна-белае з язмінам, улюбёнымі кветкамі, якія штовесну расцвіталі ля яе хаты…

Але галоўнае: была тая дзяўчынка адзіным дзіцяткам апошняга гаспадара Ціхова, знакамітага ў нашых мясцінах доктара, графа Фелікса Пырскага, усімі шанаванага, багатай спадчыніцай. Праўдзівым анёлам, якім усе захапляліся. Чаму б ёй анёлам не быць: столькі дабрыні і пяшчоты атуляла яе з самага маленства. Не суджана ёй было спаткаць маладосць і сталыя гады тут, бо надышоў верасень 1939 года, калі амаль усе гаспадары маёнткаў пакінулі наш край. А хто не пакінуў, шкадавалі моцна. Калі новыя ўладары дазволілі такую раскошу — жыць і шкадаваць. Бо тых, каго не выслалі ў страшны Сібір, Казахстан ці яшчэ куды, гвалтоўна звялі ў магілу. Ці ў 39-ым, ці пазней. Графы Пырскія з'ехалі назаўсёды. Ніхто з іх ніколі не вярнуўся ў Ціхова.

З Ціховам і была звязана гісторыя забойства антанёўскай настаўніцы Ядзвігі Маеўскай. Яшчэ адной прыгажуні. Калі пыталася ў бабулі, хто быў прыгажэйшаю, Альжбета ці пані вучыцёлька (так у нашых мясцінах называлі настаўніцаў), адказвала: «Абедзьве». Калі ж я не адступала: хто ж усё-ткі, бабуля кідала сваю заўсёдную працу, глядзела неяк задуменна і казала: «Падумай, як іх можна параўноўваць? Адна дзяўчынка. Ёй было крыху болей за дзесяць гадоў, калі пакінулі Ціхова. Другая — маладая пані. Калі яе забілі, мела толькі дваццаць тры гадочкі…» І дадавала: «Абедзьве такія прыгожыя, што свет не бачыў».

Графы Пырскія з'явіліся ў спадчынным маёнтку напрыканцы дваццатых гадоў. Да таго тут па смерці іх бацькоў правіў аканом, прыстойны чалавек, якому давяралі. Ён з сям'ёю жыў непадалёку ў прыгожым фальварку. Прыехалі спачатку быццам толькі на лета. А засталіся да самага 1939 года. Чатыры асобы: сам граф Фелікс, ягоная жонка пані Аліцыя і малодшы брат доктара Генрых. Яшчэ была малая пакаёўка графіні Людвіка.



**Чаму б ёй анёлам не быць: столькі дабрыні і пяшчоты атуляла яе з самага маленства. Не суджана ёй было спаткаць маладосць і сталыя гады тут, бо надышоў верасень 1939 года**

Праўда, прыехалі не ўсе адразу. Гаспадар з'явіўся ў самым пачатку вясны, заняўся рамонтам дома. Астатнія прыехалі летам. Пра гэта я ўжо ведаю з першых рук. Дакладней, з першых вачэй. З аповеду колішняе пакаёўкі Ціхова пані Марысі. Назвала сябе так — пані Марыся. Хоць ужо даўно ніхто ў нашым краі такімі зваротамі не карыстаецца. Яна адыграла важную ролю ва ўсёй гэтай гісторыі. Не ў гісторыі Ціхова. А ў маіх пошуках. Гэта ад яе атрымала я дзённікі. Спытаеце, чым заслужыла? Імем. Калі прыехала да яе ў Мір у сярэдзіне дзевяностых, застала кабету вельмі паважанага веку. Было ёй больш за дзевяноста. Праз дачку, якая не пусціла мяне далей вітальні, перадала, што нікога бачыць не жадае. Але не для таго дзясяткі гадоў разматвала я той клубок, каб адступіць, маючы толькі здагадкі. Яна была маёю надзеяй, апошняю вартаю сведкай. А пра тое, што яна яшчэ жывая і жыве ў Міры, сказала мне маміна стрыечная сястра, антанёўка цётка Верка Лядэцкая.

Стаю я ў той цеснай вітальні і прашу дачку: «Скажыце, што мяне завуць Альжбета». Так перада мною расчыніліся дзверы ў пакой пані Марысі. І, спадзяюся, у яе душу. Першае, пра што спыталася пасля прывітання, ці ведаю, чаму мяне так назвалі. Упершыню мой аповед, мае здагадкі пра Ціхова слухалі так уважліва. Хатнія адмахваюцца ад таго, што называюць маімі начнымі мроямі. Наогул, маладым нецікава сёння нішто, апроч тае віртуальнае прасторы, якую яны сабе стварылі, і стасункаў у ёй. Ці ім стварылі. На звод людскі…

Хоць гаварылі мы доўга, але пані Марыся ані не стамілася. Відаць было, што яна радавалася, бо светлая ўсмешка ўвесь час блукала на старэчым твары. Я даведалася пра ўсё, што мяне цікавіла. І значна болей, на што магла разлічваць. Яна вельмі дакладна намалявала мне іх партрэты. Я, праўда, і без таго іх ужо даўно і добра ведала.

Вось жа, памяць колішняя пакаёўка з Ціхова мела зайздросную, розум захавала светлы. Было цікава, як яна апынулася на той працы. «Думаеце, проста? Не! Трапіць у пакаёўкі да графа было вельмі ганарова. І грашова. Нас выбірала пані Фаціна, ахмістрыня, сваячка пана аканома. З розных вёсак. І з Антанёва Вашае мамы таксама былі Соня Клаўсуцева і Наталя Ульянкава. А я з Сіняўкі. Мы былі з самых чыстых хатаў. Вы ж ведаеце, у вёсках усім ведама, у каго як у хаце. У нас мама была вельмі акуратнаю. Я з маленства павінна была парадкі наводзіць. Мая бабуля па тату, што з намі жыла, казала: «Дзе ты пройдзеш, там хораша стане». Нялёгка мне было падлогу мыць. Спачатку шаравала дзеркачом, а пасля насуха выцірала анучай з мешкавіння. Якія рукі былі ў малой? Слабенькія. Рагаў нараблю, не выкруціўшы добра тую анучу. Ды і ваду не адну трэба было змяніць, з калодзежа выцягнуць. Мама з поля прыйдуць, глянуць на падлогу і загадаюць: перамывай! І посуд у нас аж блішчэў, чыгуны і патэльні пяском ля Нёмана вышароўвалі. Не так і многа таго посуду было. Але ўсё патрэбнае мелі. Не бедна мы жылі. Усяго ў нас хапала. А калі ў маёнтку працаваць стала, то ўжо шмат чаго новага накуплялі. І падлогу пафарбавалі. Усе зайздросцілі. Мама казалі: гэта табе на пасаг пойдзе. І пайшло, як сюды, у Мір, за свайго Генюся выйшла».

Сама таго не ведаючы, ускосна пацвердзіла маю здагадку пра таямніцу нараджэння Альжбеты. Праўда, я ёй пра гэта не сказала… Іх тады, за пару месяцаў да з'яўлення дачкі графа Фелікса, усіх дахаты адпусцілі. Нават пакаёўку графіні Людвіку ў Вільню да бацькоў выправілі. «Толькі кухар застаўся, якому самі дапамагалі. Паны Фелікс і Генрых. Бо Гелена ўвесь час пры графіні была. І ніякіх гасцей не прымалі. І самі нікуды не выязджалі. Пан Фелікс сказаў: «Мы ўжо страцілі дзіцятка. Думаем, што і вочы чужыя тут паспрыялі». Мы пра тое ведалі і ўсе верылі, што сурочыць кабету, якая дзіцятка носіць, лёгка. А пан Фелікс такі доктар знакаміты быў, гінеколаг, то навошта яму было запрашаць каго роды прымаць, сам і прымаў. Яшчэ і Гелена дапамагала. Мы праз пару тыдняў вярнуліся. Ужо былі там пані ахмістрыня і карміліца з Вобрыны. Пані Аліцыя хутка паправілася. Сама шмат з дачушкаю бавілася. І пан Фелікс. Якое гэта было шчасце! Усе былі шчаслівыя. Ніколі ў жыцці і я такою шчасліваю не была. Мо хіба калі сваю дачушку нарадзіла».

Я не знаходзіла адказу на пытанне: чаму Гелена (даведаецеся крыху пазней, хто такая Гелена) засталася ў Ціхове, чаму не з'ехала з усімі?

— А хто мог думаць, што гэта назаўсёды? Што будзе так страшна, што будзе вайна. Яна была не супраць застацца. Думаю, яе трымала там магіла пана Генрыха. Ды і пан Фелікс прасіў яе. Каб дагледзела Ціхова. Ніхто з нас не верыў, што тыя рускія прыйдуць надоўга… Так,

я чула іх апошнюю размову. Я не падслухоўвала. Не. Проста ў суседнім пакоі дапамагала Фаціне збіраць рэчы пані. А размаўлялі яны ў пакоі Гелены. Ён спытаў, ці Гелена не супраць застацца. І паўтарыў: «Гэта дзеля Альжбеты. Ты захаваеш усё гэта дзеля Альжбеты. Яна вернецца сюды». А пасля сказаў яшчэ:

— Пакіну табе нашы дзённікі. Тут многа сховаў. Ты ведаеш. Ёсць дзе захаваць. Пры нагодзе пачытай. Гэта дапаможа табе. Пасля, калі сустрэнеш Альжбету... Ёй і дзённікі аддасі.

— Я таксама аддам Вам свой дзённік.

— Навошта? Мы ж усё ведаем. Звязаныя адной ніткай.

— Не, Вы ведаеце не ўсё...

Таму пані Марыся ведала пра дзённікі. І спытала аднойчы ў Гелены. Тая адмаўчалася. Так, яна сябравала з Геленай. Праўда, абмовілася былая пакаёўка, што тая ні з кім ніколі не сябравала. Проста, пані Марыся была адзінай, каму пані давярала, да каго прыходзіла. Гэта яна засталася тады ў маёнтку, калі ўсе разышліся па хатах. Пазней ратавала Гелену ад партызанаў.

Калі ўсё было ўпакавана, складзена на вазох, пан Фелікс наказаў сабрацца ўсім каля ганку. Усе прыйшлі: пакаёўкі, кухар, конюхі, даяркі, работнікі з сыраварні, маслабойкі, леснікі... Ніколі так многа людзей не збіралася. Усе былі ў вялікім клопаце. Што іх чакае? Як будзе пры тых рускіх? На вачох у кабетаў блішчэлі слёзы. Асабліва калі пан Фелікс пачаў гаварыць. Казаў, каб заўсёды заставаліся людзьмі. Што мо яны вернуцца, калі Бог дасць. Дзякаваў за працу. Пан аканом з сям'ёю таксама ад'язджаў, таму дапамагаць Гелене папрасіў лесніка. Гаварыла пра гэта, стрымліваючыся, вочы яе завільгатнелі: «І нас прасіў, каб не адмовілі ў дапамозе. Не адмаўлялі. І іншыя дзяўчаты не адмаўлялі. І я таксама. У вайну ратавала яе. Ніхто пра гэта тады не ведаў. Ляснік графскі Костусь Лядэцкі ў партызанах быў, пры Міцьцы Казаку. Заўсёды папярэджваў Гелену, калі партызаны збіраліся ў Ціхова. Яна ўцякала, у лесе хавалася, на Чорнай. Там таксама людзі, што ў Пырскіх працавалі, жылі. Загаварылі неяк з ёю пра Міцьку Белага, якога Казак забіў, сказала, што ведала яго. Сказала, а такі сум у яе вачох... А той Казак паляваў на Гелену, ведаў, што прыгожая, адна ў маёнтку жыве. Але ні разу так і не ўдалося яе высачыць. Прыляцела да мяне ў Мір сярод ночы, прасіла схаваць. Падказалі ёй, што варту да Ціхова Казак прыказаў паставіць, што не схавацца ёй болей, каб уцякала, ратавалася. А праз дзён дзесяць дачуліся мы, што спалілі партызаны маёнтак, узарвалі. Не, яна не плакала. Быццам скала была. А тады яшчэ больш скамянела, учарнела ўся. Паўтарала: «Не ўберагла Ціхова. Для Альжбеты не ўберагла». Як усё аціхла, вярнулася на разваліны. Там, у склепе, і жыла».

Мяне цікавіла, за што яна жыла. Ну добра, агарод мела, у лесе дровы, грыбы, ягады. «Мала хто ведаў, яна страляла добра. Вінтоўка яшчэ з таго часу была. Яна ж на паляванне з графам Феліксам ездзіла. Хваліў, казаў, што лепш за яго страляе. Мы пра гэта выпадкова ведалі. Думаю, што заўсёды палявала. З леснікамі ўвесь час нейкі гешэфт вадзіла. Леснікамі і пасля вайны было некалькі графскіх. А Лядэцкі ляснічым стаў. Не хацела Гелена пра гэта гаварыць». Добра, але ж запалкі, адзенне, абутак дзе брала? На што пані Марыся з усмешкай адказала пытаннем:

— А Вы хоць ведаеце, якім было панскае адзенне за польскім часам? Яно зносу не мела. Ёй жа амаль усё пакінулі. Казала, што нічога цяперашняга і мець не хоча. Праўда, яно ўжо было нямоднае. Але што Гелене да тае моды? І якая тая мода? Тое моднае на ўсе часы.

— А астатнюю ежу: муку, цукар, соль?..

— Ужо магу Вам расказаць. Яны ж ёй і грошай пакінулі. Золата. Шмат раздала, адкуплялася. І ад сельсавецкіх начальнікаў, і ад партызанаў. Але і ёй яшчэ хапіла. Яна мне прыносіла па некалькі залатовак. Дзе яны? Вы ж у мяне пра гэта не спытаеце. Я ёй за іх савецкія грошы давала. А калі на пенсію пара прыйшла, то яна даведкі мела, што ў лясніцтве працавала, што здавала ягады, грыбы, венікі вязала. Мусіць, і тут без золата не абышлося. Але пенсію атрымала неблагую. Сама па яе на пошту ў Ярэмічы прыходзіла...

Вось, аказваецца, за што жыла Гелена. Бывала ў пані Марысі некалькі разоў на год. І перад самаю смерцю была. Тады і прынесла гэтыя сшыткі. «Сказала, усё жыццё спадзявалася, што з'явіцца Альжбета, ёй аддасць. Але ўжо, пэўна, не дачакаюся. І мне наказала — аддаць Альжбеце. То Вам і аддам. Бо і мне ўжо хутка... Яе волю выканаю, бо Вы ж Альжбета...»

Сказала мне адкрыць ніжнюю шуфляду камода. Там і ляжалі дзённікі. Запакаваныя ў цвёрдую каляровую паперу (шпалеры!), перавязаныя стужкай на нейкі складаны вузел (я яго пасля ўсё ж разблытала). А яшчэ ў камодзе ляжаў канверт. Сказала раскрыць. Не быў заклеены. У ім знайшла здымак. Ён таксама чакаў Альжбету. Гэта быў вялікі калектыўны здымак з тых імянінаў. Колькі разоў пазней я ў яго ўглядалася! І тады, упершыню, амаль усіх пазнала. Бо неаднойчы партрэты іхнія мне відавочцы малявалі. Здымак вельмі якасны. Твары выразныя. Дастаткова, каб убачыць, якія прыгожыя гэтыя людзі. Усе! У цэнтры, на паркавай лаўцы, сядзіць пані Аліцыя, побач граф Фелікс, які трымае на руках ужо даволі вялікую Альжбету. Сказала б: прыгожая, як лялька. Але лялькі бяздушныя і неразумныя. А яна была душою гэтай сям'і, душою Ціхова, разумніцай. То няхай, паўтаруся: прыгожая, як анёлак. За імі стаіць пан Генрых, а вакол яго дзве прыгажуні: залатавалосая Ядзвіга, пані вучыцелька, і высокая, стройная, чорнавалосая Гелена. «А вось гэта пан аканом з жонкаю і дзецьмі», — падказвае пані Марыся, а з другога боку мы ўсе, каля ахмістрыні. Гэта я...» Паспяваю сказаць: «Вы былі прыгожай...» Адмахваецца: «Яны былі прыгожыя!» І паказвае на тых, што ў цэнтры. «А тут тыя антанёўскія дзеці, якіх пані вучыцелька прывяла. Дзе Ваша мама?» Я разгубілася, бо ў тым мілым радочку дзяўчынак у светлых сукенках, са стужкамі ў валасах, што прыселі на траўніку перад лаўкай, не магла адразу пазнаць сваё мамы. Не было ў нашым сямейным альбоме ні аднаго здымка даваеннай пары. Антанёва тройчы палілі немцы. Нічога не засталося. Ці ж да здымкаў было, калі самі цудам ацалелі... Але вось адна з іх падалася мне тою, што назвала мяне Альжбетаю. Я не памылілася. Пазней цётка Верка ўпэўнена пакажа менавіта на гэтую, трэцюю справа, дзяўчынку, і скажа: «Гэта твая мама».

Не дзіўна мне было чуць ад старое пакаёўкі яе прызнанне: «Як я іх любіла! Як сваіх крэўных, як бацькоў, як братоў, як дзяцей. Мой Генюсь нават злаваў часам і называў мяне Панскім Пантофлем. А няхай і Пантофель! Здаецца, была б шчасліваю і пантофлем зрабіцца, каб толькі з імі побач жыць, ім дапамагаць, ім служыць. Такія яны былі добрыя, разумныя, акуратныя, далікатныя. Ніколі не чула, каб крычалі, сварыліся. Праўда, не так часта мы іх блізка бачылі. Больш здалёку, з вакна, украдкам. Намі кіравала пані Фаціна. У пакоях прыбіралі, калі гаспадары на шпацыр выходзілі. Перад абедам. А вялікую прыборку рабілі, калі тыя кудысьці з'язджалі. Нас, маладых дзяўчат, спачатку называлі па імені. А калі Альжбета падрасла, а мы ўжо пасталелі, то ёй наказалі нас панямі зваць. І самі так звярталіся. Смешна было напачатку. А пасля звыкліся. Пан Фелікс растлумачыў, што «пані» — гэта па-беларуску, гэта наш ветлівы зварот да жанчыны. Хораша, праўда? На ўсё харошае людзі забыліся... Усё жыццё пра іх думала. Дзе яны? Ніколі сюды не вярнуліся. Бо і вяртацца не было чаго. Але цяпер жа нейк свабадней. Мо ўжо нікога няма?»

Абразілася пані Марыся на маё пытанне: ці чытала яна дзённікі? Ажно падскочыла ў сваім фатэлі:

— Як Вы маглі такое падумаць? Вы ведаеце, што такое клятва? Калі нас пані ахмістрыня ўзяла ў Ціхова, усім загадала пакляцціся, што ніколі не будзем нічога выглядваць, нічога выслухваць, нічога чытаць без дазволу гаспадароў (а ўсе мы чытаць навучыліся) і, барані Бог, хоць каму пераказваць. Ніколі ад тае клятвы не адступілася...

Нягледзячы на гэтую маю нетактоўнасць, развіталіся хораша. Была шчасліваю ад таго, што столькі даведалася, што маю ў руках гэты скрутак. Яна была супакоенаю, што аддала іх у надзейныя (ёй хацелася верыць) рукі. Спадзяюся, што апраўдала яе давер.

Праз год пані Марысі не стала.

Старонку за старонкай перагортвала гісторыі іхняга жыцця. Радавалася разам з імі і плакала неаднойчы. Чытаюцца як мастацкія творы. Усё ж вырашыла не перапісваць усё запар, бо надта вялізны том атрымаецца, а выбраць тое, што да таямніцаў Ціхова дачыненне мае. Перш, чым пазнаёміць вас з дзённікамі, прапаную невялікі абразок. Ён будзе тут дарэчы. Пэўная, вы зразумееце, адкуль пра гэта даведалася, хто быў між тых антанёўскіх дзяўчынак.

### Клятва

Травень, 1938 год. Дзень такі светлы, час такі юны, як тыя антанёўскія дзяўчынкі, што стайкаю лятуць па лясной дарозе. Маладыя вясновыя пташкі, радасна шчабечуць, перапоўненыя падзеямі сённяшняга дня. Вяртаюцца з Ціхова, з імянінаў паненкі Альжбеты, якой споўнілася дзесяць гадоў. Бацькі вырашылі зрабіць свята для ўсіх антанёўскіх аднагодак сваё любіміцы. Запрашэнне перадалі праз пані вучыцельку.

— Альжбета... Альжбета... Альжбета... — толькі і пачуў бы няўважлівы слухач, калі б слухаў здалёку, не цікавячыся, чым напоўненыя іх шчырыя сэрцайкі. Бо гэтае імя ўвесь час злятала з вуснаў. Але мы паслухаем уважліва:

— Альжбета такая прыгожая!

— А якая добрая і прыгожая мама Альжбеты!

— Альжбета зусім на маму не падобная!

— Альжбета падобная на бацьку, пана Фелікса!

— А які прыгожы пан Генрых! Відаць, што і ён любіць Альжбету...

— Як можна не любіць Альжбету? Я яе таксама люблю!

— Сказала! Мы ўсе любім Альжбету...

— А тая паненка Гелена нейкая смутная...

— Яна заўсёды такая. Невясёлая, нават калі ўсміхаецца.

— Але і яна любіць Альжбету!

— А ці бачылі, як пан Генрых глядзеў на пані вучыцельку?

— Не навіна! Ён на яе заўжды так глядзіць...

— А ведаеце, што я зраблю, калі выраcту?

Тут дзяўчынка прыпынілася, задумалася на хвіліну, зачырванелася і рашуча прамовіла:

— Выраcту, народзіцца ў мяне дачка, назаву яе Альжбетаю...

І панеслася рэхам:

— І я назаву Альжбетаю...

— І я...

— І я...

— А давайце паклянемся!

Сталі ў кружок, кожная да сэрца руку прыкладвала і сур'ёзна, урачыста прамаўляла:

— Клянуся!

— А яшчэ паклянемся, што нікому не скажам?

— Клянуся!

— Клянуся!...

Так, між іх была тая, што стане маёю матуляю...

Ніколі так многа людзей не збіралася. Усе былі ў вялікім клопаце. Што іх чакае? Як будзе пры тых рускіх? На вачох у кабетаў блішчэлі слёзы. Асабліва калі пан Фелікс пачаў гаварыць. Казаў, каб заўсёды заставаліся людзьмі. Што мо яны вернуцца, калі Бог дасць. Дзякаваў за працу



Фота К.Шастоўскага

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (128) | 28 красавіка 2017 | № 16 (530) Новы Час

# Сімвалы



Дарота КОМАН

## Калыханка для сына

*Я не змагу паказаць табе*
*дзе белае*
*а дзе чорнае*

*Гэта не шахматы*

*Не скажу табе*
*хто добры*
*а хто кепскі*

*Гэта не вестэрн*

*Не навучу цябе*
*з кім як і навошта*
*жыць*

*Скурчаная*
*знакам пытання*
*падношу цябе*
*да грудзей*

## Я ведаю

*Мой сын малюе сонейка*
*Устану заўтра*
*а яно мяне чакае*

*Устану паслязаўтра*
*а мяне чакае*
*ТАНК*

*З гарматай*
*наведзенай на*
*заўчорашні малюнак*

***

*я не паэзія*
*але ты бываеш ува мне*
*так як бываеш паэтам*

*усё радзей*

***

*Казкі павінны добра канчацца*
*Таму я сышла*
*каб ён жыў доўга і шчасліва*

## Ars poetica

*Вершы робяцца хутчэй за швэдры.*

*Але швэдры —*
*лягчэй.*

***

*Я не патрэбная яму*
*у панядзелак аўторак*
*сераду чацвер пятніцу*
*суботу*
*нядзелю*

*Але часам здараецца*
*восьмы дзень тыдня*

***

*Ступаю асцярожна*
*каб яго не скрыўдзіць*
*не зачапіць*
*думкай словам учынкам*
*або няўвагай*

*Узважваю кожны крок*
*хоць гэта я*
*мурашка*
*а ён*
*слон*

## Справаздача за год

*«Сук было шмат»*
*Паўлаў.*

*«Паўлаў быў адзін»*
*Сука.*

## Інтымны маналог

*у акулярах*
*ты выглядаеш маладзейшым*
*плюс інтэлігентнасць*
*памножая на два мінусы*
*з карэкцыяй астыгматызму*

*здымі акуляры*

*паразмаўляем*
*як мужчына з жанчынай*

## Сыход

*нават з раю*
*сышла па-ангельску*

*не хацела*
*адбіраць у яго ілюзіі*

*што люблю*

*яблыкі*

## Прэзерватыў

*Нічога выпадковага*

*Заўжды напагатове*
*паміж банкнотамі*
*і пасведчаннем асобы*

*Выпадковай*
*будзе толькі жанчына*

## Эпіфанія

*Гэта было адкрыццё*
*Азарэнне*
*Катарсіс*

*Калі мяне ўразіла*
*вгадавочнасць таго як моцна*

*Як моцна я цябе*
*не кахаю*

## Фантазія

*я думала:*
*крылы*
*вышыні*
*імклівы палёт да зораў*
*а была*
*плоскім*
*каменьчыкам*
*які вучылі лётаць*

## Стомленасць матэрыялу

*наш ложак усё больш прыгнятаюць*

*кілаграмы памножаныя на ўзрост*
*пяшчоты пазбаўленыя лёгкасці*
*цяжар штодзённых вінаў*
*і апраўданняў*

*наш ложак аж трашчыць*
*ад празмернасці*
*нашай адсутнасці*

## Дарота Коман

*прыгожыя вочы*
*якія нельга пакахаць*

*прыгожыя далоні*
*якія нельга пакахаць*

*прыгожыя ступачкі*
*якія нельга пакахаць*

*вусны*
*усмешка*
*голас*

*я не хачу быць Мэрылін Манро*

*я хачу быць*

## Звярынец

*Глядзіш на мяне*
*як вясковы мужык на жырафу*

*— Цябе няма — кажаш ты —*
*Такая проста не можа існаваць*

*рукой дастаць*
*а не возьмеш*

*— Конь з такой шыяй мусіць здохнуць —*
*сказаў мужык*

*і вярнуўся*
*да сваіх*



Малюнак www.alphadelta.ru

## Сімвалы

*Чаму самотная зубная шчотка*
*мне нагадвае пра адзіноту*
*табе ж — пра свабоду?*

*Чаму сплеценыя рукі*
*для цябе — кайданы*
*для мяне — ратавальнае кола?*

*Чаму маё жаданне йсці следам*
*ты назавеш пераследам?*

*Чаму прачытаеш мой верш так іначай*
*чым я яго напішу?*

## 36 квадратных метраў думак

*часам працей скласці*
*папяровую ластаўку*
*чым верш*
*пра свабоду*

## Развітанне

*калі так —*
*забірай усе свае рэчы*

*сонечныя акуляры*
*плашч-дажджавік*
*вясёлкавую пасцель*
*фоткі з Сіцыліі*
*ручнікі*
*тэпці*
*зубную шчотку*
*крэм для галення*
*і мяне*

## Мой паскудны чорны гумар

***Магдзе Чайкоўскай***

*у кроплі вады*
*я ўсё яшчэ бачу поўную шклянку*
*нават калі гэта толькі*
*сляза*

## У гэтым узросце

*ужо не носяць слёз*
*з такімі вялікімі вачыма*

## Другі твар

*здаецца, што мой голас*
*мае трыццаць гадоў*
*і валасы наіўнай бландынкі*

*якіх я ніколі не мела*

## Першае каханне

*Ты сапраўды не мусіш раўнаваць*
*да таго хлопца*
*у дзіцячым садку*

*Гэта ўсё бліскучыя гузікі яго дзеда*
*(з арламі!)*
*закружылі мне галаў*

*Я тады яшчэ не ўмела прымяраць чужое*
*прозвішча*
*Нават імя распусцілася ў памяці*

*Ну, добра, ела за яго тыя паскудныя*
*бурачкі, але*
*…болей грахоў не помню*

## Аўтамат

*Не памятаю*
*каму я званіла*
*год таму*

*А ён жа быў*
*найважнейшы*
*у свеце*

*Бо я аддала б*
*паўцарства*
*за тэлефон —*

*толькі чый?*

**Пераклаў з польскай мовы**
**Андрэй Хадановіч**

# Некаханы, альбо Не, каханы



Бірутэ ЁНУШКАЙТЭ

Дзе будзем жыць, Лёнік?
Як дзе? Тут.
З бацькамі?
Бацькі ў той палове, а мы — у гэтай.
Але тут няма ні шафкі, дзе хлеб схаваць, і ніякага стала...
Стол мне дадуць на працы — выбракавалі старыя пісьмовыя.
А дзе я буду варыць есці?
Як дзе? Тут.
Дык няма ж ніякай пліты.
У бацькоў згатуем. Колькі нам трэба...
На пашарпаным пісьмовым стале — тры рандолі, патэльня, чатыры талеркі, збанчак, кандэлябра, стос кніг, а ў яго шуфлядках — лыжкі, нажы і відэльцы, сурвэткі, ножанкі і чарпак, шніпар і валяр'янавыя кроплі, лаўровы ліст, соль і цукар, нітку і гузікі — ці не ўся гаспадарка.
Асобна стаіць тумбачка, на якой прыладзілі электраплітку — калега падаравала. Спачатку яна варыць бульбу і запіхвае рандолю пад пярыну. Потым суп — еш, бо астыне. Пакуль ён есць, яна смажыць катлеты і выцягвае з-пад пярыны бульбу — цудоўны цёплы абед. Толькі часу шмат траціцца з гэтай пліткай. І...
...ізноў запырскала сцяну. Казаў жа — адсунь далей! Глядзі, якія плямы на шпалерах!
Старыя, гідкія, новыя паклеім.
Яшчэ што! Маці злуе, што не йдзеш да яе, не варыш у печы.
І не пайду. Не ўмею ў печы.
Магла б навучыцца.
А дзе мы будзем мыцца, Лёнік?
Як дзе? Тут.
Дык жа вады няма.
Прынясем з калодзежа.
А ў чым будзем мыцца?
Пазычым у маці які-небудзь большы тазік.
Ён мыецца халоднай вадою ў садзе пад яблыняй, яна грэе сабе ў самай вялікай сямілітровай рандолі. Здымае плітку з тумбачкі, ставіць на яе шэры алюмініевы тазік.
Калі так штодня будзеш плюхацца, праз месяц падлога згніе.
Якая гэта падлога — пілавіння спраcаванае.
Настае зіма. Лёнік сядзіць ля напаленай печы ў бацькоўскай палове і глядзіць тэлевізар. Яна адна ў пакоі, сядзіць на ложку ў куртцы, захутаная коўдрай, і чытае тоўстыя падручнікі. Усё яшчэ вучыцца. Ля ложка на тумбачцы — усё тая ж уключаная электраплітка, але цяпла яна не адчувае, толькі смурод гарэлага пылу і тлушчу казыча нос. Яна чхае.
Магла б і ты прыходзіць да бацькоў, столькі электрычнасці не спальвала б.
Вы там у цэмры сядзіце, як я буду чытаць?
За дзень не начытаешся?
Рана цямнее.
Ноччу, калі ў пакоі восем градусаў цяпла, лежачы пад пуховаю коўдрай на двух ссунутых побач тапчанах (тулячыся да Лёніка, трапляе ў жалабок), яна часта марыць пра малюсенькую ўласную кватэрку за чыгункай: з плітой і ваннай, з кухонным сталом і дзьвюма табурэткамі, з цёплымі радыятарамі, кніжнай паліцай і ложкам хоць крыху шырэйшым. А можа, і з дзіцячым ложачкам?
Давай ноймем, Лёнік, колькі так можна? Штодня на прыпынак праз чыгунку ці па гэтым тунэлі, і ўранні, і ўвечары цёмна — мне страшна...
Усе так ходзяць — і нічога...
Шмат хто ўжо і загінуў на рэйках, а на колькіх напалі...
Мэр сказаў — хутка і ў жыхароў Заечай вуліцы будзе пешаходны мост.
Усе мэры абяцаюць. І дзеду твайму абяцалі, а яго цягнік раздушыў, і суседа твайго бацькі, а моста і да сёння няма...
Давай ноймем.
То з чаго ашчаджаць будзеш?
Дзіця нарадзілася дачасна.
Здаровая, пульхненькая дачушка.
Дзе пялюшкі мыць будзем, Лёнік?
Як дзе? Ля калодзежа.
Паспрабавалі. У халоднай вадзе не адмываюцца.
Лепш ужо буду выварваць.
Паставіць на электраплітку самую вялікую рандолю, а потым з ёю — на двор. У халоднай толькі перапалошча. Вывешвае між яблынямі. Пялюшкі белыя, з водарам ветру. Дзіця ўсцешанае.
У яе пачырванелі рукі, скура палопалася. Зімой яна ўсю пральню перацягвае ў пакой.
Патоп! Глянь толькі, патоп утварыла — пялюшкі ў хаце мые!
Слухай, не можаш пачакаць, пакуль маці куды-небудзь пойдзе? Альбо я сам занясу туды і памыю.
Маці выходзіць рэдка, дачка часта сікае.
Лёнік цалюткія дні на працы.
Яна вельмі старанная, заканчвае вучобу і ўрэшце атрымоўвае з працы аднапакаёўку за чыгункай.
Набывае:
пральную машыну,
праз паўгода — кухонныя шафкі,
яшчэ праз столькі — раскладную канапу,
а праз пару гадоў — аўтамабіль, крыху маладзейшы за сябе.
Не дазваляй дачцэ есці марозіва ў машыне! На абіўцы — суцэльныя плямы!
Куды лезеш?! Чаравікі пачысці, я толькі што дыванкі памыў!
Не грукай дзверцамі!
Праз пяць гадоў абодва штодня бегаюць да Парламенту. Яна пасля поўначы вяртаецца да соннай дачкі.
Лёнік застаецца. Дзяжурыць. Ахоўвае.
Шмат слёз. Многа поўных жаху бяссонных начэй.
Нарэшце настае мройная Незалежнасць.
Ад гэтай радасці народзіцца яшчэ адно дзіця. І яшчэ адно.
Лёнік працуе ў Гішпаніі. Потым — у Нямеччыне.
Рэдка вяртаецца. Але штораз на іншым аўтамабілі.
Як ты іх выхоўваеш? Глядзі, якія сцены? І ўсе выключальнікі завэдзганыя!
Вытру, сёння яшчэ не паспела.
Хто зламаў ручку шуфлядкі?
Іх трое — шуфлядак толькі дзве — не падзеляць, Лёнік...
Куды запіхнулі мае пласкагубцы? Тут, на шафку мінулым разам паклаў!
Калі, Лёнік? Тры месяцы таму, калі дзіцячы ложак падладжваў?
Увечары ўсе трое лепяцца да стала. Старэйшай не ўдаецца суцішыць братоў. Не можа засяродзіцца. Скардзіцца...
Яшчэ праз пяць гадоў яны прадаюць аднапакаёўку і адмыслова далёка ад чыгункі (!) пачынаюць будаваць дом. Лёнік па-ранейшаму рамантуе немцам кватэры. Ці збірае ўраджаі памаранчаў для гішпанцаў. Тое, што яны выкідваюць на сметнікі, цягне дадому праз палову Еўропы. Яна набывае будаўнічыя матэрыялы, дапільноўвае муляраў-цесляў. Жыве з дзецьмі ў нанятай кватэры.
Праз пяць гадоў будоўля скончана.
Лёніку хапіла замежжа. Ён распачынае бізнэс.
Па дарозе на працу яна ўсіх траіх давозіць да школы. Лёніка пакідае дома.
Яна не мае ніякага ўяўлення, чым ён займаецца і колькі зарабляе.
Ужо прывыкла да адказу: Няма ў мяне, разумееш, няма ў мяне цяпер грошай!!!
Яна заўсёды імкнецца, каб было столькі, колькі неабходна.
Бегае на дзве працы.
Таму што дзеці растуць. Дзякуй Богу — здаровыя і здольныя.
Патрэбныя добрыя школы. Яны ходзяць у музычныя, спартовыя, танцавальныя гурткі.
Горад вялікі. Месцы працы далёка адно ад аднаго.
Лёнік, мне трэба навучыцца кіраваць аўто — не паспяваю паўсюль.
Ізноў ты пачынаеш.
Буду вяртацца дахаты раней, і табе не давядзецца дзяцей вазіць...
Ну добра, не звягай, паспрабуем.
Ды як ты кратаешся?
Што я табе гаварыў? Трэба мякка адпускаць педаль!
І не кладзіся на стырно, гэта табе не ложак!
Ухойдаеш мне машыну за адзін дзень!
Чаго спынілася?
Як што рабіць?
У цябе стырно ў руках, ты і думай!
Ні тая перадача!
Бля, рухавік мне парвеш!
Чаго тут табе дрэнна?
Мне дрэнна?
Куды ты йдзеш?
Яна ідзе да інструктара. Плаціць. Ездзіць па горадзе. Здае іспыты.
У Лёніка — прыступ. Жоўцевыя камяні. Ускладненні. Яна дзякуе Госпаду, што ўжо можа кіраваць аўто, а то ніяк бы не паспела? Дзяцей — па школах, самой — па працах, у абедзенны перапынак — да Лёніка з лёгкімі булёнамі... Увечары валіцца ў пасцель, як лісцінка.
Матулечка прыходзіць адведаць Лёніка. Кажа: ведаеш, што твая на тваёй машыне імчыць, як ужаленая. Не гаварыла? І дзеці не абмовіліся? Бачыш, як яна іх выхоўвае! На Заечую вуліцу амаль не зазірае — далекавата барыні! Мала што новую машыну раздзяўбе, то яшчэ і дзяцей прыкончыць!
Лёнік вярнуўся праз два месяцы:
я б і раней выздараве, калі б не пастаянна на стрэсах — як даведаўся, што ты ездзіш... Скараціла ты мне жыццё...
Хто адбіў гэты кут?
Бітва кордамі?
Адкуль гэтыя корды?
Цётка падарыла? Яшчэ адна вар'ятка.
Я вам пакажу бітвы.
Новы ровар? Ты купіла?
І навошта ён быў патрэбны? Зломіць адразу — нічога ў яго не вытрымлівае. Мог бы і на братавым гойсаць.
Глядзі, адкуль гэтая пляма на тэрасе?
Каву разліў?
Навошта даеш дзецям каву? Не могуць вады напіцца?
Мой сабака? То не пакідайце абы дзе. Цяпер даводзь да ладу.
Купіў шыльдачкі з лістоўніцы, колькі грошай угайдамачыў!

Прамінула дзесяць гадоў.
Дзеці разлятаюцца па свеце.
Лёнік, можа і мы куды-небудзь паедзем? За ўсё жыццё я толькі польскі кірмаш і бачыла... Можа, у якую-небудзь Турцыю на тыднік...
Яшчэ што... Я гэтых туркаў у Нямеччыне столькі наглядзеўся, што... Думаеш, за мяжой цябе рай чакае? Нічога там інакшага, чым у нас, няма. Дык навошта грошы траціць?
Лёнік стаў пенсіянерам. Загруз у сеціве, чытае абвесткі. Вышуквае новы аўтамабіль.
Куплю, і каб ніхто да яго пазуроў сваіх не датыкаў. Гэты разваліла — мецьмеш сабе.
Паглядзі, якое лабавое шкло! Зразумела, што пярсцёнкаў не здымала, калі працірала — бачыш, як пашкрабала? Навошта штодня іх носіш?
А дзе твой пярсцёнак, Лёнік?
Пасля шлюбу аддаў маці, каб захоўвала. Не буду ж я яго мусоліць штодня? Пэўна, у яе ў куфры.
У куфры няма.
Маці памерла.
Бацька памёр.
Хату прадалі.
Новыя гаспадары не толькі шпалеры здзерлі, але і сцены пабурылі. Цяпер на месцы халупкі — сучасны палац з высокім плотам і злосным сабакам за ім.
Лёнік шкадуе, што паспяшаўся прадаць. Не дачакаўся, пакуль падвысяцца кошты. Ды яшчэ гэты пярсцёнак...можа, дзе-небудзь схаваны маці пад падлогай... І як ён не даўмеўся спытаць?
З гора часам і чарачку кульне. Давозіцца везці дамоў яшчэ больш раздражнёнага.
Не імчы, як прышыбленая!
Састарылася, а ездзіць добра не навучылася! Усе бардзюры пераверне!
Дык сёння ўранні ты сам, Лёнік, чапляў, выязджаючы...
Сам, сам, таму што ты ўчора дрэнна запаркавалася, як я мог вывернуцца заднім ходам?
Мінае яшчэ дзесяць гадоў.
У лякарню яе адвозяць на хуткай.
Чаму так доўга цягнулі? — пытаюцца дактары.
Дык яна ж ні на што не скардзілася, — кажа Лёнік.
Няўжо ў вас, пані, нічога не балела?
Ну так, сэрца заўжды шчымела і стома ўсё жыццё даймала, кровападцёкі на руках, на нагах... але няўжо з-за гэтага да дактароў ісці?
Лейкемія вельмі жорсткая, пані... Паспрабуем пераліць кроў, але...

### Канец Некаханага:

Яна ляжыць ссохлая, як трысціначка.
Прыкульгвае з кійком Лёнік.
Як яна пасмела мяне пакінуць?
Я так цяжка хворы, хто цяпер будзе мяне даглядаць?
Дубовыя дошкі... Напэўна, нямала ўбухалі?
Навошта столькі пудры на шчоках? Ляльку з бабулі зрабілі...
І пантофлі новыя...
І ці патрэбна было столькі свечак?
Дзе ўзялі такую сукенку? Купілі?
А навошта пальчаткі? Дзеці, што за фанабэрыі?
Што там зіхціць?
Заручальны пярсцёнак?
Дык зніміце, няўжо ж з ім — у зямлю?

### Канец Не, Каханага:

Яна ляжыць ссохлая, як трысціначка.
Прыкульгвае з кійком Лёнік.
Як яна пасмела мяне пакінуць?
Я так цяжка хворы, хто цяпер будзе мяне даглядаць?
Дубовыя дошкі... Напэўна, нямала ўбухалі?
Навошта столькі пудры на шчоках? Ляльку з бабулі зрабілі...
А навошта пальчаткі? Дзеці, што за фанабэрыі?
Што там зіхціць?
Заручальны пярсцёнак, Лёнік, — кажа нябожчыца.
Сядае, сцягвае пальчатку, здымае пярсцёнак:
Бяры, гэта адзіная рэч, якую ты мне падарыў. Яшчэ пачнеш непакоіцца, што сатрэцца пад зямлёй.

**Пераклала з літоўскай мовы**
**Валянціна Аксак**

# Галасы вёсак-фантомаў

Юлія СІВЕЦ, Мікола БЯНЬКО

**Асфальтавая дарога з Гомеля на Брагін праходзіць праз тыповыя беларускія краявіды. Апрацаваныя калгасныя палеткі, сасновыя лясы і прывіды вёсак удалечыні. За пару дзясяткаў кіламетраў ад райцэнтра раз-пораз сустракаюцца папярэджвальныя шыльды з надпісамі пра радыяцыйнае забруджванне. І сапраўды, фактычна з аднаго боку шашы пачынаецца радыяцыйна-экалагічны запаведнік, куды ўваход звычайным смяротным дазваляецца толькі па спецыяльных пропусках і ў дні Радуніцы. Але на самай мяжы зоны адчужэння дагэтуль захаваліся некалькі вёсак. Дакладней, фантомаў некалі населеных працавітымі палешукамі сёлаў. Моладзі і дзяцей тут няма. Апошнія жыхары размянялі восьмы дзясятак. Не будзе іх — не будзе і гэтых вёсак...**



Вольга Савянок

## «Каб яна тут ляжала, дык я б пабачыла»

Паўз вёску Дуброўнае ідзе дарога. Замучаны асфальт на ёй даўно патрэскаўся. Паступова праезную частку адваёўвае трава, з-за чаго дарога стала значна вузейшая. Гэта — шлях у зону. Дуброўнае — апошняя вёска, якую можна наведаць у любы час. Далей — толькі з дазволу.

«За незаконнае пранікненне — штраф ад 10 да 50 базавых велічыняў», — можна прачытаць на шыльдзе. Гэта прыкладна ад 100 да 500 даляраў. Дуброўнае знаходзіцца на самай мяжы зоны адчужэння. За вёскай — Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік, уваход куды забаронены.

У вёсцы Дуброўнае мы заходзім у першы падворак, які нам патрапіўся. «Гаспадары», — крычым мы.

— Што вам трэба? — насцярожана сустракае нас жанчына .

— Пра вёску вашую прыехалі матэрыял рабіць.

— Ой, я ўжо старая, — засаромелася гаспадыня, але дадала: — Там далей людзей ужо няма. Выселілі. Як Чарнобыль узарваўся, дык і выселілі.

Болей нам жанчына не захацела нічога сказаць. І параіла ісці да гаваркой цёці Волі. У цёці Волі парадак на падворку. І сама яна акуратная жанчына. Цёця Воля, ці афіцыйна Вольга Дзяменцьеўна, — старажыл. Яна шмат ведае пра вёску.

— Цяпер тут усяго пяць ці шэсць хат. Старая нашая вёска. Няма маладых. Няма нікога. Дзе маладыя будуць? Як радыяцыя стала, дык паз'язджалі ўсе.

— А вам не прапаноўвалі?

— Ой, я ездзіла. Дык во — сагнула мяне ўсю, — спіна старой кабеты не разгінаецца нават пры хадзьбе. — Бо халодныя хаты былі. Нас перасялілі за Парычы (Светлагорскі раён — заўв. аўт.). Я перазімавала і ледзь «дуба не ўрэзала». Дык назад прыехала. Мая хата лепшая. Таму што я прапалю гэтую хату і спакойна ноч адпачываю. А там было так пабудавана, што калі маразы, то трэба было ўсю ноч качагарыць. І дроў многа трэба, і брыкету, і вугаль прывозілі. І ўсю ноч кладзі і кладзі.

За КПП, які стаіць на ўездзе ў зону, жыхары не ходзяць, бо могуць пакараць непад'ёмным штрафам. Аднак асаблівых змяненняў у жыцці пасля Чарнобыля Вольга Дзяменцьеўна не заўважае. Хіба што мясцовыя перасталі хадзіць у вёску Вязок, якую выселілі пасля аварыі.

— Я хадзіла на работу ў Вязок. Працавалі таксама ў саўгасе ў Астраглядах. А цяпер там нічога няма. Што я памятаю, як людзі з'язджалі? Людзі ехалі, аўтобусы ішлі. У мяне сваяк быў, дык гаварыў: «І вайны няма, і не страляюць — і хаты пустыя стаяць, і людзей няма». Едуць, пазвязвалі вось так у клуначкі сваё адзенне. А ўсё астатняе пакідалі. А шкада. Гаравалі людзі. Худоба была. Усю паздавалі худобу. І свінняў, і кароў. У мяне была карова. І я яе здала.

Цяпер у Вольгі Дзяменцьеўны ў гаспадарцы толькі куры, два каты і сабака.

— Як яно змянілася яшчэ тое жыццё? Ну, сумна. Але што зробіш...

У Вольгі Дзяменцьеўны ёсць дзеці, якія жывуць у Гомелі і Светлагорску. Але да іх жанчына таксама не хоча пераязджаць.

— Нам сказалі, што ў нас няма радыяцыі. Гэта дзеці напалохаліся і пазабіралі матак з бацькамі ў гарады. У нас тут адна вясковая баба, якая памерла ўжо, казала наконт радыяцыі так: «Каб яна тут ляжала, дык я б пабачыла. А так я яе не бачу».

## «Паміраць трэба, а я ўсё жыву»

Шукаем яшчэ дубровенскіх гаспадароў. Гэта не так лёгка. Амаль усе хаты закінутыя. Аднак раптам заўважаем калісьці ярка пафарбаваны сіні плот і рукатворную шыльду на трэцяй «афіцыйнай» дзяржаўнай мове «У дваре злая сабака». Заходзім туды. На падворку — індакачкі, куры, певень. На лаве грэюцца два каты. Чуваць, як недзе рохкае парсюк. Злога сабакі не бачым. На дварэ — старая жанчына ў хустцы гатуе ежу для жывёлаў. Як мы даведаемся пазней, гэта бабця Вольга Савянок. Ёй — 95 гадоў.

— Ой, ужо багата мне гадоў. Трэба паміраць, а жыву ўсё. А дзед хворы ў хаце ляжыць, дык яму яшчэ болей год. Мы пастаянна тут жывем.

Вольга Савянок — адна з пяці старых людзей, што жывуць цяпер у Дуброўным. А да аварыі на ЧАЭС тут жыло каля 500 чалавек. Большасць людзей з вёскі перасялілі.

— Во, выйшла вартаваць птушачак, бо коршак лятае, дык скраў пяцёх кур, — распавяла гаспадыня. — Маем гарод. Пасеялі сёлета пшаніцу, ячмень, бульбу. Але гніе бульба. А гаспадар мой — у хаце. Ён на два гады за мяне старэйшы.

— А радыцыя тут у вас ё?

— Радыяцыі не баімся. Мы ўжо старыя, жывем памаленьку. А трэба паміраць. Ужо ж маладзейшыя за нас паміраюць. Мару пра тое, каб памерці адразу, каб не ляжаць. Каб дзецям не надакучваць. У маёй сям'і нас дзевяць было. Дык дзве сястры ляжалі, іх паралізавала. Ой, страшна гэта, страшна. Ёсць бог на свеце, ці няма, але хочацца, каб ён даў хуткую смерць.

— А раней баяліся радыяцыі?

— Ды не баялася. Калі б не радыяцыя, дык я б спакойна дарабіла да пенсіі і была б у мяне большая пенсія. Я кароў даіла. Трэба 40 гадоў стажу. А ў мяне 37. Увесну 1986-га года пачалася радыяцыя, дык цяпер у мяне малая пенсія. Дзень той памятаю. Мы сеялі гарод. Бульбу. Мы не ведалі, што ўзарвалася. Нам ужо сказалі. Салдаты прыехалі. Што яны рабілі? Ой, дзеткі, мае. Яны ж маладыя былі... Гарэлку пілі. Накіруюць іх дах мыць ды хаты. Яны потым п'юць. Маладыя ж. А салдаты тыя казалі: «Бабкі, не бойцеся, вы не будзеце з'язджаць, мы вам асфальт кладзем». І мы ўжо не баяліся.

Вольга Савянок выходзіць нас праводзіць. На брамцы вісіць падкова.

— Во, сынок на шчасце прыбіў. Сябры ягоныя прыедуць, пасядзяць на лаўцы. І ёсць памяць пра сыночка.

— А шчасце ёсць?

— Дзеткі, якое шчасце? Каб сынок не памёр. Хай бы ён бурчаў. Выпіваў ён. І забілі яго.

## Апошні жыхар Краснай гары

Некалькі кіламетраў ад вёскі Дуброўнае — вёска Красная гара, ад якой амаль нічога не засталося. На падворку 88-гадовага Івана Шыльца ляжаць акуратна складзеныя дровы — хоць здымай для рабочай застаўкі windows. Такому падворку, як у дзядзькі Івана, можа пазайздросціць любы малады гаспадар: рэчы раскладзеныя па сваіх месцах, усе інструменты дагледжаныя, акуратна ляжаць гайка да гайкі, шруб да шруба. Пасля таго, як ягоная жонка патрапіла ў шпіталь, ён стаў апошнім жыхаром вёскі Красная гара. А да Чарнобыльскай трагедыі тут жыло больш за 300 чалавек.

— Як мяне не будзе, дык і Красная Гара знікне. Вечнага няма нічога.

Ад былых хат засталося толькі некалькі сценаў, якія ледзь бачныя сярод хмызняка. Пра тое, што тут калісьці было дзве вуліцы, можна даведацца толькі з Вікіпедыі. Пасля Краснай гары — ужо вёска Глухавічы, жыхароў якой высялілі ў 1986-м. Там — зона.

— Красная гара таксама была зонай адчужэння, — гаворыць Іван Шылец. — Запаведнікам лічылася. Але цяпер сказалі, што цяпер Красная гара ўжо чыстая зона.

Дзядзька Іван пагаджаецца правесці нам невялічкую экскурсію. Фактычна за некалькі дзясяткаў метраў ад ягонага дома стаіць высокі плот, за якім — могільнік навакольных вёсак. Сюды, у глыбокі кар'ер, звозілі хаты і асабістыя рэчы.

— А кар'ер во гэты — вазілі ж туды хаты з вёсак усе ў той кар'ер. Во, за зялёным плотам. Усё забралі. Усё ў тым кар'еры. Тры-чатыры вёскі тамака згрузілі. Ён жа мо метраў 20 быў глыбінёю. Усё засыпалі.

Вялікую хату, у якой стары дажывае свой век, ён будаваў сам. Рыхтаваў матэрыялы, сплаўляў па рацэ Брагінка.

— Цяпер ужо, лічы, і няма той Брагінкі, — гаворыць Іван Шылец. — Ля цяперашняга райвыканкама ў Брагіне выцягваў тую хату, потым валамі вазіў. У 1949 годзе мяне забралі ў войска. Накрылі хату ўжо без мяне саломаю. Я чатыры гады адслужыў. Вярнуўся. Калі жаніўся, працаваў спачатку на конях, потым пайшоў вучыцца на кіроўцу. Далі машыну. Усё жыццё працую. Усё жыццё. У калгасе я прапрацаваў 53 гады. Плюс армія чатыры гады. Во, 57 гадоў працую... У 1986 годзе ў красавіку здарылася аварыя. А мы сеялі тут, аралі. І лічы, красавік, травень, чэрвень, ліпень, жнівень і верасень мы тут працавалі. А потым нас толькі перасялілі. Для чаго гэта так было? Ніхто нічога не гаварыў. Усё было схавана.

Іван Шылец дапамагаў ліквідаваць наступствы аварыі.

— З вёскі Крукі мы вывозілі быдла. Скідалі на балоце, а куды яго дзявалі, бог яго знае. Па два рэйсы рабілі.

Адлегласць паміж Краснай гарой і Чарнобылем па трасе — прыкладна 90 км. А наўпрост — 58 км. Пасля катастрофы на ЧАЭС вёску Красная гара выселілі. Для перасяленцаў пабудавалі адмысловыя хаты. Іван Шылец патрапіў у вёску Дварэц Холмецкага сельсавета ў Рэчыцкім раёне.

— Там шчытавыя дамы. Зараз газ правялі, дык нармальна. А тады і дровы трэба было, і брыкет. І ўставаць, і ноччу паліць. Там немагчыма было нагрэцца. Прыйду з работы дадому, на батарэі ногі пакладу, на канапу лягу, каб сагрэцца. А яно свішча. Жонка мая б хацела там застацца. А я гавару, калі б я там застаўся, мяне б ужо даўно на свеце не было. Таму што я б сумаваў па сваёй вёсцы. А так я дома: хаджу па сваіх гародах, па свах сцежках.

Вёска Красная гара знаходзіцца на мяжы з зонай адчужэння. Але гэта не перашкаджае яе апошняму жыхару трымаць гаспадарку. У яго два сабакі, дзевяць курэй, певень і пчолы.

— Во прыехалі дзеці і ўзялі яек. Раней трымалі цёлку, свіней. Калі кароў паздавалі і вярнуліся сюды, дык коз трымалі. Цяпер пяць вулляў з пчоламі.

Адразу за Краснай гарой пачынаецца зона адчужэння. Але Іван Шылец гэтага не заўважае.

— Няма ў нас тут радыяцыі. Ногі толькі баляць, як пастаю доўга. А ўвогуле Чарнобыль шмат бяды нарабіў. Людзей павысялялі, памерлі многія заўчасна.

Мужчына са слязьмі ўзгадвае, як жыў удалечыні ад роднай хаты.

— Калі б я жыў там, то мяне б даўно ўжо не было. Я б толькі і думаў пра свой дом. Нас як перасялілі, дык я працаваў на машыне — ездзіў у Хойнікі па брыкет. Дык машыну пакідаў на асфальце, а сам прыходзіў на ганак свайго дома пехатой праз балоты, каб даведацца, як тут справы. Сядзеў тут і плакаў. Мы ў Дварцы толькі перазімавалі два месяцы. А потым я забраў сям'ю і вярнуліся сюды.

Іван Шылец на некаторы час змаўкае, нібы ўзгадвае штосьці. А потым дадае:

— Усім дарога адна — туды, толькі ў розны час. Усе тамака будуць. Не адкупяцца, не адхрысцяцца, не адмоляцца, а ўсе туды пойдуць, толькі не ў адзін час. Атам які-небудзь нападзе — дык тады ўсе людзі знікнуць. Ды і ўсё.

Старажылы з вёсак Дуброўнае і Красная Гара не валодаюць сакрэтамі доўгажыхарства. Аднак яны перакананы, што сілы для жыцця ім дае родная зямля. «На сваім «корані» мы болей жывем, чымся тыя, хто паз'язджаў. Хто выехаў, тага нікога няма. Ніводнага чалавека», — у гэтым перакананыя людзі, што засталіся жыць на мяжы зоны адчужэння.

# «Залатая горка» Ірыны Багдановіч

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**Гэтую кнігу — «Залатая горка» — наўрад ці прачытаюць тыя, хто называе сябе народам. Не тая тэматыка, вобразнасць, мова, што падабаецца ім. У такім разе не шкадую, што да народа, як яны лічаць, не адношуся. Бо кніга вартая: шмат згадаеш з прызабытых старонак айчыннае літаратуры, шмат даведаешся новага, разам з паэткай узнясеш хвалу і падзяку Творцу за кожны новы дзень жыцця, павандруеш па незабыўным Готландзе, які ў кожнага, хто меў шчасце быць там, свой, непаўторны. Аўтарка паўстае тут у трох іпастасях: паэтка, перакладчыца і літаратуразнаўца.**

### «Дай, добры Божа...»

Не, гэта не зачын «Песні хвалебнае» святога Кірылы Тураўскага, якую перастварыў на сучасную мову Язэп Германовіч, пра што размова пойдзе пазней. Гэта пачатак верша Ірыны Багдановіч «Ты — ветразь...» Лірычная хваля, узнятая калісьці беларускім паэтам-светатарам, кранула нашу сучасніцу, даследчыцу ягонае творчасці, каб адгукнуцца праз асабістае, перажытае, каб выказаць свае просьбы, скласці літаніі. Твор напісаны ў традыцыях айчыннай духоўнай паэзіі, яму характэрны спеўная, малітоўная інтанацыя, узвышанасць і стрыманасць пачуццяў:

*Дай, добры Божа, нам пакоры*
*З Тваёю воляй згодна жыць;*
*Ты — ветразь у жыццёвым моры,*
*Дапамажы па моры плыць.*

Вершы, змешчаныя ў пачатку кнігі, у большасці адносяцца да духоўнае паэзіі. Вылучаецца між імі «На Залатой Горцы», які падказаў назву кнізе. Галоўная выснова прачытваецца ў наступным радку: «Зямны наш лёс без Бога — лёс сірочы». Паэтка аднаўляе карціну ранішняе імшы, перадае атмасферу малітоўнае сцішанасці, засяроджанасці, дзе пульсуюць людскія надзеі, просьбы, жыве вера ў мажлівасць ачышчэння праз шчырае пакаянне:

*Гляджу на Крыж,*
*змываюцца правіны,*
*«Бярыце, ещсе...» —*
*чуецца з прастола.*
*Скрозь цемру бачны светлы*
*шлях адзіны —*
*У сцішанасці ранішняй касцёла.*

Гэты верш падказаў і афармленне вокладкі. Зразумела, на ёй Залатая Горка. Здымак. Але зроблены з незвычайнага




ракурса: на пярэднім плане, перад храмам, які ляціць у неба, расквечаны куст бэзу. Невыпадкова, бо вобраз бэзу ў паэзіі Ірыны Багдановіч апеты неаднойчы. У кнізе «Сармацкі Альбом» яна змясціла самы дасканалы з усіх, якія толькі ёсць у айчынным пісьменстве, верш пра гэты цуд прыроды. Хіба ж не так:

*Бэз безупынны, бязлітасны, бэз летуценны,*
*Бэз як бязмежжа памкненняў, пачуццяў ігрэння.*
*Бэз каралеўскі, сармацкі, бухмата-праменны,*
*Бэз як прэлюдыя лета, фарцісіма траўня.*

Колькі тут красы, узлётнасці, а яшчэ — буянне колераў, малюнкаў, настрояў. Гэта толькі вясна, аўтарка малюе яе радасны росквіт, прадчуванне ўсеахопнага пачуцця, лета-шчасця, якое не менш вартае, чым само пачуццё:

*Бэз каляровы, ліловыя вогнішчы*
*бэзу,*
*Срэбныя футры, драбнюткія*
*флянсікі кветак.*
*Хтосьці самотны, напэўна,*
*прыдумаў імпрэзу:*
*Гэта фарцісіма траўня,*
*прэлюдыя лета.*

### «Балтыйскія абразкі»

Асобна вылучым гэтую нізку, у якой амаль кожны твор мае адмысловую паэтычную канву; аўтарка выкарыстоўвае разнастайныя строфы, стопы, памеры, падпарадкоўваючы іх жывому чалавечаму пачуццю: радасці, захапленню, любові. Інтанацыя то сцішана-роздумная, як у «Балтыйскім ветры», то рухома-плынная, як у трыялетавым трыптыху «Плаванне», то гумарыстычна-іранічная, як у «Готландскім руно», то святліста-радасная, як у «Ветраным ранку», то ўзнёслая, як у вершы «Visby», дзе перададзена малітоўная ўдзячнасць лёсу за падарунак — быць тут:

*Ты, Божа, такімі мяне*
*ўзнагародзіў дарамі:*
*Паклікаў сюды, каб пачулася тут*
*блаславёна!*
*Святая Марыя мне ў вочы*
*глядзіць купаламі,*
*А я — на Яе*
*і на мора гляджу задумёна...*

### Пераклады з польскае мовы

Ірына Багдановіч ста́ла займаецца гэтай няпростай справай: паэтычнымі перастварэннямі з польскае мовы, вяртаючы ў кантэкст айчыннае літаратуры тое, што было напісана ў нашым Краі, паэтамі гэтай зямлі. Па-польску, па зразумелай прычыне. Прапануе сучаснаму чытачу даўняе, малавядомае са спадчыны Антоні Гарэцкага, творам якога асабліва не шанцавала: упершыню ягоныя вершы былі перакладзены на беларускую мову толькі ў самым канцы XX ст. Значна больш вядомыя Ян Чачот, Габрыэля Пузыня, Уладзіслаў Сыракомля, але прапанаваныя тут творы ніколі не перакладаліся.

З вершаў Яна Чачота назавем «Канвалію», што вылучаецца пэўнай сентыментальнасцю, лірызмам.

Паэта звычна ведаюць як аўтара некалькіх беларускіх вершаў сацыяльнае скіраванасці. Нат ягоны цыкл «Зосіных песняў», даволі даўно пераствораны Генадзем Кісялёвым і Кастусём Цвіркам, мала вядомы чытачам.

Дзякуючы Ірыне Багдановіч, усё меней застаецца паэтычных твораў, напісаных на польскай мове, не вядомых беларускаму чытачу.

### Літаратуразнаўчыя артыкулы

Ім адведзена самая значная частка кнігі. І гэта зразумела: Ірына Багдановіч усё жыццё не проста працуе як літаратуразнаўца, яна жыве літаратурай. Шырыня яе даследчыцкіх зацікаўленняў уражвае. Гэта і даўняя літаратура, і яе ўлюбёнае XIX стагоддзе, якое яна сёння ведае як мала хто з навукоўцаў, і таксама ўлюбёныя 1920-ыя гады, якім аддадзена многа часу і сілаў. Зразумела, што нашаніўская пара таксама не абыдзена аўтаркай. Ад вобраза Еўфрасінні Полацкай да авангарднай паэзіі 1920-ых — такія літаратурныя часавыя абсягі гэтае кнігі. Да прыкладу, аналізуюцца жыційны вобраз Еўфрасінні Полацкай і розныя мадэлі яго белетрызацыі Ларысай Геніюш, Вольгай Іпатавай, Данутай Бічэль, Валянцінай Коўтун і іншымі.

Вялікая ўвага надаецца даследаванню рэлігійных матываў у айчыннай літаратуры, творчасці паэтаў-святароў Язэпа Германовіча, Казіміра Сваяка. Усё гэта пададзена не толькі глыбока, грунтоўна, доказна, але з вялікай любоўю, зацікаўленасцю. Так, гісторыю стварэння малітвы «Дай, добры Божа» аўтарка называе дзівоснай. Раскрывае нам гэтае дзіва: як перагукнуліся праз стагоддзі чалавечыя лёсы аўтараў Кірылы Тураўскага і Язэпа Германовіча, у якім суладдзі загучалі струны сэрцаў, каб з'явілася гэтая цудоўная песня-малітва, што гучыць сёння ў многіх хрысціянскіх святынях Беларусі.

Зацікаўленасць даследчыцы, яе нястомны пошук даюць часам багатыя плёны. Ірына Багдановіч прыадчыніла завесу даўняе загадкі: хто яна — Адэля з Устроні, аўтарка знакамітае паэмы «Мачаха», аргументавана давёўшы: гэта можа быць Габрыэля Пузыня. Праблема ў тым, што аргументы праз такі вялікі і неспрыяльны час могуць быць толькі ўскосныя. Падзівіцеся, як напісаны гэты твор (так, твор, бо калі літаратуразнаўчая праца пішацца з такою захопленасцю і любоўю, яна становіцца мастацкім творам): «Розум наш просіць разгадкі, навуковая рацыя патрабуе даведзенасці ісціны. Але ёсць свая звышразумовая прыгажосць і ў таямніцы, захаваным у сакрэце. Таму загадкавая Адэля нас гэтак і вабіць, што яна ахутала сябе таямніцай. Пакінем жа і мы ёй права на гэтую таямніцу, паспрабаваўшы толькі прыадчыніць над ёю зваблівае покрыва».

### Біяграфія і бібліяграфія

Так называецца апошняя частка кнігі Ірыны Багдановіч. Відавочна задума падсумавання важнага этапу літаратуразнаўчае і творчае працы.

«Паненка з навабеліцкага саду» — толькі паэтка магла так назваць сваю аўтабіяграфію. Не зусім звычайны шлях выпаў ёй, заўсёднай выдатніцы. Удзячнасць лёсу, радасць ад таго, што пасланыя ёй былі цудоўныя людзі, шчаслівa паяднаныя ў яе жыцці праз літаратуру праца і любоў — галоўнае ў гэтым творы: «...Я дзякую Богу за ласку спазнання творчага экстазу, «выпадзення» з рэальнасці, адлёту ў тыя блакітныя вяршыні-глыбіні, дзе толькі і магу адчуваць сябе па-сапраўднаму шчаслівай, самадастатковай, дзе адкрываюцца сувязі часоў і прастораў, вертыкаляў і гарызанталяў, быту і нябыту, дзе крышку прыадчыняецца змройлівае покрыва над спрадвечнай таямніцай універсальнай Ісціны Быцця».

Толькі адну лічбу назаву з навукова-творчай бібліяграфіі, якую аўтарка назвала «Крокі і хада» — 422 працы...

Вось жа, вяртаючыся да пачатку... Шкада, што ў такіх кнігаў вельмі абмежаванае кола чытачоў. Але для зацікаўленых асобаў, для настаўнікаў, для тых, хто прафесійна займаецца літаратурай, яна стане надзейным правадніком па даўніх сцяжынах айчыннага пісьменства, падказка, што варта прачытаць ці перачытаць.

«Залатая Горка» — між абраных мною кніг года.

## Прыгоды барона Мюнхгаўзэна

**У Бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшла новая кніга — «Прыгоды барона Мюнхгаўзэна» Г. А. Бюргера і Р. Э. Распэ ў перакладзе Ігара Крэбса.**

Гэта першае беларускае выданне, зробленае паводле поўнай класічнай версіі «Прыгод», а не рускамоўнай дзіцячай адаптацыі Карнея Чукоўскага. У кнізе выкарыстаныя ілюстрацыі Гюстава Дарэ. Гэта адзінаццатае выданне з серыі «PostScriptum». Дызайн вокладкі зрабіла Марыя Мухіна.

Кароткая гісторыя кнігі выкладзеная на задняй вокладцы:

1781 і 1783 — у нямецкім часопісе «Вадэмекум для вясёлых людзей» друкуюцца анекдоты, апавядальнікам у якіх выступае нехта «М г з н».

1785 — нямецкі вучоны Рудольф Эрых Распэ (1736–1794), якога абвінавацілі ў крадзяжы калекцыйных манет і які збег у Англію, перакладае гэтыя анекдоты на англійскую мову і на іх аснове ананімна выдае кнігу пра Мюнхгаўзэна. Кніга робіцца папулярнай і вытрымлівае шмат перавыданняў.

1786 — нямецкі паэт Готфрыд Аўгуст Бюргер (1747–1794) перакладае другое выданне кнігі Распэ на нямецкую, вяртаючы літаратурнага Мюнхгаўзэна на радзіму.

1788 — Бюргер перакладае, дапрацоўвае і выдае пятае ангельскае выданне Распэ — менавіта гэты варыянт кнігі робіцца класічнай версіяй «Прыгод барона Мюнхгаўзэна».

1794 — Распэ і Бюргер паміраюць, а сапраўдны Карл Фрыдрых Іеранім барон фон Мюнхгаўзэн (1720–1797) пакутуе праз сваю славу хлуса: яго слугі вымушаныя разганяць натоўпы разявак, што збіраюцца пад яго вокнамі.

1938 — з'яўляецца першае беларускае выданне «Прыгод Мюнхаўзэна» паводле рускага пералажэння Карнея Чукоўскага (перакладчык не ўказаны).

1955 — выходзіць беларускі пераклад «Прыгод Мюнхаўзэна», зроблены Віталём Вольскім з рускага пералажэння К. Чукоўскага; пад назвай «Прыгоды барона Мюнхаўзэна» пераклад перавыдаецца ў 1992 і 2014 гадах.

2017 — перакладчык Ігар Крэбс робіць беларускую версію «Прыгод барона Мюнхгаўзэна» паводле класічнага нямецкага выдання; кніга выходзіць з прадмовай перакладчыка.

**ПрайдзіСвет**

# Ці будзе «Рускі Букер»?

**На афіцыйным сайце «Рускага Букера» з'явілася паведамленне, што ў найстарэйшай незалежнай літаратурнай прэміі Расіі з гэтага года няма крыніцы фінансавання.**




«Усакавіку прэмія «Рускі Букер» традыцыйна аб'яўляе аб умовах конкурсу на бягучы год, — адзначае журы. — Мы гэтага пакуль што не зрабілі, паколькі «Букер» стаіць на раздарожжы. Наша пяцігадовая дамова аб партнёрстве з банкам «Глобэкс» скончылася. Мы шчыра падзякавалі нашаму фундатару, з якім ажыццявілі цэлы шэраг літаратурных праектаў. А вось імя новага спонсара мы пакуль што не можам назваць — паколькі яго няма. Мы вядзем перамовы, плануем: ці зможам правесці поўнамаштабны конкурс, ці будзем вымушаныя абмежавацца скарочаным варыянтам — як 5 гадоў таму, калі мы правялі «Букер дзесяцігоддзя»... Адказваючы на здзіўленыя званкі выдаўцоў, пісьменнікаў, крытыкаў: «Дзе «Букер»?», мы чуем пра тое, што страціць найстарэйшую незалежную прэмію было б не проста шкада: сыход «Букера» змяніў бы літаратурны пейзаж і выявіў бы рэальнае месца, якое адведзена сёння літаратуры ў расійскай культурнай прасторы... Дарагія акцыі заканчваюцца разам з «годам», адведзеным літаратуры, а літаратура і чытачы застаюцца ні з чым, калі прэмія, якая за чвэрць стагоддзя заслужыла рэпутацыю прызнанага ўсерасійскага гіда і арыенціра для чытача рускага рамана ва ўсім свеце, не знаходзіць сабе падтрымкі. Страціць прэмію проста, адрадзіць жа яе, аднавіць міжнародны брэнд будзе практычна немагчыма. Бо ў нас не так шмат доўгатэрміновых праектаў, якія заслужылі давер і якія маюць сусветную рэпутацыю».

Прэмію «Рускі Букер» заснавала ў 1991 годзе брытанская гандлёвая кампанія «Booker» на ўзор ангельскай «Booker Prize». Яна стала першай незалежнай літаратурнай прэміяй у Расіі (не лічачы існуючую з 1978 года андэграўндную прэмію Андрэя Белага, чый прызавы фонд заўсёды складаў адзін рубель, яблык і бутэльку гарэлкі).



# Развітанне з Яўгеніем Еўтушэнкам

**Яўгеній Еўтушэнка памёр у ЗША 1 красавіка ад спынення сэрца ў сне, на наступны дзень пасля шпіталізацыі. Яму было 84 гады. Аўтар пакутаваў ад рака ў незваротнай форме. У Злучаных Штатах паэт пражываў з 1991 года.**

Адпяванне паэта прайшло ў Перадзелкіне. «Прайшло ў коле сям'і і блізкіх людзей. Так захацела сям'я, каб не рабіць з гэтага шоў. Можа быць, гэта і правільна», — заявіў настаяцель храма Святой пакутніцы Тацяны пры МДУ протаіерэй Уладзімір Вігілянскі, які здзейсніў адпяванне Я. Еўтушэнкі ў храме Святога дабравернага князя Ігара Чарнігаўскага.

Грамадзянская цырымонія развітання адбылася 11 красавіка ў Цэнтральным доме літаратараў у Маскве.

Паэта пахавалі ў Перадзелкіне побач з магілай Барыса Пастэрнака, як завяшчаў сам Я. Еўтушэнка.

Цырымонія развітання з паэтам прайшла і ў амерыканскім горадзе Талса (штат Аклахома). «Атмасфера была выдатная, усё было вельмі кранальна, шмат хто плакаў. Сыны Яўгенія Аляксандравіча Саша і Жэня чыталі яго вершы: адзін выконваў іх па-руску, другі перакладаў на ангельскую», — распавёў журналістам сябар паэта пісьменнік Міхаіл Маргуліс. Паводле яго слоў, развітацца з Я. Еўтушэнкам прыйшлі каля 600 чалавек, у тым ліку генеральны консул Расіі ў Х'юстане (штат Тэхас) Аляксандр Захараў.

Удава паэта Марыя абвясціла, што сёлета выйдзе апошні раман Яўгенія Еўтушэнкі «Берынгаў тунэль», над якім аўтар працаваў перад смерцю.

# Пулітцэраўская прэмія

**У Калумбійскім універсітэце ў Нью-Ёрку ў 101-ы раз была ўручана Пулітцэраўская прэмія — адна з самых прэстыжных амерыканскіх узнагарод у галіне журналістыкі і літаратуры.**

Яна складаецца з двух «блокаў» — журналісцкага і гуманітарнага. У межах апошняга адзначаюць лепшы мастацкі твор, драму, кнігу па гісторыі, біяграфію, вершаваны твор і нон-фікшн. На прэмію ў галіне літаратуры могуць прэтэндаваць толькі грамадзяне Злучаных Штатаў Амерыкі (акрамя намінацыі «За кнігу па гісторыі ЗША»).

Прэмію ў галоўнай намінацыі «Служэнне грамадству» атрымалі журналісты «New York Daily News and ProPublica» за серыю матэрыялаў пра паліцыю Нью-Ёрка. У галіне міжнароднай журналістыкі адзначаны супрацоўнікі газеты «The New York Times» за матэрыялы, якія даследуюць дзейнасць Уладзіміра Пуціна па распаўсюдзе расійскага ўплыву за мяжой.

«The Washington Post» атрымаў узнагароду за «раскрыццё нацыянальнай тэмы» — матэрыял аб тым, як прэзідэнт ЗША Дональд Трамп марнаваў сродкі з дабрачыннага фонду на асабістыя мэты.

Галоўнай прэміяй за мастацкі раман сёлета быў уганараваны нью-ёркскі пісьменнік Колсан Уайтхед за кнігу «Падземная чыгунка», якая цяпер знаходзіцца ў спісе бэстсэлераў «New York Times», а раней стала лаўрэатам Нацыянальнай кніжнай прэміі ЗША. Сярод аўтараў драматычных твораў лаўрэатам прэміі стала Лін Ноттэдж за п'есу «Пот». За кнігу па гісторыі прэміяй была ўганаравана Хетэр Энн Томпсан за працу «Кроў у вадзе: Турэмны бунт у «Атыку» 1971 года і яго наступствы», прысвечаную аднаму з самых значных падзей руху ў абарону правоў зняволеных у Амерыцы.




Лепшай біяграфіяй назвалі сямейную хроніку «Вяртанне» лівійскага пісьменніка Хішама Матара, які праз 30 гадоў вярнуўся на радзіму пасля звяржэння рэжыму Кадафі. У намінацыі «Паэзія» быў узнагароджаны зборнік «Оліа» Тайхімбы Джэс — паэткі, якая даследуе песні афраамерыканскіх выканаўцаў, якія выступалі ў перыяд Грамадзянскай і Першай сусветнай вайны і чыя творчасць не захавалася ў пісьмовым выглядзе. Лепшай у галіне нон-фікшн стала кніга «Выселеныя: галеча і выгада ў амерыканскім горадзе» сацыёлага Мэцью Дэсманда пра ўзаемаадносіны бедных амерыканскіх сем'яў.

Кожны з пераможцаў прэміі атрымаў грашовае ўзнагароджанне ў памеры 15 тысяч даляраў.

# Літаратурная карта свету

**У сецыве з'явілася літаратурная карта свету. На амерыканскім сэрвісе абмену малюнкамі «Imgur» карыстальнікам Reddit з нікам Backforward24 былі апублікаваныя два варыянты літаратурнай карты свету, дзе кожная краіна прадстаўленая адным знакавым творам.**

Карта выклікала гарачыя спрэчкі, бо там «змяшаныя» класічныя раманы, сучасныя творы і дэтэктывы. Да прыкладу, многія не згодныя з тым, што галоўны англійскі раман — гэта «Гонар і прадузятасць» Джэйн Осцін. А як жа Шэкспір і Дыкенс? Ці згадаць Украіну, якая прадстаўлена дэтэктывам Андрэя Куркова «Пікнік на лёдзе». Затое цікава прагледзець галоўныя кнігі краін, пра літаратуру якіх нам вядома няшмат. З карты можна даведацца, што самым яркім творам, на думку аўтара карты, напісаным у Румыніі, з'яўляецца «Лес павешаных» Лівіў Рэбрану. Цікава, што ў абедзвюх версіях Расія прадстаўлена раманам Льва Талстога «Вайна і мір», ЗША — кнігай Харпер Лі «Забіць перасмешніка», Кітай — творам Цао Сюэцынь «Сон у чырвоным доме», Швецыя — дэтэктыўным раманам Сціга Ларсана «Дзяўчына з татуіроўкай дракона», Турцыя — кнігай Архана Памука «Імя мне — чырвоны», Чэхія — раманам Мілана Кундэры «Невыносная лёгкасць быцця».

Сервісам ReadRate быў распрацаваны адзін з варыянтаў карты і выпісаныя кнігі па краінах:

Расія — «Вайна і Мір», Леў Талстой,

Турцыя — «Імя мне — чырвоны», Архан Памук,

Казахстан — «І доўжыцца больш веку дзень», Чынгіз Айтматаў (тут памылка аўтара, паколькі Айтматаў нарадзіўся ў Кіргізіі),

Кітай — «Сон у чырвоным доме», Цао Сюэцынь,

Паўднёвая Карэя — «Вегетарыянка», Хан Канг,

Індыя — «Бог дробязяў», Арундаці Рой,

Японія — «Хронікі заводной птушкі», Харукі Муракамі,

Беларусь — «Чарнобыльская малітва», Святлана Алексіевіч,

Украіна — «Пікнік на лёдзе», Андрэй Куркоў,

Чэхія — «Невыносная лёгкасць быцця», Мілан Кундэра,

Польшча — «Лялька», Баляслаў Прус,

Сербія — «Хазарскі слоўнік», Мілорад Павіч,

Венгрыя — «Зорка Эгер», Геза Гардон,

Румынія — «Лес павешаных», Лівіў Рэбрану,

Балгарыя — «Жалезная свяцільня», Дзімітр Талеў,

Эстонія — «Варгамяэ», Антон Таамсаары,

Нарвегія — «Голад», Кнут Гамсун,

Данія — «Сміла і яе пачуццё снега», Пітэр Хег,

Швецыя — «Дзяўчына з татуіроўкай дракона», Сціг Ларсан,

Фінляндыя — «Невядомы салдат», Вяйнэ Ліна,

Іспанія — «Цень ветру», Карлас Руіс Сафонаў,

Італія — «Мая геніяльная сяброўка», Элена Ферантэ,

Германія — «Ператварэнне», Франц Кафка,

Францыя — «Адрынутыя», Віктар Гюго,

Швейцарыя — «Хайдзі, або Чароўная даліна», Ёхана Спіры,

Аўстрыя — «Чалавек без уласцівасцяў», Роберт Музіль,

ЗША — «Забіць перасмешніка», Харпер Лі,

Канада — «Аня з Зялёных мезанінаў», Люсі Мод Мантгомеры,

Вялікабрытанія — «Гонар і прадузятасць», Джэйн Осцін,

Ірландыя — «Уліс», Джэймс Джойс.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваныя паводле публікацый Art net, lenta.ru, novostiliteratury.ru, Associated Press**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Фота www.internethindu.in

**Індыя на вачах губляе цэлую галіну вытворчасці, дзе працуюць больш за 2,5 мільёна чалавек. А яшчэ ў 2014-м па экспарце мяса індусы за кошт нізкіх цэн абагналі нават Бразілію**

# Уратаваць карову

Алег НОВІКАЎ

**Пераслед алкаголікаў, цыган і мусульман, абарона кароў — такія першыя вынікі эксперыменту ў індыйскім штаце Утар-Прадэш. Тут упершыню ў гісторыі Індыі рэгіянальную адміністрацыю месяц таму ўзначалілі радыкальныя прыхільнікі індуізму.**

«Хорошую религию придумали индусы», — весела спяваў у свой час Уладзімір Высоцкі. З улікам таго, што адбываецца ў штаце Утар-Прадэш, тая песня Высоцкага сёння ўспрымаецца не так задорна.

У сакавіку ў штаце да ўлады прыйшла «Бхаратыя джаната парты» (BJP), якая заклікае будаваць краіну на каштоўнасцях індуісцкай рэлігіі. Перамогу BJP разглядаюць як малую рэвалюцыю не толькі таму, што Утар-Прадэш з 200 мільёнамі насельніцтва — ключавы штат у індыйскай палітыцы. Фішка ў тым, што на пасаду губернатара кіраўнік партыі і прэм'ер краіны Нарэндра Модзі прызначыў асобу, якую ўчора ўсе трымалі за абсалютнага маргінала.

Новы кіраўнік Утар-Прадэш Ёгі Агіцьянан — асоба больш чым яскравая. Гэты 44-гадовы служка мясцовага індуісцкага храма ніколі не адрозніваўся пакорлівасцю, якая мае быць уласцівая манаху. У актыве новага губернатара не менш за дзясятак крымінальных спраў, у тым ліку абвінавачванні ў спробе забойства, закліках да масавых беспарадкаў і гэтак далей. «Калі мусульманін заб'е аднаго індуіста, мы забярэм у іх сто жыццяў», — казаў ён. «Калі адна індуісцкая дзяўчына выйдзе замуж за мусульманіна, дык мы возьмем сто мусульманскіх дзяўчат у адказ», — казаў у адной са сваіх прамоў Агіцьянан.

Да нядаўняга часу Модзі і яго атачэнне трымалі дыстанцыю ад такой публікі, аднак цяпер нечакана далі ім карт-бланш.

Першым адчулі перамены мясцовыя мусульмане. Дэпутаты ад BJP адкрыта заклікаюць пазбавіць мусульман юрыдычнага статусу меншасці і ўсіх адпаведных ільгот, а таксама заканадаўча абмежаваць нараджальнасць у мусульманскіх сем'ях. І нават прапануюць забараніць вернікам хадж у Мекку.

Пасля індусіты прайшліся па цыганах: супрацоўнікі нядаўна створанага Дэпартаменту па барацьбе з сексуальнымі гвалтаўнікамі пачалі іх актыўна затрымліваць і кідаць за краты. Чаму пад паліцэйскі хапун трапляюць выключна цыгане, застаецца загадкай. Пацярпелі ад індуістаў і аматары «зялёнага змія» — праз забарону продажу алкаголю.



Фота www.news.trust.org

Аднак найбольш рэзананснай аказалася кампанія ўраду Утар-Прадэш у абарону кароў. Праводзячы ў жыццё індуісцкі пастулат пра сакральнасць жывёліны, на абарону худобы губернатар мабілізаваў сілавы апарат. Спецыяльныя інспекцыі «кашмарацьʼ» увесь бізнес, звязаны з вытворчасцю мяса. Патрулі часам прыстаўленыя нават да кароў, што гуляюць па вуліцах.

У прынцыпе, у большасці штатаў Індыі здзекі і забойствы кароваў і так былі даўно забароненыя (звычайна за такое злачынства пагражае пакаранне ў выглядзе 7 гадоў пазбаўлення волі). Пры гэтым вытворцам мяса той артыкул не пагражаў, паколькі яны выраблялі прадукцыю з буйвалаў.

Аднак BJP раптам аказаліся нецікавыя такія дэталі. Пад соўсам абароны сакральных жывёл зачыняюць усе аб'екты мясной індустрыі. Прычым не толькі ў штаце Утар-Прадэш. BJP сёння кіруе — самастойна або ў кааліцыі з мясцовымі партыямі — у 17 штатах. Пад ціскам мясцовага актыву іншыя секцыі партыі вымушаныя капіяваць тое, што робіць Ёгі Агіцьянан.

Як следства — Індыя на вачах губляе цэлую галіну вытворчасці, дзе працуюць больш за 2,5 мільёны чалавек. Нагадаем, што ў 2014-м па экспарце мяса індусы за кошт нізкіх цэн абагналі нават Бразілію. Аднак значна больш небяспечна тое, што кампанія па выратаванні кароў выклікала адначасовы ўздым ваяўнічага фундаменталізму па ўсёй Індыі.

Так, у штаце Гуджарат 3 красавіка прынялі закон, паводле якога за забойства буйной рагатай жывёлы можна атрымаць пажыццёвае зняволенне. Урад Раджастана — іншага рэгіёну, дзе кіруе партыя Модзі, — паведаміў пра ўвядзенне новай школьнай формы, якая цалкам нагадвае ўніформу сяброў мілітарнай секцыі BJP. Шырокі размах прыняло перапісванне падручнікаў гісторыі, на старонках новых кніг практычна ігнаруюцца такія фігуры, як Джавахарлал Нэру або Махатма Гандзі.

Да выхадак фундаменталістаў можна было б ставіцца як да нейкага кур'ёзу, калі б не дадзеныя апытанняў. Сацыёлагі фіксуюць сталы рост сімпатый да BJP на фоне дзеянняў новага ўраду Утар-Прадэш. З улікам гэтага трэнду і таго, што федэральныя парламенцкія выбары адбудуцца толькі ў 2019-м, наўрад ці Модзі будзе спрабаваць неяк націснуць на губернатара Утар-Прадэш і яго каманду. Жадаючы ўмацаваць сваё лідарства напярэдадні ўсеагульных парламенцкіх выбараў, ён вырашыў сфакусаваць сваё кіраванне на тэмах рэлігіі.

Беручы пад увагу феномен поспеху рэлігійных папулістаў на фоне крызісу дэмакратаў з Індыйскага Нацыянальнага Кангрэса, палітолагі пішуць, што дэмакратычны этап у індыйскай гісторыі фактычна скончыўся. Вядучай ідэалогіяй у краіне будзе нацыяналізм. У будучыні нацыянальныя каштоўнасці для кіраўнікоў Індыі будуць дамінаваць над універсальнымі каштоўнасцямі, у тым ліку і ў галіне правоў чалавека. Прагноз не вельмі аптымістычны — з улікам таго, што, на думку спецыялістаў, краіна да 2050 года зможа абыйсці Кітай па тэмпах эканамічнага развіцця і стаць вядучай глабальнай дзяржавай.

Яшчэ больш выклікаюць асцярогу наступствы ксенафобскіх кампаній ва Утар-Прадэш. Калі рэлігійная напружанасць унутры Індыі ўзмоцніцца, гэта паўплывае на адносіны з мусульманскімі суседзямі Індыі — і перш за ўсё з заклятым геапалітычным ворагам Пакістанам, які, як і Індыя, з'яўляецца ядзернай дзяржавай.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Уцэлым пасланне паказала прыхільнасць беларускага кіраўніцтва Саюзнай дзяржаве і еўразійскай інтэграцыі, пацвердзіла цвярозую ацэнку праблемаў, якія стаяць перад краінай, і гатоўнасць іх вырашаць. Галоўнае, каб гэта ўсё не загразла ў бюракратычным фармалізме, састарэлых сацыяльна-эканамічных уяўленнях дзяржапарату пра тое, як трэба ажыццяўляць дзяржаўнае кіраванне, а таксама ў спробах зноў асядлаць славутую палітыку шматвектарнасці, якая ўжо не раз выходзіла афіцыйнаму Мінску бокам.

**«REGNUM» (Расія)**

Яшчэ ў 2015 годзе, па сцвярджэнні расійскага палітолага Валерыя Салаўя, у ваенных колах РБ прайшло апытанне наконт стаўлення да Расіі. Паводле яго дадзеных, 70–80% вайскоўцаў у выпадку верагоднага канфлікту прымуць расійскі бок. Вядомыя таксама і выпадкі, калі беларускія навабранцы тэатральна прысягалі СССР, а не Беларусі. Міністр абароны Беларусі Аляксей Раўкоў хоць і перакопвае навакольных, што гатовы адбіцца ад любой агрэсіі, допускае існаванне ў сваіх шэрагах ідэолагаў, якія кажуць пра агульнасць інтарэсаў з Расіяй і пра небяспеку для РБ NATO. Таму падманвацца ў самастойнасці беларускай арміі — ключавой для любой дзяржавы структуры — не варта. Сёння яна можа быць супраць любых забурэнняў, а заўтра — будзе актыўна дапамагаць акупантам.

**«Левый Берег» (Украіна)**

Узнешняй палітыцы Пуціна можна заўважыць такую тэндэнцыю: ён не пераносіць існаванне незалежных ад Крамля выспаў экс-савецкага свету. Два найбуйнейшых аскепка экс-савецкага свету (ліберальная мультыкультурная двухмоўная мадэль) — гэта Беларусь і Паўднёвы Усход Украіны. І што ж Пуцін? Ён ужо шмат гадоў спрабуе ператварыць саюзную Беларусь у суб'ект «Заходняй федэральнай акругі Расіі», але палітычна ён не можа. Калі прыбраць свавольнага Лукашэнку, то рэй у Беларусі могуць узяць празаходнія нацыяналісты. Зрэшты, не выключана, што ў Крамлі існуе наконт Беларусі план, аналагічны дзеянням па Украіне: адхапіць і далучыць хоць бы кавалак.

**«From UA» (Украіна)**

Нядаўна аднаўлены дыялог Беларусі з ЕС можа быць прыпынены. Каменем перапоны сталі апошнія жорсткія дзеянні беларускіх уладаў у дачыненні да мірных дэманстрантаў. У гэтым беларускі кіраўнік прызнаўся, выступаючы са зваротам да народу і парламенту.

**«Независимая газета» (Расія)**

Крэмль перыядычна рэагуе на выказванні Лукашэнкі ці яго тактычныя дзеянні сваёй жорсткай рыторыкай. Але пакуль з боку Лукашэнкі заявы ў абарону суверэнітэту — проста спосаб эканамічнага гандлю. Калі дрэйф Беларусі на Захад працягнецца, што малаверагодна, Масква цалкам можа пайсці на арганізацыю змены ўлады ў гэтай краіне. Адносіны недэмакратычных рэжымаў, як пацвярджае гісторыя, дапускаюць любыя спосабы. Аднак «адліга» ў Беларусі скончылася, што паказалі масавыя арышты падчас нядаўніх пратэстных акцый. Таму галоўная пагроза ўмяшання Крамля часова адтэрмінаваная.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Відавочна, што ў якасці аплаты за шчодрасць Масква запатрабуе ад Мінска чарговай змены курсу, больш актыўнага ўдзелу ў сумесных інтэграцыйных працэсах. Рыторыка беларускага кіраўніка ўжо змянілася, але поўны пералік палітычных саступак Мінска ў першы час пасля перамоваў складзі наўрад ці магчыма.

**«Биржевой лидер» (Расія — Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. За кратамі — сваяк прэзідэнта

Грузія пацвердзіла імідж краіны, якая паслядоўна змагаецца з карупцыяй. Гарадскі суд Тбілісі засудзіў на 4 гады пазбаўлення волі брата першай лэдзі Грузіі — Міхаіла Мгалаблішвілі. Мгалаблішвілі быў затрыманы ў студзені гэтага года за незаконнае набыццё, захоўванне і нашэнне агнястрэльнай зброі. Цяжка сабе ўявіць, каб у любой іншай краіне СНД такі блізкі сваяк сям'і прэзідэнта адправіўся за нары, ды яшчэ па такім артыкуле. У якасці агнястрэльнай зброі ў справе фігуруе «Браўнінг» 1922 года вытворчасці плюс адзін (!) патрон. Невыпадкова ў інтэрнэце шмат віншаванняў на адрас Грузіі і грузінаў, напрыклад: «Калі ўсё так, як вырашыў суд, я шчыра рады за Грузію. Малайцы! Усе грамадзяне роўныя перад законам, і брат першай лэдзі нясе такую ж адказнасць, як і ўсе астатнія». Праўда, трэба адзначыць, што раней Міхаіл Мгалаблішвілі быў тройчы асуджаны, у тым ліку за групавую спробу забойства, і пазней амніставаны ўказам прэзідэнта. Цалкам верагодна, што папярэднія подзвігі брата першай лэдзі не пакінулі суддзям іншага варыянту, як адправіць яго за краты.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Новыя прыгоды Хорста Малера

Нямецкая прэса зноў піша пра Хорста Малера. Ён пачынаў як адвакат удзельнікаў вядомай тэрарыстычнай левайрадыкальнай групоўкі «Фракцыі Чырвонай Арміі» (RAF), а пасля і сам далучыўся да арганізацыі тэрарыстаў і ўдзельнічаў у шматлікіх акцыях. У 1970 годзе падчас спробы рабавання банка яго злавілі і далі прыкладна 20 гадоў турмы, адкуль Малер выйшаў толькі ў 1987 годзе, аднак ужо як прыхільнік ліберальных ідэй. Лібералам Малер быў нядоўга, аддаўшы перавагу правым радыкалам. Неўзабаве ён ізноў загрымеў у турму — гэтым разам за адмаўленне Халакосту і публічнае ўслаўленне Гітлера. З улікам саліднага ўзросту асуджанага і яго хваробаў, пару гадоў таму ўлады вырашылі выпусціць Малера пад хатні арышт. Аднак надоечы авантурызм былога адваката зноў нагадаў пра сябе. 19 красавіка экс-тэрарыст збег з-пад хатняга арышту, пра што паведаміў у відэазвароце. У якасці першага кроку на шляху вяртання ў рэвалюцыйнае падполле Малер збіраецца пакінуць ФРГ і папрасіць палітычны прытулак у «адной з суверэнных краін».

**Паводле нямецкай прэсы**

### КІТАЙ. У планах акупацыя КНДР?

У паўднёвакарэйскай прэсе паведамляюць пра тое, што ўлады Кітая дарučылі прыдворным гісторыкам неадкладна распрацаваць канцэпцыю, згодна з якой жыхары Паўночнай Карэі — этнічныя кітайцы. Падобнага кшталту гістарыяграфія, быццам, патрэбная Пекіну для апраўдання магчымай інтэрвенцыі ў краіну Кім Чэн Ына. Апошні ў грош не ставіць той факт, што яго рэжым, які па сутнасці з'яўляецца марыянеткай КНР, падстаўляе сваёй агрэсіўнай рыторыкай Кітай на міжнароднай арэне. Праўда, да канца не зразумела, як самі карэйцы могуць паставіцца да ідэі таго, што яны раптам апынуцца кітайцамі. Наконт гэтага ў сеульскай прэсе няма адзінства. Некаторыя кажуць, што жыхароў КНДР дынастыя Кімаў так дастала, што яны пагодзяцца запісацца ў кітайцы. Другія лічаць, што афіцыйная прапаганда КНДР настолькі прамыла насельніцтву мазгі наконт веліччасці карэйскай нацыі, што кітайскіх інтэрвентаў чакае моцны адлуп.

**Паводле паўднёвакарэйскай прэсы**

### РАСІЯ. «Пуцінскі абярэг»



Жыхары Валгаграда прыдумалі арыгінальны спосаб барацьбы з забудоўшчыкамі, якія захопліваюць аб'екты і зносяць іх дзеля будаўніцтва дарагой камерцыйнай нерухомасці. Каб забудоўшчыкі не прэтэндавалі на аб'ект, трэба ўсяго толькі папрасіць мясцовыя ўлады надаць яму імя Пуціна. Першымі ноў-хаў апрабавалі ўладальнікі кіёскаў на рынку «Варашылаўскі», на які паклала вока кампанія, звязаная з чыноўнікамі мэрыі. У адказ гандляры пачалі збор подпісаў за перайменаванне камунальнага прадпрыемства «Варашылаўскі рынак» у «Пуцінскі рынак». І гэта яшчэ не ўсё. Не чакаючы рэакцыі мэрыі, гандляры Варашылаўскага рынка збіраюцца выставіць на прылаўкі партрэты Пуціна. Самае цікавае, што ўлады ў выніку патрапілі ў пастку. Заблакаваць ідэю назваць рынак у гонар лідара дзяржавы — вельмі нелаяльны акт. Калі дапусціць, што ідэяператварэння «Варашылаўскага рынку» ў «Пуцінскі» будзе рэалізаваная, то варта чакаць хвалі выкарыстання імя Пуціна ў далейшай барацьбе з чыноўнікамі.

**Паводле расійскай прэсы**

# Жыве народ Францыі! Жыве Рэспубліка!

Яўген КОЛБ




Фота www.socialist.net

**«Французскі народ сказаў сваё слова, калі вырашыў выбраць мяне лідарам першага туру гэтых выбараў», — сказаў Эмануэль Макрон адразу пасля абвяшчэння папярэдніх вынікаў першага туру. У другім туры французам трэба будзе выбраць паміж Эмануэлем Макронам (23,9%) і Марын Ле Пэн (21,4%).**

Прэзідэнцкія выбары ў Францыі яшчэ да пачатку галасавання сталі самымі незвычайнымі і непрадказальнымі ў гісторыі Пятай рэспублікі.

Па-першае, адразу чатыры кандыдаты мелі рэальныя шанцы на выхад у другі тур. Разрывы іх рэйтынгаў былі настолькі невялікімі, што эксперты не рызыкавалі прагназаваць вынікі першага тура. Непрадказальнасць узмацнялася тым, што напярэдадні галасавання больш за чвэрць выбаршчыкаў так і не вызначыліся са сваімі прыхільнасцямі і маглі змяніць іх у апошні момант. Акрамя таго, было невядома, як адаб'ецца на паводзінах электарату тэракт 20 красавіка ў Парыжы.

Па-другое, кандыдаты галоўных партый Бенуа Амон (ФСП) і Франсуа Фіён (Рэспубліканцы) маглі апынуцца па-за бортам прэзідэнцкай гонкі.

Па-трэцяе, тры фаварыты выбарчай кампаніі — ультраправы кандыдат Марын Ле Пэн, левы папуліст Жан-Люк Меланшон і цэнтрыст Эмануэль Макрон — з'яўляліся прадстаўнікамі ідэйна-палітычных сіл, якія ў апошнія тры з паловай дзесяцігоддзі маглі толькі марыць пра заваяванне пасады прэзідэнта.

Галоўнай прычынай такой незвычайнай сітуацыі з'яўляецца незадаволенасць французаў галоўнымі партыямі краіны. Яна стала расці яшчэ з сярэдзіны 1980-х гадоў і была выклікана моцным падабенствам унутранай палітыкі левых і правых урадаў, іх няздольнасцю вырашыць галоўныя праблемы краіны, перыядычнымі фінансавымі скандаламі з удзелам вядучых палітыкаў краіны. У выніку сярод насельніцтва распаўсюдзілася думка, што са зменай урадаў нічога не мяняецца, а палітычная эліта не ўлічвае турботы насельніцтва.

Наступствам такіх настрояў стала падзенне даверу да палітычных партый і палітыкі наогул, пастаянны рост абсентэізму і ўзмацненне папулярнасці так званых пратэстных партый і рухаў. Перадвыбарчая сітуацыя 2017 года як ніколі яскрава сведчыла пра імкненне насельніцтва да абнаўлення палітычнага жыцця краіны.

Па выніках першага тура, галоўныя кандыдаты размеркаваліся ў той жа паслядоўнасці, што і ў апошніх перадвыбарчых апытаннях. Для ФСП пятае месца Бенуа Амона стала самым моцным з 1969 года правалам сацыялістаў на прэзідэнцкіх выбарах. На вынікі кандыдата ФСП, безумоўна, паўплывала моцная незадаволенасць насельніцтва палітыкай Франсуа Аланда, хаця Бенуа Амон і быў адным з галоўных апанентаў курсу прэзідэнта.

Яшчэ адной прычынай яго няўдалага выступлення стала адсутнасць у электараце ФСП і самой партыі кансенсусу па пытанні аб палітыцы, якую павінны праводзіць левы ўрад у сучасных умовах. Прапанаваная Амонам больш левая, чым курс Аланда, праграма прывяла да таго, што памяркоўная частка прыхільнікаў ФСП і шэраг партыйных палітыкаў першага плану яшчэ да выбараў абвясцілі аб падтрымцы Макрона, чые прапановы яны ўспрынялі як больш рэалістычныя.

У той жа час, нягледзячы на паварот улева, Бенуа Амон прайграў барацьбу за галасы левага электарату Жану-Люку Меланшону, які меў больш рашучую левую праграму і быў больш харызматычным, чым кандыдат ФСП. Поспех Меланшона сведчыць аб тым, што ў левым электараце ўзмацніўся попыт на радыкальную леву палітыку, якая, здавалася, страціла прывабнасць разам з палітычным абвалам Французскай камуністычнай партыі ў 1980-я гады.

Для Франсуа Фіёна, які да пачатку скандалу вакол яго асобы разглядаўся французамі як наступны прэзідэнт краіны, трэцяе месца стала «страчанай перамогай». Не спраўдзіўся яго разлік на тое, што ўзрушаная скандалам частка правага электарату ўсё ж такі падтрымае свайго кандыдата дзеля перамогі правага лагеру.

Выхад Марын Ле Пэн у другі тур нельга лічыць сенсацыяй, таму што з 2013 года апытанні нязменна прадказвалі такі вынік. У аснове поспеху кандыдата «Нацыянальнага фронту» знаходзяцца два галоўныя фактары. Першым з'яўляецца спрыяльная для правых папулістаў кан'юнктура ў краіне, другім — стратэгія па наданні НФ больш рэспектабельнага іміджу, якую Марын Ле Пэн праводзіла пасля прыходу да кіраўніцтва партыяй. Поспех Марын Ле Пэн стаў адлюстраваннем агульнай для заходніх краін тэндэнцыі ўзмацнення правага папулізму і яшчэ адной праявай росту ўплыву НФ у Францыі. Калі на выбарах 2012-га Марын Ле Пэн атрымала 17,9% галасоў, аднак не здолела выйсці ў другі тур, то зараз яна паўтарыла дасягненне 2002-га свайго бацькі, але з больш значным электаральным паказчыкам (21,4% галасоў супраць 16,9% у Жана-Мары Ле Пэна).

Перамога Эмануэля Макрона стала бліскучым поспехам для чалавека, які выйшаў на палітычную арэну краіны толькі летам 2016-га. Ён найбольш удала скарыстаўся імкненнем французаў да абнаўлення палітычнага жыцця. Цэнтрысцкае пазіцыянаванне і перадвыбарчая праграма без радыкальных рэформ дазволілі яму атрымаць падтрымку памяркоўнай часткі і левага і правага электрату. На карысць Макрона спрацавалі таксама навізна яго постаці і абяцанне сфармаваць урад з новых людзей.

Вынік прэзідэнцкіх выбараў падаецца прадвырашаным, таму што ўсе апытанні на працягу апошніх трох гадоў нязменна прадказвалі паразу Марын Ле Пэн у другім туры незалежна ад асобы яе суперніка. Тым не менш, пэўны шанец у яе застаецца, калі вялікая колькасць выбаршчыкаў не прыйдзе на выбары.

Тым не менш, парламенцкія выбары, якія адбудуцца ў чэрвені гэтага года, могуць абвастрыць палітычныя праблемы краіны. З 2002-га на іх нязменна перамагала партыя, чый кандыдат станавіўся прэзідэнтам краіны. Але створанай Макронам восенню 2016-га партыі «Наперад» («En Marche») будзе вельмі цяжка змагацца з больш дасведчанымі ФСП і Рэспубліканцамі. Няма ўпэўненасці і ў тым, што Макрон здолее стварыць прапрэзідэнцкую большасць у парламенце з палітыкаў іншых партый.

Таму паўстае пытанне, як новы прэзідэнт будзе кіраваць краінай? І тут узнікае верагоднасць таго, што выбары 2017-га могуць прывесці да інстытуцыянальнага крызісу ў Францыі.




Фота www.politis.com.cy

# «Макрон — гэта не Навальны»

Алег НОВІКАЎ

**Свет уздыхнуў з палёгкай. Фармат другога туру прэзідэнцкіх выбараў у Францыі — Эмануэль Макрон супраць Марын Ле Пэн — амаль не пакідае шанцаў для апошняй. Пра тое, ці захавалася хоць нейкая інтрыга ў прэзідэнцкай гонцы, распавядае французскі журналіст Аляксандр Чукаеў.**

***— Усе кажуць, што выбары былі памінальнай песняй па Пятай Рэспубліцы…***

— Безумоўна, Пятая Рэспубліка сябе вычарпала. Фактычна, пасля Франсуа Мітэрана трэндам стаў прыход да ўлады людзей, за якімі стаіць не ідэалогія, а асабісты матэрыяльны інтарэс. Асабліва яскрава гэта праявілася падчас прэзідэнцтва Франсуа Аланда, які ішоў на выбары як паслядоўны сацыяліст, аднак, акрамя легалізацыі аднаполых шлюбаў, нічым сябе не праявіў. Немагчымасць рэалізаваць выбарчыя праграмы і карупцыйныя скандалы стварылі новыя выбарчыя тэхналогіі, калі людзям прапануюць галасаваць за меншае зло. І, на жаль, тое, што мы бачым, — гэта, па сутнасці, паўтор сцэнару выбараў 2002-га, якія таксама праходзілі пад лозунгам не пусціць фашыстаў у выглядзе Жан-Мары Ле Пэна да ўлады. Перамога Жака Шырака над кандыдатам «Нацыянальнага фронту» з 82 працэнтамі падтрымкі не паўплывала на паводзіны ўлады. І ў мяне шмат сумневаў, што на выбарах 2017-га адбыўся сапраўдны разрыў з мінулым. Наадварот, мы бачым яшчэ большае пагаршэнне.

***— У чым гэта праяўляецца?***

— Перш за ўсё, у другі тур прайшлі відавочныя маргіналы. Ну, пра Марын Ле Пэн і так казаць няма чаго, аднак нават яна дасць фору Макрону. За Макронам няма нават партыі з гісторыяй і традыцыяй. Ёсць незразумелы праект «En Marche» («Наперад»), які ўзнік толькі летась. У гэтай арганізацыі няма празрыстага прынцыпу рашэнняў, праграмы, іншых спікераў, акрамя, натуральна, Макрона.

Сам лідар «En Marche» не прайшоў школу партыйнага актывіста і таму не мае досведу публічнага трыбуна. Яму бракуе практыкі камунікацыі з прэсай. Падчас інтэрв'ю ён агрызаецца на нейкія вострыя пытанні, што не прынята ў Францыі. Ён часам дэманструе вельмі нізкі ўзровень кампетэнцыі, калі, напрыклад, называе французскую Гвіяну выспай. Адным словам, Макрон — гэта не Навальны. Пакуль прэса шмат яму прабачае — праз страх перад перамогай Ле Пэн, — аднак хутка пачнуцца непрыемныя пытанні. Напрыклад, як здарылася, што тыя ж сацыялісты і нацыяналісты скардзяцца на недахоп сродкаў на выбары, а для выбарчага штабу «En Marche» грошы не з'яўляюцца праблемай?

***— У чэрвені ў краіне адбудуцца парламенцкія выбары, якія могуць стаць фатальнымі для прэзідэнцтва Макрона, — калі яго, натуральна, абяруць прэзідэнтам. Паводле французскіх законаў, кандыдатуру на пасаду прэм'ера ўносіць не прэзідэнт, а парламенцкая большасць…***

— Няма сумневаў, што рух Макрона будзе намагацца прайсці ў парламент на хвалі пераможнай эйфарыі. Аднак атрыманне дэпутацкай большасці — ілюзорны праект. Яскравых фігур на месцах у Макрона няма. Беручы пад увагу крызіс сацыялістаў, можна прагназаваць поспех рэспубліканцаў. Мне падаецца, што на пасаду прэм'ера будзе прапанаваны былы прэм'ер Ален Жупэ.

***— Ці мае шанец Партыя сацыялістаў адрадзіцца пасля такога канфузу на цяперашніх выбарах?***

— Пакуль мала хто бачыць для іх нейкую будучыню. Сярод іншага, сацыялісты згубілі аўтарытэт вядучай левай партыі. Інтэграцыйныя праекты на левым флангу, калі і пачнуцца, то будуць звязаныя з фігурай Меланшона, які зрабіў маленькую сенсацыю: упершыню ў левага выбаршчыка радыкалы больш папулярныя, чым левы цэнтр.

***— У медыя дамінуе думка, што Марын Ле Пэн не мае шанцаў у другім туры. Супраць яе паўстаў шырокі фронт з удзелам як правых, так і левых. Галасаваць за лiберала Макрона заклікалі нават прафсаюзы, якія ўвесь апошні год змагаліся супраць праекту распрацаванага ім працоўнага закона.***

— Сапраўды, сёння ўсе заклікаюць галасаваць за Макрона, што нагадвае стары савецкі анекдот пра прас, з якога гучыць выступ Брэжнева. Аднак нейкія шанцы Ле Пэн захавала. Галасаваць супраць яе заклікаюць лідары розных палітычных і грамадскіх структур, аднак ёсць пытанне: наколькі іх погляды пасуюць настроям актыву? Ніхто не можа гарантаваць, што не праявіць сябе пратэстны рэфлекс супраць брутальнага навязвання думкі звонку. Не кажучы пра тое, што ў сваім запале атрымаць галасы працоўных, Ле Пэн нават пераплюнула шматлікіх левых — абяцае кантроль над банкамі і дырэктаратам. Таксама варта звярнуць увагу на электаральную геаграфію. Ле Пэн атрымала беспрэцэдэнтна шмат у тых акругах, дзе традыцыйна галасавалі за галістаў. І, зноў жа, паўстае інтрыга наконт таго, як будзе галасаваць кансерватыўны выбаршчык праз два тыдні.

***— Які прагноз на бліжэйшы час?***

— Пасля перамогі рэспубліканцаў на парламенцкіх выбарах мы станем сведкамі так званага «cohabitation» — гэта практыка, калі прэм'ер і прэзідэнт належаць да розных партый. У прынцыпе, французы бачылі такое яшчэ з часоў Франсуа Мітэрана, аднак на гэты раз можа атрымацца нешта іншае. Па-першае, «класікі» (галісты і сацыялісты) маюць зуб на Макрона і могуць прынцыпова блакаваць яго праекты. З іншага боку, блок з карумпаванымі галістамі падрывае вобраз Макрона як рэфарматара, чалавека пераменаў, што прымушае яго ісці на канфлікт. Калі не будзе знойдзены нейкі арыгінальны варыянт вырашэння крызісу, дык на наступных выбарах да ўлады амаль аўтаматычна прыйдзе Ле Пэн.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Педра Кучынскі



Ліберальны прэзідэнт Перу даў зразумець, што можа пачаць працэс вызвалення 78-гадовага Альберта Фухіморы, экс-прэзідэнта, які знаходзіцца ў турме з 2005 года.

Фухіморы асудзілі за мноства злачынстваў — пачынаючы ад штучнай стэрылізацыі жанчын-індзейцаў і заканчваючы подкупам апазіцыі і стварэннем «эскадронаў смерці», якія забілі як мінімум 25 чалавек. У гэтым плане вердыкт суда — 25 гадоў турмы — падаецца нават не самым жорсткім. Аднак справа з Фухіморы такая не простая.

Пры ўладзе Фухіморы за кошт брутальных захадаў лакалізаваў рух партызан-леварадыкалаў, дамогся палітычнай стабілізацыі і моцнага эканамічнага ўздыму. Гэта стварыла вакол былога гаранта міф, якім актыўна карыстаюцца яго прыхільнікі. Партыя аматараў Фухіморы, якой кіруе яго дачка Кейка Фухіморы, цяпер мае большасць у Кангрэсе. Не выключана, што менавіта патрэба ў галасах дэпутатаў прымусіла Кучынскага «перагарнуць старонку гісторыі» — так называюць у прэсе ідэю пра амністыю экс-прэзідэнта.

Аднак ідэя Кучынскага не спадабаліся частцы яго атачэння. На іх думку, рэабілітацыя палітыка, які фактычна пабудаваў дыктатуру, легітымізуе аўтарытарныя метады ў перуанскай палітыцы. Мауляў, прыйшоўшы да ўлады, фанаты Фухіморы зноў пачнуць іх актыўна ўжываць.



### Генадзь Зюганаў

Лідар расійскай кампартыі дамогся самага гучнага поспеху камуністаў за доўгі час. Усё пачалося з таго, што Уладзімір Жырыноўскі прапанаваў прыняць закон пра вынас цела Леніна з Маўзалею. Спачатку законапраект ледзь не прайшоў — яго падтрымала група дэпутатаў «Адзінай Расіі». Але хутка «адзінаросы» перагледзелі свой падыход на гэты конт. Усё гэта дазволіла камуністам казаць пра гістарычную перамогу.

Святкуючы яе, камуністы нават правялі мітынг каля Маўзалею, што вельмі паказальна: дазвол на мітынгі на Чырвонай плошчы дае не сталічны муніцыпалітэт, а Адміністрацыя прэзідэнта. Усё гэта паказвае на тое, што ідэю з пахаваннем Леніна прыдумалі ў адміністрацыі Пуціна. Пытанне — нашто? Тут дамінуе дзве версіі — праз такія піяр-акцыі Крэмль намагаецца штучна вярнуць КПРФ аўтарытэт у грамадстве і мабілізаваць прыхільнікаў сацыялізму на выбары ў наступным годзе. Сапраўды, давер да зюганаўцаў з 1990-х гадоў падае ўсё ніжэй і ніжэй: цяпер за КПРФ галасуюць або па інерцыі, або па прынцыпе «за каго заўгодна, абы супраць улады». Калі нічога не зрабіць, то левы электарат можа даць слабую яўку на выбарах 2018-га, калі Пуцін дзяжурна будзе пераабраны на пасаду прэзідэнта. Прычым камуністы — не адны такія. Няма яркіх прагматычных лідараў у правых патрыётаў, нацыяналістаў і іншых, аўтарытэт якіх будуць таксама штучна ўздымаць.

Папулярная таксама версія, паводле якой Крэмль гальванізуе інтарэс абывацеля да палітыкі за кошт незвычайных інфармацыйных правакацый. Такім чынам, не выключана, што ў бліжэйшы час партыямі, якія ўваходзяць у Думу, будуць агучвацца самыя незвычайныя прапановы.

### Аліса Вайдэль



У нямецкай правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) — новы жаночы твар. На партыйным з'ездзе Вайдэль была абраная ў якасці жаночага кандыдата на пасаду канцлера ФРГ. Роля кандыдата-мужчыны дасталася Аляксандру Гаўланду.

Прыход 38-гадовай Вайдэль на такую высокую пазіцыю — у нечым сенсацыя. Яе сямейнае становішча цалкам супярэчыць канонам традыцыйнай сям'і, за якія змагаецца AfD. Кандыдатка ў канцлеры жыве разам з іншай жанчынай, якая, у дадатак, дапамагае ёй выхоўваць сына. Магчыма, за кошт Вайдэль кіраўніцтва правапапулістаў намагаецца стварыць сабе больш ліберальны імідж.

Мяркуючы па яе выступах, у AfD Вайдэль прывяла не еўрафобія, а негатыўная ацэнка спробаў Берліну дапамагчы Грэцыі.

Прыход Вайдэль, напэўна, мае на мэце затармазіць падзенне рэйтынгу AfD, якая са снежня згубіла прыкладна шэсць працэнтаў. У любым выпадку, пакуль AfD з 9 працэнтамі падтрымкі захоўвае шанец пераадолець пяціпрацэнтны бар'ер, неабходны для праходжання ў парламент на выбарах у верасні.


У гэтым «дамку» шмат гадоў месціцца зубапратэзнае аддзяленне раённай паліклінікі. Аўтарская хроніка, снежань 2016 года


Сённяшні будынак Нясвіжскага міжраённага аддзялення КДБ на Ленінскай, 73 Б. Аўтарская хроніка, люты 2017 года


Два з трох — цэнтральны і правы будынкі архітэктурнага «трыпціху». Аўтарская хроніка, лістапад 2016 года

# Брутальнае падсяленне ў гістарычнай зоне Нясвіжа

Валер ДРАНЧУК

**Заканчэнне. Пачатак у №15**

**Чыя ж сёння воля вяршыць лёс унікальнай аздобы горада? Ці ж не парадокс: сто гадоў шанавалі і бераглі, не накідалі пятлю, каб засіліць, — а тут, глядзіш, сярод белага дня, гэта значыць — маючы розныя высокія рады, міністэрскія і акадэмічныя, інспекцыі і экспертызы, — раптам пляжым і заварочваем, псуем, руйнуем, зыначваем у нішто. Нават — не паверыце — пад персанальным навуковым кіраўніцтвам!**

## Пад персанальным навуковым кіраўніцтвам!

З архітэктарам Вадзімам Дражынам (менавіта ён прызначаны Міністэрствам культуры за навуковага кіраўніка «рэканструкцыі» ў гістарычных Дамках) мне карцела перамовіцца перш за ўсё. Як-ніяк, сам нясвіжскі, выхоўваўся на тутэйшых асяродках. Я спытаўся ў Вадзіма Уладзіміравіча, ці адчуваў ён свой абавязак адвесці пагрозу дзеля захавання малюнкавай цэласці асяродка, яго непарушнасці. Пытанне было нечаканым, мо, занадта нечаканым. Я перапытаў больш прамалінейна: чым ён кіраваўся, калі даваў сваю згоду на брутальнае падсяленне — руйнаванне ж краявіду было відавочнае?

«Пільнай, нават жорсткай неабходнасцю», — адказаў навуковы кіраўнік. Што стаяла за гэтымі словамі, я зразумею праз колькі дзён, калі завітаю на прыём да старшыні райвыканкама... Аднак, паказальна, што сваю пазіцыю спадар Дражын патлумачыў таксама няяснасцю перспектывы ахоўных будынкаў, вельмі скептычна выказаўся пра іхні стан як досыць запушчаны, неўладкаваны. З чым нельга не пагадзіцца: узор закапанскай архітэктуры ў Нясвіжы патрабуе іншага догляду і больш ясных вызначэнняў на заўтрашні дзень. Разам з тым, падсяленне–2017 — ці не той «асінавы кол» у будучыню каштоўнасці, якую ніхто не адмяняў. Ці не ёсць гэта адпраўным пунктам якой-кольвек змовы — таемнай стратэгіі ўлады? Стратэгіі запаўнення і ўшчыльнення гарадской прасторы? Не толькі. Яшчэ — каб зняць адказнасць за Дамкі. Ці мала чаго ўжо нагледзеліся... Адным словам, і мясцовая ўлада, і службы-структуры, якія яе абслугоўваюць разам з «навуковым кіраўніцтвам», ці не ўскосна ставяць пытанне: якая будучыня чакае «закапанскі стыль» у культурна-гістарычным Нясвіжы? Пытанне, на якое яны ж і павінныя сёння адказаць.

## Гандаль гістарычнай каштоўнасцю: прэцэдэнт, які ствараецца?

Пра ўсё гэта — і што сіметрыю не варта было рушыць, і што канторы тут не месца, і пра іншае — я даводзіў шмат каму. Але адна справа — гаварыць у Міністэрстве культуры, у Акадэміі навук, у аблвыканкаме, дзе вас стрымана паслухаюць, і зусім іншая — у раёне, на месцы. Менавіта тут, жывучы ў непасрэднай блізкасці гістарычных сцен, каранёў, паветра, — і можна адчуць рэальнасць страты.

Таму, калі сустрэўся са старшынёй раённай вертыкалі Іванам Крупко, пачаў з такой вось сентэнцыі: «Хачу ведаць, адкуль узялося гэтае зло, хто яго спрадзіў і хто абслугоўвае — як такое магло здарыцца: ваш горад, вашае ўсё — і раптам: будынак КДБ у гістарычнай зоне, калі ласка, з відам на возера! Ці ж да твару гэта Нясвіжу...»

Не адразу, але слова за слова Іван Іванавіч «раскрыў карты». Дзесяці, слухаючы, я пагаджаўся і падтакваў. Ну, разумею, што для насельніцтва раёна патрэбны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання, а яго, паўнавартаснага, няма. Пабудаваць — сума з бюджэту, дый немалая. Вось, маўляў, і намалявалася схема для выйсця. Структура дзяржбяспекі аддае свой будынак для «сацыяльна абароненых», а сама будуе новы офіс над возерам. У... закапанскім стылі.

Намагаюся ўявіць працэдуру гэтае здзелкі-абмену. На натуру пэўна ж прыязджалі самі начальнікі. Магчыма, нават самыя высокія. Глядзелі, узважвалі. А ці думалі пра наступствы? Няўжо адно пра тое, які від адкрыецца з вакна кабінета?

## Рашэнне рады, дазвол міністэрства...

Даводжу і за гэта адказваю: галоўная правіннасць ляжыць на Міністэрстве культуры. Менавіта тут падтрымалі фантазмы нясвіжскіх чыноўнікаў, якія пайшлі на размен культурнай спадчыны, — далі зялёны калідор. Спачатку спрычынілася навукова-метадычная Рада міністэрства, потым само ж ведамства падпісала згоду-дазвол на будаўніцтва.

Доктар архітэктуры, педагог і даўні сябар міністэрскай рады Армэн Сардараў лёгка прыпамінае тое абмеркаванне: так, «былі ў Нясвіжы, глядзелі на месцы...»

Пытаюся пра сумненні, спрэчкі прынцыповага кшталту — адносна магчымасці самога падсялення. Ці скажа архітэктар пра захаванасць краявіду, пра небяспекі наступстваў, якія, пэўна ж, мусілі неяк адчуць эксперты, стоячы на месцы ахоўнай зоны?

«Месца я добра помню — прыгожае, над возерам», — сказаў Сардараў. Праз паўзу дадаў, што забудоўнікам былі дадзены рэкамендацыі, найперш, каб новы (адміністрацыйны! — В.Д.) будынак адпавядаў стылю гістарычных сядзібаў і не асабліва ўзвышаўся, не засціў краявід, не псаваў агульны малюнак, упісваўся сваім сілуэтам у статусны асяродак.

Вось жа не веру. Ні ў добрыя пажаданні, ні ў добрыя рэкамендацыі. Яны для паперы, для пратакола. Нежывыя і няпраўдападобныя. Перспектыва, рэальна бязрадасная, вырастала, паўставала перад чальцамі рады наўзвоч — а яе не ўбачылі. Ды як нельга было не ўбачыць! Ці эксперты былі з завязанымі вачыма?.. Я ледзь не збіўся на крык.

Армэн Сяргеевіч мяне даслухаў. Прагледзеў здымкі маёй фатахронікі, вярнуў флэшку і ахвотна паабяцаў: «Трэба зірнуць у пратакол Рады: што канкрэтна прадпісана, якія зададзены параметры — па вышыні, па адлегласці. Я вазьму гэты пратакол, ён жа нікуды не дзеўся, спадзяюся. Трэба глянуць, злічыць з тым, што сёння маем. І тады можна будзе сказаць, ёсць парушэнні альбо няма...»

Праз колькі дзён я патэлефанаваў. Сардараў зачытаў рэкамендацыі-фармулёўкі, якімі павінны былі кіравацца забудоўнікі. «Бачыце, бракуе канкрэтыкі, прывязак да мясцовасці. Запіс такі, што няма за што і прычапіцца, нават у выпадку парушэнняў», — падвёў архітэктар.

Пісьменнік і краязнаўца, ураджэнец нясвіжскага краю, былы міністр Анатоль Бутэвіч — таксама, як і Армэн Сардараў, сябра Рады Мінкультуры. А да ўсяго, і ганаровы жыхар Нясвіжа, хоць жыве ў Мінску. І ён выязджаў на месца, каб прыняць або не прыняць ініцыятыву мясцовай улады.

Пытанне — ці варта было даваць дазвол на падсяленне ў архітэктурным комплексе? — не ставіць суразмоўцу ў тупік. «А чаму не?» Маўляў, калі не чапаць старыя будынкі, па-людску абысціся з ландшафтам, не высякаць дрэваў — дык і няхай, калі ласка! — упэўнена-бадзёра зрэагаваў спадар Бутэвіч.

«І не шкада было мясціны? Праз год-два яе будзе не пазнаць... Урэшце пра тое, што гэта авантурныя нездаровыя планы, што справа будзе скандальная, — і пра гэта радоўцы не думалі?»

Здалося, мы — яшчэ жывыя людзі — раптам як перастаём жыць у гэтым часе, у сваім грамадстве і гаспадарстве, быццам атрымалі від на жыхарства ў нейкім іншым, бесклапотна бяспечным свеце, дзе і за правіны ніхто не спытае, і адказу не папросіць.

## Ці ўся праўда, што за Слуцкай брамай «акапаліся» спецслужбы?

Чаму пра гэта пішу? Бо гэта абраза. Як анучай па твары. Магчыма, і нечым больш цвёрдым. Не адчуваць гэта хоць бы для прафілактыкі, а моўчкі зносіць — значыць, даваць хамаўладнаму асяроддзю прыйсці заўтра ці паслязаўтра ў наш агарод, у наш кветнік і распачаць тут чарговы гнюсны здзек. Нават калі гэта не самае вялікае зло, якое чыніцца ў дачыненні да культурных асяродкаў наогул і Нясвіжа ў прыватнасці — трэба крычаць: «Людзі, гвалт!»

Не ведаю, ці будзе пастаўлена станоўчая кропка на задуманым варыянце. Чым далей асэнсоўваю сітуацыю, тым больш падаецца яна авантурнай яшчэ і гэтым, другім сваім бокам — каму тут урэшце быць-гаспадарыць? Ну ніяк не паварочваецца мой розум, каб у Дамках за Слуцкай брамай акапаліся спецорганы. Бо гэта, як для мяне, калі не спецаперацыя, дык «сон розуму» дакладна.

Каб запэўніцца, звярнуўся ў Нясвіжскае міжраённае аддзяленне КДБ і папрасіў пракаментаваць дачыненне да названай будоўлі. На жаль, адказу не атрымаў. Начальнік Павал Сопат у тэлефоннай размове нервова пахіліў убок і ўрэшце параіў мне звярнуцца да яго «начальства» ў Мінску. Запыт я накіраваў у той жа дзень, 1 сакавіка, на адрас Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці. І пачаў чакаць адказ. Хоць і не цешыў сябе надзеяй, але і не думаў, што атрымаю адпіску. Матывацыя «вяду расследаванне» ў дачыненні падначаленай структуры альбо ўласна «сябе любімых» хоць трошачкі ўзбуджае і ўразумляе.

І апошняе. Маю «ахоўную грамату» — рукатворны мастацкі зварот у раённую пракуратуру — з першай спробы не ацанілі. Адказ я мусіў абскардзіць у вышэйшую інстанцыю. На даручэнне Мінскай абласной пракуратуры была праведзена паўторная праверка законнасці будаўніцтва, якая засведчыла парушэнне тэрмінаў і ўчыненне самавольных будаўніча-мантажных работ.

Прыйшоў адказ і з Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці. Ён паказальны, нават сімвалічны. На маю просьбу пракаментаваць дачыненне да навабуду ў Нясвіжы мне адказалі, што пытанне «не адносіцца да кампетэнцыі органаў дзяржаўнай бяспекі».

Дачакаемся наваселля?

**Фота аўтара**

# Тут сядзелі Орда і Тарашкевіч

Алесь КІРКЕВІЧ

**Гродзенская турма — адна з самых старэйшых у Беларусі, якая на працягу амаль 200 гадоў не змяняла свайго прызначэння. За гэты час праз яе прайшлі тысячы шараговых вязняў, а таксама «вялікія людзі і з падручнікаў змагары» — як пісаў паэт Алесь Чобат.**



Гродзенская турма памерам з цэлы гарадскі квартал, фота пач. XX ст.

Калі стаяць на Савецкай плошчы ў цэнтры старога Гродна, побач з Фарным касцёлам і найстарэйшай у краіне аптэкай абавязкова заўважыш белы турэмны мур. Часам можна выразна пачуць сабачы брэх з-за гэтых сценаў, часам — убачыць кантралёраў, якія сочаць за вязнямі ў прагулачных дворыках. Адтуль вязні выдатна чуюць звон гадзінніка на касцельнай вежы… Усё побач.

Турма даўно, здаецца, мелася б стаць гістарычнай спадчынай, але працуе надалей. За апошнія дзесяцігоддзі праз яе калідоры прайшлі Павел Шарамет, Зміцер Завадскі, Андрэй Пачобут, Зміцер Дашкевіч.

Пра мінулае гродзенскага астрогу мы выпыталі пагутарыць з гісторыкам Андрэем Вашкевічам, які нядаўна спрычыніўся да стварэння турэмнага музею.

***— Андрэй, з чаго пачыналася гісторыя гродзенскай турмы?***

— Напрыканцы XVII стагоддзя гродзенскія езуіты выкупілі цэлы квартал і пабудавалі калегіум. Там была развітая інфраструктура: бровар, капліца, музычная школа, калодзеж, гароды. Усё змянілася ў 1820-х гадах, калі па загадзе губернатара Кошалева новая ўлада вырашыла зрабіць тут турэмны замак. Велізарны будынак калегіума ўжо падчас Паўстання 1863 года быў прыстасаваны пад следчую камісію, а пасля і пад турму.

Спачатку турма выконвала выключна перасыльныя функцыі: з яе вязняў адпраўлялі этапам у Сібір. Пазней пабудавалі новы корпус паводле амерыканскага тыпу: з адкрытымі галерэямі, па найноўшых для таго часу стандартах. Унутры шмат каваных і літых мастацкіх элементаў — гэта працы гродзенскіх кавалёў. Старую браму перабудавалі ў царкву св. Мікалая, якая не захавалася да нашага часу. Зразумела, што службы ішлі толькі для вязняў.

***— Як функцыянавала турма ў той перыяд?***

— Калі турма была перасыльнай, жыхары горада часцяком назіралі працэсію вязняў, якіх завозілі альбо вывозілі з гораду. Людзі ішлі закаваныя ручнымі альбо нажнымі кайданамі. Для гэтых мэтаў у турме працавала адмысловая кузня: каваль раскоўваў вязняў на ноч ці дзённы перыяд адпачынку, каб пасля зноў закаваць і адправіць далей.



Кат з бізуном, Расійская імперыя. XIX ст.

Перад этапам у XIX стагоддзі вязняў маглі кляймiць. Гэта было нешта сярэдняе паміж таўром, якое ставяць на жывёлу, і татуяваннем. Займаўся гэтым, зазвычай, турэмны доктар, набіваючы вязню на твары або на іншых частках цела кароткія словы: «ВОР», «КАТ» (ад «катаржанін») і інш. Злачынцам таксама выбрывалі палову галавы — гэта была выразная адзнака ў выпадку, калі вязень збягаў. Магла давацца сярмяга з нашытым «бубновым тузом» — чорным, чырвоным ці жоўтым, — які выконваў ролю мішэні.

***— Ці ўжываліся катаванні?***

— Было, напрыклад, пакаранне бізуном. Калі кат быў прафесіяналам, то вельмі проста мог пакінуць сваю ахвяру інвалідам на ўсё жыццё. Цікава, што кат таксама быў вязнем і жыў у турме. Пасада была вельмі непапулярная: хоць за гэта і плацілі, ніхто не хацеў браць на сябе такую функцыю.

***— Што наконт умоваў утрымання?***

— Былі як адзіночкі, так і агульныя камеры. Адзіночкамі сталіся былыя келлі калегіума. Побыт, зразумела, даволі аскетычны: ложак, стол, табурэт, вакно, да якога нельга дастаць. Была сегрэгацыя вязняў: асобныя камеры для яўрэяў, асобныя для дваран. Зняволеная шляхта адмаўлялася нешта мыць, прыбіраць, тапіць печы. Калі шляхціца змушалі да фізічнай працы, той падымаў скандал, мог са скаргамі дайсці і да імператара.

Асноўным прадуктам цягам XIX стагоддзя для вязняў быў хлеб. Дзённая норма — два з паловай фунты (фунт — 400 г.). Цікава, што грошы да 1838 года выдаваліся на рукі, ежа куплялася праз падрадчыкаў індывідуальна, толькі пазней прыйшла цэнтралізацыя. Калі вязень атрымліваў 12 капеек, то 9 ішло на хлеб, рэшта на «прыварак»: капусту, буракі, бульбу, селядзец і г.д.

***— Якія знакамітасці праходзілі праз гродзенскі астрог пры царах?***

— Было шмат паўстанцаў, напрыклад, Зыгмунт Урублеўскі, пазней прафесар Ягелонскага ўніверсітэта, які здабыў вадкі азот і вадкі кісларод. Тут сядзеў мастак Напалеон Орда, дзякуючы якому мы маем малюнкі і акварэлі не толькі сядзібаў і касцёлаў Беларусі, але і ягоны вязніцы. Ён сапраўдны рэкардсмен у плане «крымінальных справаў»: царскія ўлады распачыналі супраць яго крымінальныя справы сем разоў, але ў Сібір ён так і не трапіў.

У нашым астрозе сядзеў Пётр Шумаў, будучы вядомы фатограф, які выйшаў на міжнародны ўзровень, быў асабістым фатографам Радэна. Падчас перасылак у Гродне тры-чатыры разы сядзеў і прафесійны рэвалюцыянер Фелікс Дзяржынскі.

***— У міжваенны перыяд, калі тут панавала Польшча, нешта змянілася?***

— Гэта час, калі турма набыла сучасныя рысы, перастала быць перасыльнай. У гэты ж час тут знаходзілася найбольшая колькасць «палітычных»: чвэрць ці наватт трацiна адбывалі пакаранне за «антыдзяржаўную дзейнасць».

**Цікава, што кароткі час тут сядзеў нават Вольф Месінг: гэта было ў 1940 годзе, калі вядомы гіпнатызёр яўрэйскага паходжання ратаваўся ад нацыстаў у СССР**

Тут сядзелі Браніслаў Тарашкевіч, аўтар усім вядомай беларускай граматыкі, які менавіта ў Гродне перакладаў з польскай «Пана Тадэвуша». Цікава, што калі яго пераводзілі з Вільні ў Гродна, то працоўныя сшыткі з перакладам ён не вёз з сабой у валізе — іх перасылалі адмысловай турэмнай поштай. У 1920–1921 гадах тут чакалі суда Паўліна Мядзёлка і Тамаш Грыб — заканныя адно ў аднаго дзеячы эсэраўскага руху, якія пакінулі ўспаміны пра свае турэмныя пакуты і прыгоды.

***— Але большасць палітзняволеных, відаць, былі камуністы?***

— Так, найбольш вядомы — Сяргей Прытыцкі, які не толькі ўсё перажыў, але і дайшоў да кіруючых пасадаў у пазнейшай БССР. Цікавы выпадак іншага вязня — паэта Валянціна Таўлая, які пражыў 33 гады, з якіх 10 правёў па турмах. Лежачы на нарах, ён прыдумваў і запамінаў вершы. Пры гэтым ягоная паэзія надзвычай аптымістычная, гэта кідаецца ў вочы. Таўлай быў адным з найбольшых беларускіх патрыётаў.

Літаратар Піліп Пестрак быў значна больш разважлівы: «не выпаліў» сябе палітыкай і турэмнымі адсідкамі, дажыўшы ажно да 1970-х гадоў. Пра яго ёсць цікавая гісторыя: калі ў 1939-м савецкая ўлада вызваліла «палітычных», ён надалей хадзіў спаць у турэмную камеру, па-іншаму ўжо не мог. Так працягвалася да таго часу, пакуль савецкая ўлада не запоўніла турму новымі вязнямі і Пестрака ў турму на начоўку перасталі пускаць.

Цікава, што Пестрак сур'ёзна вывучаў эсперанта, моднае ў той час, асабліва сярод «левай» публікі, якая марыла пра сціранне межаў паміж мовамі і народамі. Эсперантыстаў было не так багата, яны перапісваліся паміж сабой, каб мець змогу камунікаваць на мове. Захаваўся нават зборнік польскіх аматараў «новай мовы», дзе ў канцы сярод адрэсаў для перапіскі можна знайсці і адрас Пестрака з пазнакай «Гродзенская вязніца».

***— Ці выконваліся ў гродзенскай турме смяротныя прысуды?***

— На пачатку 1920-х існавала практыка расстрэлаў: выводзіўся ўзвод жаўнераў, якія расстрэльвалі вязня. Вельмі верагодна, што ў нашай турме гэта практыкавалася: не будзем забывацца на актыўную партызанку ў ваколіцах горада, арганізаваную беларускімі эсэрамі. У 1927-м адзін з афіцэраў адмовіўся страляць, матывуючы тым, што ён афіцэр, а не кат. Тады на афіцыйным узроўні было прынята новае рашэнне: вешаць.

На ролю вешальніка быў знойдзены пан Мацiеўскі — легендарная асоба для ўсёй Польшчы, бо ён ездзіў па краіне, па розных турмах, каб вешаць людзей. Некалькі прысудаў ён здзейсніў і ў Гродне. Ягоны лёс, дарэчы, апынуўся сумным: апошняя згадка пра яго ў 1930-х сведчыць аб тым, што вешальнік… павесіўся сам у Варшаве, у Лазенскім парку. Цікава, што павесіўся няўдала — яго выратавалі! Але што з ім было далей — ніхто не ведае.

***— Ці змяніўся «пры Польшчы» рацыён ды распарадак дня?***

— Калі глядзець распарадак дня міжваеннай турмы, то заўважым малітву, гімнастыку, прыборку ў камеры, працу, адбой а 9-й вечару. Меню наступнае: кашы, бульба, салёная мяса, соль, хлеб (400 г. штораніцы), цыбуля, капуста, фасоля і г.д.

Наогул, гродзенская турма ў міжваенны час адносілася да «цяжкіх» турмаў, хоць былі больш «цяжкія», напрыклад, «Свенты Кшыж» у Келецкім ваяводстве, дзе сядзеў Сяргей Пясецкі. Тым не менш, 3–4 гады ў польскай турме — гэта былі гарантаваныя сухоты і мноства іншых захворванняў. Найчасцей пасля некалькіх гадоў за кратамі людзі ўжо доўга не жылі.

***— У 1939-м у Гродне зноў змянілася ўлада, а што з турмой?***

— У турму трапіла бомба, загінула некалькі дазорцаў. 17 верасня, калі стала вядома, што Чырвоная Армія перайшла мяжу, крымінальныя злачынцы наўпрост выламалі дзверы, а за імі выйшлі і «палітычныя». Калі польская сілавікі трохі адышлі ад панікі, усіх паспрабавалі вярнуць назад. Вязні былі ўпэўненыя, што іх расстраляюць, але Саветы наступалі, і 22 верасня ўсіх вызвалілі ўжо чырвонаармейцы.

Савецкі перыяд функцыянавання турмы, па вядомых прычынах, пакуль мала даследаваны. Цікава, што кароткі час тут сядзеў нават Вольф Месінг: гэта было ў 1940 годзе, калі вядомы гіпнатызёр яўрэйскага паходжання ратаваўся ад нацыстаў у СССР.

***— Вядома, што калі ў 1941-м Саветы адступалі, НКУС знішчаў вязняў турмаў: найбольш вядомая чыстка была ў турме ў Львове. Ці было падобнае ў Гродне?***

— 22 чэрвеня 1941-га ў турму, як і ў 1939-м, трапіла бомба. Бог быццам адводзіў бомбы ад Фарнага Касцёла, таму разваліла галоўны фасад былога калегіума езуітаў. Пад вечар начальнік турмы зразумеў, што начальства па лініі НКУС у горадзе няма — усе сышлі, таму, узяўшы ўвесь састаў, наўпрост пакінуў турму. Пра гэта захаваўся афіцыйны дакумент — ягоная дакладная запіска за пачатак ліпеня 1941 года. Таму ў гродзенскай турме і не адбылося масавай чысткі, як у іншых вязніцах. Ці выйшлі вязні пры немцах, ці разбегліся, ці працягвалі сядзець далей — пакуль не вядома.

***— Як лічыш, ці варта ставіць кропку і аддаваць турму пад музей?***

— У 2007 годзе ўсплыў дакумент, дзе тагачасны старшыня абласнога выканаўчага камітэта Уладзімір Саўчанка прасіў прэм'ера Сідорскага вынесці турму з цэнтру горада да 2011 года. З таго часу турма, зразумела, нікуды не выехала, затое ў ёй з'явіўся свой музей. То бок не сама турма пераўтварылася ў музей, а музей з'явіўся побач — праз дарогу. Я нават не ведаю, што можна было б зрабіць з такімі велізарнымі плошчамі, калі б яны вызваліся. Гродзенская турма — гэта ж цэлы квартал. Але былі б інвестыцыі і грошы, а карыснае прымяненне для такога гістарычнага месца заўсёды знойдзецца.

# Да Тыдня Швецыі ў Беларусі

**Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь запрашае прыняць удзел у фотаконкурсе прафесійных фатографаў, фотааматараў і ўсіх тых, хто любіць, наведваў ці марыць наведаць Швецыю. Урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца ў рамках Дня Швецыі 3 чэрвеня 2017 года.**




### Тэмы конкурсу

**«Швецыя вачыма беларусаў»**

Для тых, каму пашчасціла пабываць у Швецыі. Нам цікава даведацца, як Швецыю бачаць беларусы. Прымаюцца фотаздымкі, зробленыя непасрэдна на тэрыторыі Швецыі без тэрміну даўнасці.

**«Швецыя ў Беларусі»**

Нават калі вам не давялося бываць у Швецыі, то напэўна вы можаце знайсці часцінку гэтай краіны ў Беларусі. Што гэта можа быць? Культура, мастацтва, бізнес, тавары, спорт. Для гэтай катэгорыі здымкі павінны быць зроблены на тэрыторыі Беларусі.

Фотаработы прымаюцца да 14 мая 2017 года ўключна.

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца фотаработы як прафесійных фатографаў, так і фотааматараў.

Фатограф павінен з'яўляцца аўтарам фотаматэрыялу, пададзенага на конкурс. Дасланыя на конкурс работы могуць быць выкарыстаны арганізатарамі конкурсу для публікацыі ў друкаваным ці электронным выглядзе без выплаты якіх-небудзь матэрыяльных узнагарод і без узгаднення з аўтарам. Дасылаючы фотаздымкі, аўтар пагаджаецца з умовамі дадзенага конкурсу.

Колькасць работ ад аднаго аўтара: да 3-х паасобных здымкаў і/або 1 серыя (колькасць фотаздымкаў у серыі — не больш за 5) для кожнай намінацыі.

Фармат файла: jpeg. Памер фота: 1400 пікселяў па доўгім боку, аб'ём файла — не больш за 1 Мб.

Імя файла: на лацініцы прозвішча-імя-нумар.jpeg (прыклад: petrov-vasily-001.jpeg)

Для ўдзелу ў конкурсе не дапускаюцца работы з надпісамі, вадзянымі знакамі, любымі рамкамі. Фотамантаж забаронены.

Электронны адрас для конкурсных матэрыялаў: sweden@mail.bn.by з паметкай «Фотаконкурс».

Разам з фотаздымкамі неабходна даслаць інфармацыю:

1. Аб аўтары: імя і прозвішча, дата нараджэння, горад, кантактны нумар тэлефона;

2. Аб фотаздымку/серыі: назва, апісанне, месца і ўмовы, пры якіх быў зроблены фотаздымак (зятая серыя), а таксама любая іншая інфармацыя, якую аўтар лічыць неабходнай для правільнай інтэрпрэтацыі работы.

### Узнагароджанне

**Галоўныя прызы**

- 2 білеты на самалёт Мінск–Стакгольм–Мінск ад авіякампаніі «Белавіа», пражыванне ў адным з гатэляў Стакгольма (2 ночы) ад Пасольства Швецыі.
- Круіз на дваіх Талін–Стакгольм–Рыга ад кампаніі «VR Lines».

Пераможцаў вызначыць журы пад старшынствам кіраўніка Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь Марціна Оберга.

2-е і 3-е месцы будуць таксама адзначаны памятнымі прызамі.

Лепшыя фотаработы будуць надрукаваныя і прадстаўленыя на выставе ў рамках Дня Швецыі на плошчы Свабоды 3 чэрвеня 2017 года.

**Паводле прэс-службы Пасольства Швецыі**







# «Слухачы пачнуць фундаваць у музыку»

Павел АКСІНОВІЧ

**Імя барда Андрэя Сянькевіча не так вядома ў Беларусі, у адрозненне ад Расіі, Польшчы, краін Балтыі і нават Германіі. Мы наведалі мінскі канцэрт Андрэя і паразмаўлялі з музыкам пра вядомасць і творчасць.**

***— Андрэй, гэты канцэрт вы анансавалі яшчэ ў снежні 2016-га...***

— Гэта шмат каго здзівіла, бо ў Беларусі рэдка хто плануе канцэрты раней, чым за 3 месяцы. Усё кардынальна змянілася, калі спачатку я, а потым мы (трыа), пачалі выступаць у Еўропе. Цяпер мы ведаем свой графік недзе на 8–10 месяцаў наперад. Калі мы гралі ў лістападзе, то ўжо ведалі пра канцэрт у красавіку, і нават атрымалі «гастрольку». Усяго плануем на год граць 2 сольныя канцэрты ў Мінску: у красавіку і бліжэй да лістапада-снежня.

***— З мінулага года вы граеце з бубначом і басістам, але ў афішах напісана толькі «Андрэй Сянькевіч». Не думалі выступаць пад нейкай назвай?***

— Не, ніколі не думаў. Мне дваццаць шэсць гадоў, дваццаць з якіх я займаюся музыкай. І калі я прыйшоў да свайго сольнага праекта, я быў адзін. Калі далучыліся музыкі, у мяне ўжо была рэпутацыя, і назваца неяк у стылі «Андрэй Сянькевіч і тры мядзведзікі» не было сэнсу. Я аўтар песен і музыкі, над аранжыроўкамі мы працуем разам. Я часта прыводжу прыклад Сяргея Бабкіна і Бэна Ховарда: у іх цэлы бэнд носіць імя аднаго чалавека.

***— Ці чакаць у гэтым годзе альбом альбо нейкія іншыя цікавосткі?***

— На сёння ёсць матэрыял на тры дыскі. Прычым розныя. У першы ўвойдзе матэрыял, які мы граем з гуртом — паўнавартасны лонгплэй. У другі — песні, якія я выконваю заўсёды адзін. А трэці — мінімалістычны піянінны альбом — рыхтую адмыслова для туру па Ісландыі ў студзені 2018-га. Калі я граў адзін, то ў мяне было правіла: выпускаць нешта кожны год. У 2015-м я выдаў свой першы альбом, а 2016-м — сінгл «Свет». У гэтым годзе мы ўжо выпусцілі акустычны лайв на песню «Снег і ноч», якую я запісаў у Берліне. Пакуль мэты выдаць нешта паўнавартаснае не было. Мы зрабілі праграму. За мінулы год у складзе трыа і сольна я адыграў звыш 90 канцэртаў. Я сказаў хлопцам, што мы будзем запісваць кружэлку толькі тады, калі збярэм грошы не са сваёй кішэні. Мабыць, гэта будзе краўндфандынг, верагодна, спонсары.

Для нас важна, каб музыка была актуальная. Калі мы пачнём запісваць яе за свой кошт, а людзям гэта будзе не патрэбна, то навошта гэта рабіць? Мы атрымліваем асалоду ад таго, што робім на сцэне. Калі людзі набываюць квіток на канцэрт, дык яны плацяць менавіта за выступ. У нас пакуль не актуальныя сэрвісы кшталту Apple Music. Я веру, што ў будучыні слухачы пачнуць фундаваць у музыку, а не красці яе на торантах. Піратства — паказнік краіны трэцяга свету. Пакуль усё, што я выпусціў, не акупілася. Гэта, калі казаць пра студыйныя запісы і іх продаж на стрымінгавых пляцоўках. І не таму, што нікому не падабаецца музыка. На наш погляд, людзі могуць удзельнічаць у жыцці гурта, калі гэта ім цікава. Ці набываць CD, ці mp3, ці яшчэ нешта — варыянтаў шмат. А калі заўсёды пішаш альбомы за свой кошт, гэта з'яўляецца паказнікам таго, што трэба падумаць, каму гэта патрэбна і навошта.

***— Вы выконваеце песні па-руску і па-беларуску, але часта выступаеце ў краінах Балтыі, а нядаўна быў тур па Германіі. Як там успрымаюць вашу музыку і тэксты?***

— Успрымаюць файна, нават часам, лепш, чым у Беларусі. Для замежнікаў гэта экзотыка, як для нас якая-небудзь нарвежская мова. Яны ўспрымаюць тэксты не як словы, а як музычны інструмент. У выніку атрымліваецца амаль інструментальная музыка. Слухачы павінны пагрузіцца ў тую атмасферу, якую мы ствараем, гэта вельмі важна.

Калі мы выступаем у краінах Балтыі, то гутарым мала, але размаўляем на той мове, на якой размаўляюць у гэтай краіне. Напрыклад, у Латвіі, я размаўляю вельмі мала, але па-латышску. Я не ведаю, але вучу тыя тэксты і словы, якія мне падабаюцца і патрэбныя. Гэта наша даніна павагі ўсім, хто прыходзіць паслухаць нашу музыку ў гэтай краіне. У нас заўсёды просяць відэазапрашэнне на латышскай мове — і мы публікуем.


## ПАДПІШЫСЯ!



У любым паштовым аддзяленні ўжо можна можна падпісацца на «Новы Час» на II паўгоддзе 2017 года

Падпісны індэкс: 63279


## Шаноўныя чытачы!

**Кожную суботу жыхары Мінска і Мінскай вобласці змогуць набыць новы нумар «Новага Часу» у бліжэйшым да дому шапіку «Белсаюздрук».**

Як абяцае кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук», газету «Новы Час» можна будзе набыць практычна ў кожнай гандлёвай кропцы Мінска і вобласці.

Мы заклікаем нашых чытачоў спраўджваць гэту інфармацыю і паведамляць у рэдакцыю пра адсутнасць газеты ў продажы.

**Рэдакцыя «Новага Часу» вельмі спадзяецца на вашу шчырую падтрымку!**


Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова № 403

Падпісана да друку 28.04.2017. 8.00.
Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.